ЯЗЭП ПАЛУБЯТКА

# ДУРАЛЕСІЦА

АПОВЕСЦЬ

**Ліда**
**“Пружмень”**
**2024 г.**

**Язэп Палубятка.** Дуралесіца. Аповесць. На беларускай мове. Ліда, ПУП “Пружмень”, 2024. 88 с.

У аповесці занатаваны адны суткі шматграннага і змястоўнага жыцця невялікага беларускага гарадка ў канцы Перабудовы, якую паспяхова праводзіла ў краіне жывая яшчэ Камуністычная партыя. Гэта трэці том “Сатырычнай гісторыі Беларусі”, але па часе аповесць “Дуралесіца” просіцца быць томам першым у колішнім “Поўным зборы твораў” Язэпа Палубяткі, які не толькі бачыў усё, што напісана, але і быў знаёмы з многімі героямі аповесці, а з некаторымі, што тут хаваць, і чарку браў, і чуў з першых вуснаў усе самыя інтымныя і дакладныя дэталі апісаных падзей.

Рэдактар: Мікола Канановіч.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.
Карэктура аўтарская.

Пад самы вечар, пасля напружанага працоўнага дня, па вуліцы невялічкага гарадка, якая мела назву Сонечная, месячы гразь, напрасткі цераз лужыны ішоў п'яны мужчына. Ішоў і гучна, ва ўсё горла, наколькі дазвалялі яму галасавыя звязкі, сіпла спяваў. Месцамі спевы нагадвалі парасячы віск. Спяваў ён ні больш - ні менш, як: "…раздайся мора г… плыве, а Ванька п'яны дахаты ідзе-е- е". Спяваў і ненатуральна доўга цягнуў канчаткі. Людзі, якія заўжды хлусяць сабе і іншым, з замілаваннем глядзелі на мужчыну, што так праўдзіва і катэгарычна не гаварыў, а спяваў пра сябе, і паспешна адыходзілі ўбок (жанчыны проста беглі), каб уступіць гэтай шчырасці шырокую дарогу.

Усе гэтыя людзі жылі на вуліцы Сонечнай і таму добра ведалі Ваньку Бубянцова. Ведалі, але слухаць яго шчырыя і праўдзівыя словы нават пра сябе чамусьці не хацелі. Толькі Саварыха, знакамітая агульнагарадская пляткарка, схаваўшыся за густы куст парэчак, уважліва, як разведчыца, сачыла за Бубянцовым і безбожна лаяла яго, удала выбіраючы крылатыя словы і трапныя народныя выразы, на якія так багатая наша забытая беларуская мова. Іншыя пешаходы ад воклічаў: "Каб ты спяваў у воўчых зубах" ці "Каб ты ўжо смалічкі напіўся" пачыналі азірацца ва ўсе бакі, але так нікога не пабачыўшы, назаўтра ішлі да доктара, каб праверыць свой слых і зрок. Народныя выразы Саварыха ўмела спалучала з тэзісамі апошніх пастаноў партыі, якія штодня слухала па радыё і чытала ў газетах.

- У-у, п'яніца! Каб ты скруціў галаву, сабака паганы! Куды толькі грамадскасць глядзіць, парткам і прафкам чым заняты. І дзе ты дастаеш гэтую гадасць… У магазіне днём з агнём не знойдзеш… Такія, як ты, скупляюць.

Жанчына сама ведала, што гаварыла глупства, бо купіць гарэлку ў цяперашні час у такім гарадку можна практычна ў кожнай кватэры, нават і ў начальніка раённай міліцыі, але не ў магазіне. Саварыха была першым Ванькавым ворагам пасля яго ўласнай жонкі, і ён пры кожнай сустрэчы шчыра, ад усяго сэрца абяцаў "адарваць ёй ногі за яе доўгі язык". Хударлявая, зграбная і жвавая на свае шэсцьдзесят гадоў жанчына пакуль што ў гэтым шматгадовым двубоі выходзіла пераможцай. Цвярозым Ванька Бубянцоў "не ўступаў з гэтым чортам у кантакт”, лічачы гэта ніжэй сваёй годнасці; п'яны (а напіваўся заўжды так, што насілу трымаўся на нагах) ён ужо не мог дагнаць жанчыну і толькі злосна выказваў свае пагрозы. Саварыха заўсёды здалёк заўважала Ваньку Бубянцова і таму павольна, з горда ўзнятаю галавою, заходзіла на свой падворак, зачыняла брамку на засоўку і "на дурную гутарку п'яніцы" адказвала культурна і ветліва: "Пацалуй ты мяне, мілы мой, у плечы ніжэй паясніцы". Такому звароту да сябе Ванька заўжды страшэнна радаваўся і … яшчэ хвілін дзесяць малаціў кулакамі ў брамку ды лаяўся на ўсю Сонечную вуліцу.

Не хацела слухаць Ваньку і ўласная жонка Зіна. Яна нават не хацела яго бачыць. Праўда, калі добра паглядзець на іх Богам дазволеную лучнасць, то аснову сям'і складалі шчырыя і добрыя адносіны паміж мужам і жонкай. Толькі "шчырыя і добрыя адносіны" былі завочнымі. З чатырох гадоў сумеснага жыцця Іван Бубянцоў усе чатыры гады беспрабудна піў. (Напэўна, "мачыў" сваю ўдалую жаніцьбу.) Тры з паловаю гады назад жонка перастала размаўляць з ім, а яшчэ праз месяц перастала паказвацца яму на вочы. Балазе, у доме быў яшчэ адзін уваход, і былі два асобныя пакоі, у якіх Зіна Бубянцова знаходзіла сабе сховішча пасля вяртання дамоў "свайго дарагога мужа".

Сямейны саюз сапраўды быў моцны. За чатыры гады "цудоўнага райскага жыцця" ў жонкі нават не з'явілася думка наконт скасавання шлюбу. Зіна і не думала "кантаваць" суджанага за беспрабуднае п'янства, а, наадварот, жадала, каб ён піў і піў, як мага болей. У дзень зарплаты яна купляла Ваньку бутэльку гарэлкі, а раз у месяц пакідала на стале "чырвонец".

У такія дні ў Ванькі Бубянцова ўзнікалі да жонкі самыя лепшыя пачуцці: каханне, каханне і яшчэ раз каханне! Гэтым "чырвонцам" жонка сведчыла пра сваё рэальнае існаванне. Зіна не праклінала Ваньку ў чорны камень, бо "на ўсе сто" была ўпэўнена, што яе суджаны ў хуткім часе здохне, згарыць ці проста задушыцца ад гарэлкі. Спадзявалася яна і на тое, што п'янага Ваньку Бубянцова пераедзе машына ці задушаць сябрукі-сабутыльнікі. Яна спала і бачыла сябе ўладаркай вялізнага дома.

Каторы ўжо год ёй тлуміла галаву і мроілася адно і тое ж! "Багатая ўдава - якое шчасце! Вось тады я і пажыву!" Для свайго светлага часу Зіна даўно ўжо прыкмеціла будучага спадарожніка жыцця, якому яна меркавала аддаць руку, сэрца і… усё астатняе. (Пра ўсё астатняе Зіна Бубянцова ў сваіх думках не разважала, але "астатняе мела для яе, як і для кожнай жанчыны, вялікае значэнне).

…А пакуль яна была вернаю жонкаю: ні на якія там заляцанні "ўсялякіх падшпаркаў" не звяртала ўвагі, "каб потым пасля Ванькавай смерці суседзі не гаварылі ўсялякага глупства". Напрыклад, што яна, "пэўна, зжыла са свету свайго мужа".

Ванька Бубянцоў не ведаў стратэгічных планаў сваёй жонкі, а цвёрда прытрымліваўся абранай тактыкі - піў, піў, піў штодня і несупынна. Хоць і пакінула такім чынам жонка Ваньку Бубянцова, але нельга сказаць, што ён застаўся сіратою гаротнаю ці бадыль бадылём у полі дзікім. Яго даглядала і ахайвала родная матуля. Яна з вялікіх матчынах пачуццяў пакінула ў другім горадзе ўтульную кватэру, дачку, зяця, унукаў (даволі рэдкі выпадак!) і прысвяціла рэшткі свайго жыцця сыну. Цяпер яна жыла разам з ім і нявесткаю, але да гэтага будынка не мела ніякага дачынення, і таму Зіна ў сваіх грандыёзных планах да ўвагі яе не брала.

… Ванька Бубянцоў пастрашыў Саварыху, паспрабаваў на моц яе плот, потым, як заўжды, супакоіўся і пайшоў дахаты.

- Ну што, лярва, дачакалася мяне?

Гэтае суровае штодзённае запытанне было адрасавана ў нікуды; Зіна даўно ўжо была на сваёй палове, нават замкнула за сабою дзверы. Маці сядзела ў покуці, дзе вісеў абраз"Тайнай вячэры", які зберагла ад зяця-бязбожніка, калі той з вялікіх атэістычных перакананняў хацеў знішчыць яго. Яе сухія, як трэскі, рукі ляжалі на прыполе. Сын не звяртаў на маці ніякай увагі, а працягваў вечна незавершаны дыялог са сваім нябачным супастатам, які быў за сценкаю. У гэты момант ён выступаў адразу ў двух іпастасях: суддзі і ахвяры.

- Грошы атрымала?

Ахвяра не чула грозных запытанняў суддзі, і ён таксама не чакаў ад яе адказу, на тым незвычайным судовым паседжанні ўсё было прадумана да дробязей.

- Атрымала, - адказаў сам "суддзя". Ён намагаўся гаварыць, як мага лагодней, каб ахвяра і ў будучым ставілася да яго прыязна. Прапіты голас не даваў такой магчымасці, але гэта была неістотная акалічнасць.

- Пляшку купіла? - пытанні суддзі былі канкрэтныя і гаварылі аб сутнасці справы.

Маці адначасова са страхам і жалем глядзена на свайго сыночка.

- Чакушачку?..

У вачах яе быў боль за сына.

- Паўлітровачку…

Здавалася, што яна вось-вось заплача.

- Здагадалася-такі, дурнічка.

Было дзесятае чысло бягучага месяца. Дзень, калі Зіна Бубянцова атрымлівала заработную плату. Ванька, пры ўсёй сваёй прапітай памяці ніколі не забываў такую знамянальную дату. Не забывала пачэснага абавязку перад мужам і Зіна. Яна звычайна купляла пляшку гарэлкі і ставіла ў старэнькі даваенны буфет, на якім не было "Знака якасці", але які быў зроблены сумленна і дабротна: нават паточаны шашалем, ды не паддаваўся Ванькаваму кулаку. Ванька Бубянцоў, хістаючыся падышоў да буфета і ўзяў адтуль пляшку, пры гэтым ў чарговы раз выказаў кулаком шчырую падзяку буфету.

- А на здачу семак купіла?

Тут са свайго месца паднялася маці.

- Ванечка! Ванечка! Сынок! Можа ты што-небудзь паесці хочаш? Я сёння крупнік варыла.

Крупнік яна варыла кожны дзень, але яе даражэнькі сыночак жабрацкую страву чамусьці не еў. Ён, як сапраўдны п'яніца, ніколі не закусваў.

Бутэлька "Маскоўскай" была для Ванькі самым каштоўным падарункам ад жонкі. Ён мог выпіць гарэлку дома за адзін глыток, нават не закусваючы крупнікам, але жаданне падзяліцца радасцю з суседам Мікалаем, паказаць, як аб ім клапаціцца жонка, было нястрымным.

Бубянцоў засунуў бутэльку за пазуху і шпарка пашыбаваў у госці да суседа. Такому госцю там былі заўжды рады! Жонка Мікалая, якая здалёк убачыла "жаданнага" госця, загнала сілай мужа і дзяцей у хату, замкнула дзверы і загадала, каб сядзелі там, "як мышы пад венікам і не пікнулі". Сама яна ўзяла ў рукі добры дрын і схавалася ў прыбудоўцы. На стук, які мог пабудзіць любога нябожчыка, ніхто не адклікнуўся. Зацятую маўклівасць суседзяў Ванька ацаніў наступным чынам:

- Гніды.

З усіх палітычных і навукова-папулярных лекцый, што былі прапанаваны Ваньку Бубянцову для ўсебаковага развіцця яго асобы, ён прыняў на веру толькі адзін выраз, які часта любіў гаварыць сабутэльнікам перад тым, як выпіць: "Няма той моцы, якую не адолеюць камуністы". Сябры Ванькі на тыя лекцыі прыцыпова не хадзілі і ў палітычных пытаннях былі менш адукаванымі, чым беспартыйны Іван

Івананавч Бубянцоў, але лічылі, што калі такую гадасць могуць піць камуністы, то беспартыйныя тым болей. Бубянцоў выйшаў на сваю родненькую Сонечную вуліцу непадалёку ад хаты знакамітай Саварыхі, прафесійна зняў з пляшкі "бесказырку", памянуў любімы лозунг, раскруціў бутэльку, шырока раскрыў рот і ўліў туды "цудоўную вадкасць". Гарэлка пайшла лёгка, без усялякага супраціву, толькі напаследак прыемна булькнула.

Справа зроблена. Пасля такога геройскага ўчынку зайсці дахаты Ванька Бубянцоў ужо не мог. Ён рашуча адкінуў у бок пустую пляшку, ступіў крок наперад і грымнуўся тварам аб разбураны машынамі і часам старадаўні брук. Ад сутыкнення з разбітага носа заструмілася цягучая бела-чырвоная вадкасць.

На гераічны ўчынак грузчыка базы мясцовага райспажыўгандлю Івана Бубянцова ніхто не звярнуў увагі - эпізод мясцовага значэння, і ён, напэўна, так і застаўся бы незаўважаным гісторыяй, каб не ўсё тая Саварыха, якая з самага пачатку і да канца была адзіным сведкам хвалюючай падзеі. Радасць жанчыны была бязмежнай, і такім жа нястрыманым было жаданне падзяліцца сваімі назіраннямі.

Спачатку яна звязала са "Станцыяй хуткай медыцынскай дапамогі", затым патурбавала міліцыю. У пажарную частку Саварыха тэлефанаваць не стала, бо лічыла, што там працуюць сябры Ванькі Бубянцова - п'яніцы. У мінулы раз пажарнік крычаў ва ўсё горла, што "таму дурню, які тэлефанаваў ім, калі даведаецца, то ўлепіць штраф і асабіста вырве ногі, а на іх месца паставіцьзапалкі". Даўно было тое, але і па сённяшні дзень Саварыха лічыла, што такое глупства мог сказаць толькі сабутэльнік Ванькі Бубянцова.

## II

Два экіпажы машын "Хуткай дапамогі", што заступілі на дзяжурства на начную змену (два кіроўцы і два дактары - адна з іх жанчына), ужо цэлую гадзіну рэзаліся ў падкіднога дурня. Не тое, каб у іх не было занятку - былі тры выклікі на вёску; сорак кіламетраў дарогі ў адзін бок. Проста, хворымі былі старыя людзі, і таму на такія выклікі тут ніхто ніколі не спяшаўся. А тым болей прынцыповая картачная спрэчка, якая вялася між экіпажамі не першы год, мела сягодня заблытаны сюжэт і таму была вельмі цікавай. Толькі тэрміновы выклік да чалавека, якога "прама на вуліцы страсянуў інфаркт", прымусіла людзей усё ж пакінуць свой любімы занятак. Па названым адрасе паехаў болей дасведчаны доктар Рыгор Банкевіч са сваім напартніка-кіроўцам Славам Калодкам,

па мянушцы "Лётчык". Сонечная вуліца пасля навальніцы была падобная на шырокую раку, што нясе свае магутныя, мутныя воды воды ў далёкае сіняе мора.

Бедалагу яны ўбачылі здалёк: ён ляжаў на ўскрайку лужыны ды яшчэ ўторнуўся носам у зямлю. Побач, акрамя ката, які выйшаў пагуляць, ды загледзяўшыся на Ваньку Бубянцова, ненарокам ступіў у ваду, а цяпер важна атрэсваў свае ногі, нікога не было.

- Вось яна наша бесчалавеснасць, - цяжка ўздыхнуў урач Банкевіч, і на вочы набеглі слёзы. - Памірае чалавек, і хоць бы адна сволач… Нелюдзі… Пазачыняліся ў сваіх халупах і носа не пакажуць.

Калодка спыніў машыну пасярод лужыны, быццам бы іншага месца не існавала, але доктар, які заўжды памятаў клятву Гіпакрата, быў нястрыманы ў сваіх міласэрных памкненнях. Ён рашуча скочыў у ваду і, як на грэх, трапіў у глыбокую наезджаную каляіну, пакаўзнуўся на склізкім дне, страціў раўнавагу і ўпаў. Але і гэта не зменшыла рашучасці ў міласэрнасці. Банкевіч хуценька выскачыў з лужыны, падбег да хворага і павярнуў яго на спіну.

Пасля першага беглага агляду чалавека доктар засумняваўся ў правільнасці дыягназу, які паведаміла ім па тэлефоне невядомы "ўрач-практык са шматгадовым стажам". У мужчыны з сінюшным тварам і асабліва непаўторным сінюшным колерам носа было спакойнае і раўнамернае дыханне, якое бывае ў людзей пры глыбокім сне. Яго твар быў увесь у сіняках і крывападцёках, а з рота ішоў смярдзючы пах перагару. І без кардыяграмы было зразумела, што першапачатковы дыягназ "урача-практыка са шматгадовым стажам" адпадае.

Прыступ міласэрнасці ў Банкевіча змяніўся прыступам гневу. Ён ужо другі тыдзень непрымірыма ставіўся да тых, хто нават не шмат п'е. Абзываў такіх людзей помпамі, алікамі, сінюшнымі насамі. Слоў такіх ён ведаў чортведама колькі.

Калі казаць пра Рыгора Банкевіча, як пра чалавека, то да апошняга часу ён быў самым звычайным п'яніцам. З ранку і да вечара быў заняты клопатамі, каб напіцца. Прапіваў усю сваю заработную плату, краў казённы спірт, а таксама дэфіцытныя лекі і прадаваў іх. Выручаныя грошы ішлі на выпіўку. Пасля таго, як Банкевіч звязаў сваё жыццё з гарэлкаю, яму давялося памяняць шмат пасадаў у мясцовай райбальніцы, пакуль урэшце яго апошні раз строга не папярэдзілі ды не далі апошні прытулак - урач "Станцыі хуткай медыцынскай дапамогі". Але і ў гэты раз ён не спыніўся: у той самы дзень "абмыў" сваю новую пасаду. Урэшце, здавалася людзям, што нішто не можа спыніць чалавека: занадта смачнаю для Банкевіча была гарэлка. Яго не стрымала нават

тое, што з ім разышлася жонка - яго першае і апошняе каханне. Аднак, спыніла сляпая і бездумная выпадковасць. Аднойчы, калі ён з вялікімі цяжкасцямі здабыў пляшку віна ў перыяд "сухога закону" (па-простаму "чарніла") і ад відушчага начальніцкага вока шмыгануў у гусценькі вішнячок, які рос у далёкім куце бальнічнага саду за сарцірам, адбылося нешта відавочнае, але неверагоднае. Перад тым у сарцір зайшлі дзве жанчыны, і пад напорыстае дзюрчанне ў іх ішла разважная гутарка пра мужчын. І калі адна з іх ненарокам памянула Банкевіч, то другая адрэгавала коратка: "А, Банкевіч - безнадзейны п'яніца".

Банкевіч, вядома, даўно ўжо прывык да розных гучных эпітэтаў у свой адрас, але словаспалучэнне “безнадзейны п'яніца" вельмі не спадабалася яму. Седзячы ў вішнячку, ён доўга разважаў над выказваннем, нават параўнаў яго з прафесійным медыцынскім выразам "безнадзейны хворы" - нябожчык. А тут “безнадзейны п'яніца” - пэўна, значна горш. У выніку роздуму над пачутым пра сябе Банкевіч вырашыў толькі (толькі!) праверыць сябе, ці зможа ён не піць.

Нявыпітую пляшку віна Банкевіч аднёс у сталярку, чым вельмі здзівіў сталяра, бо не было яшчэ выпадку, каб доктар з кім-небудзь дзяліўся. А калі апошні адмовіўся ад сваёй долі, то сталяр зняў шапку, заклапочана пачухаў лысіну і нясмела запытаў: "Не атрута?"

Пасля скасавання шлюбу Банкевічы разышліся па пакоях: у адным - жонка і дванаццацігадовая дачка, у другім - сам Банкевіч. Доктар заўжды быў за здаровы лад жыцця, а ў апошні час стаў схіляцца да спартанскага. У яго пакоі не было ніякай мяшчанскай атрыбутыкі: ложак, тумбачка, голыя сцены і лямпачка, якую да чарнаты заседзелі мухі. Усё астатняе, што пакінула жонка пасля падзелу маёмасці, дбайны гаспадар вынес і абмяняў на гарэлку.

У першы дзень свайго новага жыцця Рыгор Банкевіч, калі вярнуўся да хаты, папрасіў у дачкі якую-небудзь кніжку. Увесь вечар чытаў апавяданні пра подзвігі піянераў-герояў.

Такія паводзіны былога мужа вельмі здзівілі яго былую жонку.

На наступны дзень, калі доктар зноў вярнуўся дамоў цвярозы, памыўся ў ванне і ўзяўся за кніжку, былая жонка адступіла ад сваіх правілаў (пасля скасавання шлюбу яны прынцыпова не размаўлялі між сабой) і спытала:

- Ты часам не захварэў?

Рыгор Банкевіч адказаў ціха і ветліва, як у першыя гады іх сумеснага жыцця:

- Не! Дзякуй! Я зусім здаровы.

Гэты адказ здзівіў яе яшчэ болей.

А яшчэ праз два дні, калі былы муж апрануў свой стары спартыўны касцюм, абуў ірваныя ў падэшве кеды і пайшоў займацца фізкультураю, былая жонка канчаткова разгубілася.

Праз тыдзень Банкевіч зусім напалохаў яе да смерці. За грошы, што давалі хворыя за дэфіцытныя лекі і ўколы, ён купіў шпалеры і пачаў абклейваць сцены.

Тады былая жонка выбрала момант і спытала ў былога мужа:

- Ты жаніцца надумаў?

Банкевіч зноў адказаў ціха і ветліва:

- Не! З мяне хопіць! Я ўжо меў радасць зрабіць такое глупства.

Яго адказ крыху супакоіў жанчыну: іншай у яго пакуль няма. І яна вырашыла дзейнічаць.

Пасля такой кароткай, але вельмі інфарматыўнай размовы яна пайшла на кухню, зрабіла два вялізныя бутэрброды з каўбасой і паслала дачку (нявіннае дзіцё - ахвяра чалавечых інтарэсаў), каб тая пачаставала свайго бацьку.

…Калі канчатковы дыягназ хваробы чалавека быў устароўлены, доктар Банкевіч устаў і рашуча накіраваўся да машыны "Хуткай дапамогі", ды ў гэты момант да яго прыйшла геніяльная па прастаце, але жудасная па сутнасці думка: той, хто патэлефанаваў на "Станцыю хуткай дапамогі" назірае за ім. І тут лайся ці не лайся, а чалавек, няхай сабе і п'яны ў "дугу", не можа быць пакінуты доктарам на вуліцы.

Ад такой простай думкі ў доктара самлелі ногі і ўзапрэў лоб. Некалькі хвілін доктар стаяў ў роздуме пасярод лужыны, думаючы, што рабіць далей, і ўрэшце вырашыў, што рызыкаваць апошнім месцам працы, ды яшчэ пад час "новага" жыцця, не варта.

Банкевіч вярнуўся назад, зноў прысеў ля п'янага чалавека і ціхім жаласлівым голасам успомніў маму.

Гледзячы на ўсё гэта, мастак абавязкова намаляваў бы вялізнае палатно і даў бы яму назву "Сум на беразе мутнай ракі". У гэты момант каля машыны "Хуткай дапамогі" спынілася міліцэйская машына. З кабіны выскачыў зухаваты лейтэнант, а з "буды", дзе звычайна возяць затрыманых выйшлі пяць дружыннікаў.

Лейтэнант з важным вызглядам перахіліўся цераз Банкевіча, і стаў разглядаць чалавека на зямлі. Для яго ён быў не больш не менш як пацярпелы.

- Жывы? - спытаў міліцыянер спалоханым голасам.

- А што з ім станецца, - злосна прабурчэў у адказ Банкевіч.

- Калі ты прыехаў, то тут хто-небудзь быў яшчэ? - лейтэнант

гаварыў ціха, але даволі ўпэўнена.

- Каб хто-небудзь быў з ім, то зацягнуў бы яго да хаты, а не кінуў бы тут.

- Як да хаты? Я не разумею цябе. Некалькі хвілін назад, - лейтэнант хлусіў, бо зтаго часу прайшло добрыя паўгадзіны, - пазванілі дзяжурнаму і сказалі, што на вуліцы Сонечнай ідзе бойка: сценка на сценку. Ёсць пацярпелыя і нават адзін забіты. Напэўна, гэты.

Слава Калодка, які стаяў збоку, раптам гучна рассмяяўся: у яго таксама з'явілася геніяльная ідэя, што была вартая смеху.

- А нам пазванілі і сказалі, што на Сонечнай вуліцы чалавек памірае ад інфаркту.

Усё геніальнае - проста. І гэтая геніяльная прастата рассмяшыла ўсіх астатніх.

Адзін з дружыннікаў уважліва паглядзеў на чалавека, які ляжаў і пазнаў яго.

- Ой! Гэта ж Ванька Бубянцоў.

Лейтэнант устрапянуўся і радасна пацёр рука аб руку.

Другі дружыннік, як добры сышчык, адшукаў у кустах пустую бутэльку і як істотны доказ злачынства паказаў яе ўсім.

Справа высветлена, заява не падцвердзілася - ад неспадзяванай удачы лейтэнант затупаў нагамі.

- Ванька Бубянцоў, кажаш? Добра ведаем… Сапраўды Іван Бубянцоў?

- А хто ж яшчэ! Я яго ведаю, як аблупленага. Калісьці працаваў у нас.

- Так... Усё ўрэшце ясна. Паехалі хлопцы. Астатняе - клопат медыцыны.

- Як медыцыны? - зароў збянтэжаны Банкевіч. - Збіраць п'яніц - ваш ганаровы абавязак.

Але яго ўжо ніхто не пачуў: дружыннікі і лейтэнант сядзелі ў машыне, а шафёр ціснуў на "газ".

Міліцэйскі нарад ехаў з месца здарэння значна хутчэй, чым ехаў сюды.

- Дапамажы.

Слава Калодка зразумеў доктара з паўслова. Праз імгненне бязвольнае цела Ванькі Бубянцова глуха ляпнулася ў кузаў.

План доктара быў вельмі просты. Трэба было дагнаць міліцэйскую машыну, абагнаць яе, стаць упоперак дарогі і… прымусіць міліцэйскі нарад забраць да сябе п'янага.

- Цісні, Лётчык, цісні! - крычаў не сваім голасам шафёру доктар,

нібыта ў гэты момант вырашалася пытання жыцця і смерці чалавека.

- Спакуха, Банік! Толькі спакуха! - самаўпэўнена цвердзіў Калодка. - Яны далёка на сваёй калымазе не ўцякуць. Калі я не абганю іх, то з'ем свае правы і ніколі не сяду ў машыну.

Вуліца Сонечная напалову была выплескана коламі аўтамабіляў і добры дзесятак мінакоў быў абляпаны з ног да галавы брудам. "Хуткая дапамога" імчала наўздагон. Абзываць міліцэйскую машыну "калымагаю" Слава Калодка меў падставу. Гэта была настолькі старая і настолькі заезджаная машына, што яе абганялі падлеткі-ваварысты.

… Але ўсё ж Калодка памыліўся, не различыў свае магчымасці, перабольшыў свае здольнасці. Дагнаць міліцэйскі фургон ён змог хутка, але абагнаць яго, каб урэшце спыніцца паперадзе, як задумаў Банкевіч, яму не ўдалося. Фургон займаў усю праезжую частку вуліцы, а шафёр, як прадстаўнік небмежаванай улады, прывык ездзіць толькі пасярэдзіне дарогі. Так яны заехалі ў міліцэйскі двор.

Лейтэнант і шафёр-сяржант хуценька выскачылі з машыны і, як зайцы з перапуду, стрымгалоў сіганулі ў будынак райаддзела, замкнулі дзверы на ключ. Дружыннікі засталіся ў будзе.

І ў гэтай складанай сітуацыі, якая ўзнікла так нечакана, доктар знайшоў выйсце. Ён вырашыў кінуць п'янага чалавека прама ля ўваходу і спакойна паехаць на "Станцыю хуткай дапамогі".

Але яго плану не суджана было збыцца. Людзі, што зачыніліся ў будынку, нібыта ўмелі чытаць думкі іншых на адлегласці. Адчынілася фортка ў акне дзяжурнага, і сіплы голас адтуль строга папярэдзіў іх, што яны не паспеюць даехаць да бальніцы, як аўтаінспектар адбярэ правы ў шафёра і ўрэшце паставіць машыну "Хуткай дапамогі" на прыкол.

Гэта складаная сітуацыя, а калі так, то ў справу ўмяшаецца начальства. Банкевіч ужо меў ад кіраўніцтва дзевяцьсот дзевяноста дзевяць папярэджванняў, заўваг, вымоў па частцы розны выбрыкаў пасля ўжывання і злоўжывання медыцынскага спірту, а таксама гарэлкі, віна, самагонкі, і таму не хацелася лішні раз дражніць сабак, бо ўсяроўна ніхто не паверыць, што ён, Банкевіч, быў на дзяжурстве цвярозы. Банкевіч уступіў, але гэта не значыць, што міністэрства аховы здароўя ў асобе доктара пацярпела паразу ў вайне за чалавечую душу з усемагутным міністэрствам унутраных спраў. Проста такая тактыка ў гэтым выпадку была не эфектыўнай, не давала жаданага выніку і таму адпадала.

Здавалася, усё зразумела, але доктар раззлаваўся і пачаў пагражаць тым, хто зачыніўся ў будынку, паабяцаў, што будзе тэлефанаваць начальніку райаддзела.

Нашчадкі жалезнага Фелікса, што схаваліся за гэтымі сценамі

грозных муроў, ветліва і добразычліва падалі праз фортку трубку, і ў Банкевіча прапала ўсякае жаданне тэлефанаваць.

Далей доктар пачаў ганьбіць тых, хто так несумленна абышоўся з п'яным чалавекам, а разам з імі ўсю мясцовую міліцыю, а затым ён памянуў нядобрым словам органы ўнутраны спраў увогуле. У адказ яму пачуся дружны смех, які ў асобных выпадках быў падобны на конскае іржанне.

Урэшце Банкевіч пайшоў на дружалюбныя перамовы, але і з гэтага нічога не атрамалася.

- Ну, хлопцы, выслухайце хоць мяне.

- Калі ласка.

- Ён жа п'яны. Ён ваш чалавек.

- Не, мілы мой! Ён пе проста п'яны, ён п'яны ў дрыбадан. Тым болей, што гэта Ванька Бубянцоў.

- Бубянцоў…

- Валацуга…

- Нехрысць… - непрымірыма загаманілі за міліцэйскімі сценамі людзі ў некалькі галасоў.

- Вось і кіньце яго ў мяшок няхай праспіцца.

- А калі ён сканае, згарыць ад гарэлкі. Нас жа па судах зацягаюць.

- Ён здаровы. Ён вытрымае.

У голасе доктара адчувалася шкадаванне самога сябе.

- Твае словы - нам не гарантыя. Да справы не падшыеш. А калі і выжыве, то ў яго ўся морда расквашана. Ён праспіцца і раненька пабяжыць да вас ў лякарню. Вы яму паспачуваеце, выдасце даведку пра цялесныя пашкоджанні, а ён з гэтаю даведкаю ў пракуратуру: у міліцыі здзекваліся, мардавалі. І нас зноў па судах зацягаюць. Так ці не так?

- Так, - неахвотна адказаў Банкевіч.

- Ды, мы ведаем гэтага анцыхрыста.

- Ён на ўсё здольны, - зноў загаманілі за дзвярыма.

- А ты шпільнеш яму адзін, два ўкольчыкі - парадак. А калі штонебудзь здарыцца з ім ў вашай багадзельні, то цябе за гэта не пасадзяць і з працы не выганяць. У вас усяроўна ці чалавек проста памрэ, ці вы яго зарэжаце - ніхто не нясе адказнасці. Так ці не?

- Так, - пагадзіўся ў другі раз Банкевіч, развярнуўся і пайшоў да машыны, дзе чакаў яго Слава Калодка. Апошні падрыхтаваўся ўжо да самага горшага і таму засунуў свае шафёрскія правы як мага далей пад сядзенне.

Ванька Бубянцоў нічога гэтага не чуў і не бачыў. Ён быў выключаны з рэальнага жыцця непамернай дозай алкаголю. Такое было для

яго найвялікшым шчасцем. Проста здзейснілася яго запаветная мара, аб чым ён заўжды назаўтра гаварыў прыкладна так: "Учора набраўся. Во, клас!" Бубянцоў не прачнуўся нават тады, калі яго неслі, потым проста кінулі на падлогу прыёмнага пакоя. Некалькі дактароў, санітарак і два шафёры запісалі ў кнізе рэгістрацыі прозвішча Бубянцоў, і паставілі вялікі пытальнік. Іншыя звесткі адсутнічалі. А яшчэ праз паўгадзіны, пасля доўгіх непрымірымых спрэчак, якія часам пераходзілі ў звычайную лаянку дзяжурнага персаналу між сабою, Бубянцова, каб ён не тубаваў хворых, размясцілі на адну ноч у пустой палаце, дзе звчайна клалі раённае начальства незалежна ад іх хваробы, а то і зусім здаровых, калі ім трэба было перачакаць нейкую камісію ці праверку. Гэта была аднамесная самая светлая і самая чыстая палата ў райбальніцы. Ваньку Бубянцова паклалі на чыста засланы ложак і нават не звярнулі ўвагі на тое, што ён быў мокры і ўвесь запэцканы граззю, акрамя іншага, ад яго ў апошні момант пайшоў непрыемны смурод.

## III

Лейтэнант Піліпчук, які правёў бліскучую аперацыю па збаўленні раённага аддзела ўнутраных спраў ад Ванькі Бубянцова, вырашыў прайсціся па горадзе, паглядзець на парадак. На маршрут разам з ім пайшлі дзяўчаты-дружынніцы. Дзяўчаты, вядома, не маглі затрымаць злачынцу, супакоіць хулігана, адвесці, куды трэба, п'яніцу, але павінны былі пэўную колькасць дзён на працягу года наведацца ў міліцыю, каб атрымаць прэмію… у пяць рублёў. Іншыя міліцыянеры на сваім дзяжурстве адмахваліся ад жанчы і дзяўчат, а лейтэнант Піліпчук быў ім вельмі рады. Ён быў не жанаты, прычым яшчэ малога росту і меў непрыгожы васпаваты твар. І толькі пад час дзяжурства з дружынаю ён мог пакрасавацца ў дзявочай кампаніі.

Ішлі яны нетаропка. У Піліпчука быў вясёлы настрой. Ён безупынна распавядаў пра сваю службу, пра бандытаў, пра пагоні, засады, пра ўсё тое, аб чым можна прачытаць у любым прыгодніцкім рамане, а дзяўчаты ні на крок не адступалі ад яго і ўважліва слухалі.

Так яны прайшлі дзесьці з кіламетр. І ў гэты момант адна з дзяўчат, якая так ласкава глядзела на лейтэнанта, гаротна ўздыхнула і сказала:

- А нашыя мужыкі зноў пабеглі піць піва.

Тут лейтэнант Піліпчук ціха войкнуў, узяў, каб не згубіць, у руку фуражку і, дэманструючы выдатную міліцэйскую выпраўку, што было духу, ірвануў назад.

Так хутка ён бег толькі на мінулым тыдні, калі ўцякаў ад падлет-

каў, якія збіраліся пабіць яго за тое, што ён забараняў ім слухаць у парку магнітафон.

Дзяўчаты здзіўлена пераглянуліся між сабою, спыніліся, бо не ведалі, што рабіць: ісці далей ці вяртацца назад.

Піліпчук вярнуўся да іх праз дзесяць хвілін у суправаджэнні пяці дружыннікаў, якія да гэтага часу сядзелі ў аўтазаку. Яны ішлі крышку ззаду і ўголас гаварылі яму прыкрасці: такія як: "Падла рыжая", "кныш", - а то і зусім крыўднае - "недаробак". Лейтэнант трымаўся мужна - увесь час маўчаў і толькі, калі зноў апынуўся ў дзявочай кампаніі, павесялеў і пачаў зноў распавядаць свой міліцэйскі раман.

Дружыннікі - мужчыны і хлопцы - ішлі ззаду за дзявочай кампаніяй і ўжо з задавальненнем успаміналі "залаты век" развітога сацыялізму, калі яны ў час дзяжурства з пачатку і да канца рэзаліся ў карты, а потым, каб перадыхнуць, рабілі невялікі перапынак і ішлі ў бліжэйшы піўбар ці пасылалі шафёра з міліцыянерам у вёску па самагонку.

Так паўтаралася кожны дзень, кожнае дзяжурства.

Славутае антыалкагольнае заканадаўства зрабіла сваю заганную справу.

З гэтай нагоды вечарам вуліцы гарадка пусцелі, і толькі жахлівую цішыню калі-нікалі парушала задушэўная песня п'янага чалавека.

Нешта падобнае здарылася і зараз.

…На адзінай плошчы гарадка, абняўшы асвятляльны слуп, стаяў сталага ўзросту мужчына і размаўляў, уяўляючы, што побач з ім каханая.

- Радасць мая! Я так засумаваў па табе. Не было мне без цябе ні сну, ні спакою. Я сустрэў нарэшце цябе, сэрца маё. Цяпер мы навекі будзем разам. Ніхто нас не зможа разлучыць да самае магілы.

Дружыннікі і міліцыянер уважліва выслухалі маналог Адысея-бамаўца і ацанілі яго дружным смехам.

Бамаўцам называлі гэтага чалавека таму, што ён працаваў на слыннай будоўлі веку аж цэлы месяц і ўжо дзесяць гадоў распавядае кожнаму сустрэчнаму пра сваю гераічную працу.

Вядома, што кожны п'яны на вуліцы - за рэдкім выпадкам, якім быў у гарадку Ванька Бубянцоў - неўтаймаваная радасць для міліцыянераў. І ўсё ж у вачах дзяўчат лейтэнанту захацелася выглядаць культурным чалавекам. Патрабавальным і культурным.

- Ну што, герой БАМа! Шпалы ўсё кладзеш. Каштылі забіваеш. Якое свята ў цябе сёння? Датэрміновая збойка чарговага тунэля, і табе, вядома, як ударніку, не менш як ордэн пачапілі.

Асабліва радаваліся і гучна смяяліся дзяўчаты.

Мужчына, хоць і быў п'яны, але ўсё ж зразумеў, што над ім пачынаюць кпіць, і таму нешта злоснае прамармытаў у адказ ды адпусціў рукамі слуп. Зямное цегаценне пачало рабіць сваю заганную справу, бамавец пачаў падаць. Каб утрымацца на нагах, ён зноў ухапіўся за жалезабетонную апору.

- Бачу, бачу! Стаміўся ты, Строк, пасля напружанага працоўнага дня. Не хвалюйся, калі ласка, зараз па цябе экскорт прыедзе. Ціхановіч, твой участковы, сабраў ужо неабходныя на цябе паперы, і мы адправім цябе на заслужаны адпачынак, магчыма, нават на два гады.

Прафесійны алкаголік адразу зразумеў, што яго збіраюцца паслаць на прымусовае лячэнне, і з вялікай радасці расхваляваўся. За такую міласць ён выказаў падзяку лейтэнанту Піліпчуку, а ў яго асобе ўсім органам унутраных спраў.

- У - у! Лягавыя…

Лейтэнант, болей нічога не гаворачы, пабег да бліжэйшага тэлефона-аўтамата, каб патэлефанаваць у райаддзел і выклікаць машыну "хуткай дапамогі для алкаголікаў" з празаічнаю назваю "аўтазак".

Чалавек не мог самастойна зрабіць і кроку, але дружыннікі засталіся пільнаваць яго, каб не збег.

Урэшце Строк аслабеў, не мог утрымацца на нагах і асунуўся ўніз. Потым сеў на зямлю. Сядзець яму было даспадобы, і ён з задавальненнем выцягнуў ногі ўперад. У гэты момант каля людзей, што сабраліся ў вольную часіну паглядзець сцэну з жыцця раённага гарадка, праходзіла адна ні то інтэлегентная, ні то высакародная пані (у наш час і для сталіцы, і для правінцыі не існуе мяжы для іх). Яе ні то высакароднасць, ні то інтэлегентнасць выразна падкрэсліваў бульдог, чыю чыстакроўнасць за адсутнасцю патрэбнага донара папсаваў мясцовы Жучок, але гісторыя пра гэта, як пра шмат што іншае, сарамліва маўчыць.

Значыць так: жанчына ў цёплы ціхі травенскі вечар вывела пагуляць ні то бульдога, ні то… бог ведае якой пароды сабачару. Яна заўжды ведала пра сваю звышчалавечую годнасць і таму не стала назіраць за падзеннем нораваў тутэйшых жыхароў, а горда павярнула галаву ў другі бок і прайшла міма. Яе Тусік меў на гэты конт іншую думку. Не звяртаючы ўвагі ні на кога, ён падбег да слупа, каля якога сядзеў Строк, і без усялякага сораму - жывёліна ўсё ж, хоць і савецка-панская - зрабіў сваю справу, дзеля якой вывела яго ганарыстая гаспадыня. Сабачая вольнасць уразіла Строка. Яму стала шкада сябе, і ён заплакаў.

- Бедалага, ты, бедалага! Хутка і мяне чакае твая доля. Па свістку, па распарадку буду хадзіць апраўляцца. Лепш ужо турма, чым такое лячэнне. Ведаю, што гэта такое. Ужо лячыўся. Ой-ёй-ёй! Гаротная наша

з табою доля.

Сабака ўважліва выслухаў чалавека, а для гэтага ён нават схіліў галаву на бок і падняў уверх правае вуха. Выслухаў і распазнаў у ім родную душу, затым падціснуў хвост і падышоў бліжэй. Каб канчаткова ўпэўніцца, што чалавек не хлусіць, сабака старанна абнюхаў яго: так і ёсць - праўда, толькі праўда і нічога акрамя праўды. Затым ён сарамліва апусціў вочы да долу, выцягнуў уперад галаву - поўны надзеі, што яго пагладзяць. І каб дасягнуць поўнага ўзаемаразумення з сабакам, Строк пагладзіў сваю "родную душу". Тусік не сустракаў такой пяшчоты ніколі, таму падышоў яшчэ бліжэй ды ўткнуўся пысаю ў шчаку свайго новага сябра. Мужчына пагладзіў сабаку яшчэ раз, абняў за шыю і паклаў на шырокую спіну галаву.

Лейтэнант Піліпчук вярнуўся хутка, а за ім неўзабаве прыехаў слынны міліцэйскі фургон. Затрыманне п'янага чалавека на цэнтральнай плошчы гарадка, ды яшчэ перад вокнамі будынка, у якім размяшчалася ўсё раённае кіраўніцтва, зацягнулася, і трэба было канчаць з усім гэтым як мага хутчэй.

Калі Тусік пабачыў, што над яго новым сябрам навісла рэальная пагроза, то адразу грозна загыркаў. Смеласць і рашучасць у лейтэнанта раптоўна знікла. Ён спыніўся, са страху затупаў нагамі і ўжо, не звяртаючы ніякай увагі на дзяўчат, піскліва закрычаў:

- Пшоў вон! Пшоў вон!

Сабака адчуў пагрозу ўжо ў свой бок і таму загыркаў яшчэ мацней.

- Чый сабака? Застрэлю!

Але страляць лейтэнанту не было чым. Яго пісталет ляжаў у сейфе, за тоўстымі дзвярыма, замкнуты на некалькі ключоў, якія пільна ахоўваў дзяжурны па райаддзеле. Тады лейтэнат Піліпчук выцягнуў уперад руку і наставіў на сабаку палец, уяўляючы, што ў руках пісталет.

- Пах!

На такія несур'ёзныя паводзіны міліцыянера Тусік скокнуў да яго ног і ўшчарэпіўся зубамі за калашыну. Дружыннікі са страху разбегліся, хто куды.

Ці то казённае сукно было нізкай якасці, ці то бульдог меў вострыя зубы, але калашына была разарвана ад калена да самага нізу. Сабака таксама папсаваў скуру на назе лейтэнанта.

Тусік пасля таго, як здзейсніў удалы рэйд у стан ворага, хуценька вярнуўся да свайго сябра.

Строк адчуў, што ў яго з'явіўся надзейны абаронца, і адразу пасмялеў.

- Вось вам, гадам! Будзеце ведаць, як герояў БАМа крыўдзіць.

Лейтэнан адступіў зусім не геройскім манерам: кульгаючы адбег да машыны і ўжо адтуль пачаў злосна крычаць і дражніць сабаку.

- Чый сабака? Застрэлю. Строк прагані… Прагані, кажу, інакш табе горай будзе. У… маці… вашу…

Сабака гыркаў.

Гаспадыня яго, якая мела гонар называцца ў простанароддзі жонкаю раённага вярхаводы, дэманструючы мясцовым плебсам ні то сваё высакароддзе, ні то сваю інтэлегентнасць, адышла далёка і не заўважыла, куды дзеўся яе Тусік.

Неведама колькі яшчэ часу перагыркваліся б міліцыянер з сабакам і чым увогуле гэта ўсё скончылася б, каб не Строк, які не змог зберагчы новага сяброўства. Ён сваёй п'янай мазгаўнёй не змог нават падумаць, што такая жывёліна, як сабака, можа быць надта далікатнаю істотаю. Чалавек быў рады, што ў яго з'явіўся надзейны сябар, які так рашуча стаў на яго абарону, і ён (Строк) пачаў хваліць сабаку як мог, як умеў, не выбіраючы слоў і не думаючы пра сэнс сказанага.

-Малайчына, радасць мая! Шчасце ты маё чатырохлапае. Ты хоць з пароды лягавых - брат іх значыць - але свой у дошку.

Ад такога параўнання Тусік пакрыўджана, з вачыма поўнымі слёз глянуў на свайго сябра, апусціў галаву і шпарка пабег даганяць сваю шаноўную гаспадыню.

У далейшым справа затрымання ардэнаноснага бамаўца, злоснага парушальніка грамадскага парадку і лайдака Вадзіма Строка была простай і нецікавай. Чатыры дружыннікі ўзялі яго за рукі і ногі, асцярожна панеслі і паклалі ў фургон.

Ехаць Строку на два гады на лячэнне ўсё ж не хацелася, але яго п'яная галава, якая разам з машынаю падскаквала на калдобінах, не магла нічога прыдумаць, каб пазбегнуць бяды.

Калі Строка пачалі выводзіць з машыны, то ён проста пачаў упірацца і чапляцца рукамі і нагамі за розныя вуглы і выступы, чым вельмі раззлаваў пакусанага лейтэнанта, і той, доўга не думаючы, садануў яму кулаком у плечы. Удар аддаўся Строку колікамі ў сэрцы. Тут розум яго раптам прасвятлеў ды нарадзіў выдатную ідэю - ён вырашыў разыграць сардэчны прыступ. Строк меў пэўныя акторскія здольнасці, аб чым сведчыць нават тое, што яго бамаўскія байкі і сёння мелі поспех ды прыносілі яму дэвідэнды ў якасці піва ці шклянкі віна на пахмел.

Ён гучна войкнуў і схапіўся за сэрца. Нягледзячы на істэрычныя крыкі: "Сэрца, сэрца", - дружыннікі завалаклі Строка саматугам у пакой дзяжурнага. Там ён паваліўся на казённую лаўку, куды звычайна садзілі

затрыманых, але потым упаў на падлогу і працягваў валтузіцца ды крычаць пра неўтаймаваны боль у сэрцы.

Спачатку міліцыянеры і дружыннікі весела смяяліся і казалі бамаўцу, каб ён перастаў "ламаць камедыю", перастаў прыдурняцца і не браў на "понт", але праз дзесяць хвілін несупыннага енку пачалі па чарзе спалохана заглядаць у аптэчку. Яна вісела на сцяне, і ў ёй была толькі адна шклянка, якой міліцыянеры пілі самагонку, што прывозілі з рэйдаў. (Тут жа звычайна пісалі акты на знішчэнне гэтай атруты.) Яшчэ праз пяць хвілін рука дзяжурнага пацягнулася да тэлефона і палец неахвотна крутануў зусім непажаданае 03.

Неўзабаве прыехала "Хуткая дапамога". Урач Банкевіч, які губляўся у здагадках наконт усяго гэтага, увайшоў у пакой дзяжурнага, важна нясучы перад сабою чамаданчык з лекамі. Лейтэнант Піліпчук загадаў, каб доктар даў Строку ўкол ад сімулянства, упэўнены, што такія існуюць. Банкевіч, як і належыць доктару, уважліва паглядзеў на хворага, цвяроза ацаніў сітуацыю і цвёрда вырашыў адпомсціць за здзек міліцыянераў у апошні раз. Ён паслухаў Строка, пастукаў па спіне і, быццам бы між іншым, запытаў:

- Вас білі?

Тут перабіваючы адзін аднаго дружна загаманілі дружыннікі і лейтэнант.

- Хто яго біў?

- Ніхто яго не чапаў…

- Каму ён патрэбны…

Банкевіч не звярнуў увагі на ўвесь гэты шум-гам і зноў запытаў у чалавека, які ляжаў перад ім на падлозе і так страшэнна лямантаваў.

- Скажыце, ці штурхалі вас пад сэрца?

- Вось ён, - паказаў Строк на Піліпчука. - У плечы біў… - і зноў зароў немым голасам.

- Ясна. Усё зразумела.

Банкевіч устаў з календ і паглядзеў на лейтэнанта вачыма, якімі пракурор глядзіць на злачынцу. Той у адзіны момант расчырванеўся і тут жа зрабіўся белым, як крэйда: твар, вушы, шыя.

- Не біў я яго! Не біў! Я проста піхануў яго ў плечы, калі ён не выходзіў з машыны.

Строк загаласіў яшчэ мацней.

- Я ўпэўнены, што гэта інфаркт.

- Гэта ад гарэлкі ў яго.

Ведаючы, што нашыя міліцыянеры знаюць медыцыну, як свае службовыя абавязкі, Банкевіч рашуча пайшоў у атаку.

- І ад удару таксама. Верагодней, што ад удару. Гэта вам скажа любы доктар, а экспертыза дасць дакладнае заключэнне.

Дзяжурны па райаддзеле капітан Елісееў перапалохаўся да паўсмерці, на ўсякі выпадак хуценька адправіў дружыннікаў на маршрут, сам клікнуў Банкевіча ў другі пакой і пачаў шэптам гаварыць:

- Тут х-хлопцы сёння п-прывезлі… Во-о! - Елісееў выцягнуў з-пад стала вялізны глячок нейкай мутнай вадкасці. - В-вось такая штука. Трымай шклянку.

- Я не п'ю.

- Даўно? - ад здзіўлення ў капітана расшырыліся вочы.

- Другі тыдзень, - з задавальненнем адказаў Банкевіч.

- Дык вазьмі з сабою. Хлопцаў пачастуеш. Дзе яны зараз дастануць. Позна ўжо. Вечар.

- У нас на працы не п'юць, - сказаў, як адрэзаў Банкевіч і, гледзячы на парваную калашыну лейтэнанта, запытаў: - Што гэта ў вас з нагою?

- Сабака ўкусіў, - шчыра адказаў Пііпчук.

- Шалёны?

- Бульдог. Адразу відаць: парода… Але вось што цікава! Стаў каля гэтага алкаголіка і нікога не падпускае. Вочы чырвоныя…

- Што вы апошняе сказалі?

- Вочы чырвоныя, кажу, - паўтарыў лейтэнант.

- Калі вочы чырвоныя, значыць, шалёны.

Доктар хуценька прынёс з суседняга пакоя свой чамаданчык.

- Распранайцеся. Дам укол супраць шаленства. Сёння адзін і запішу ў картку. Заўтра прыйдзеце на прыём. Там вам прызначаць курс лячэння ў сорак уколаў, па аднаму штодня.

Піліпчук не баяўся ўколаў, але працяглы курс лячэння ўшчэнт ламаў яго планы. Ён збіраўся хутка пайсці ў адпачынак і паехаць да цёткі, бо тая абяцала ажаніць яго з нейкай надта добрай дзяўчынай, якую кахаюць усе хлопцы, але ніхто не бярэ замуж.

Незадаволена штосьці балбочучы сабе пад нос, на што доктар таксама не звярнуў ніякай увагі, лейтэнант пачаў распранацца: спусціў да калень ірваныя казённыя парткі, потым - адзіныя у свеце па свайму фасону і непаўторныя па малюнку - калгасныя трусы, якія, дарэчы, вельмі ўпрыгожвалі маладога хлопца. З-за адсутнасці мэблі, на якую можна было легчы, ён узяўся рукамі за крэсла і сагнуўся, добра выпучыў адно месца, такое ж рыжае, як і твар. Банкевічу, яшчэ сярдзітаму на лейтэнанта, раптам вельмі ўжо захацелася гвазденуць нагою пад гэты ўтыканы доўгімі рэдкімі валасінамі рыжы азадак. Укол быў настолькі балючы, што Піліпчук закрычаў яшчэ гучней, чым лямантаваў у

суседнім пакоі Строк.

Капітан Елісееў моўчкі назіраў за ўсім гэтым збоку і радаваўся ў душы, што яго ніколі не кусалі сабакі, а калі доктар закончыў сваю справу, нясмела запытаў:

- Ты зябярэш гэтага алкаголіка з сабою?

- Вядома. Не буду ж я пакідаць хворага чалавека, вам, касталомам, - адказаў Багданкевіч і сур'ёзна загадаў: - Бярыце насілкі і нясіце яго ў машыну.

Піліпчук узяўся рукою за сцягно і, прыкульгваючы, хуценька збегаў па насілкі.

Затым яны на пару з дзяжурным па райаддзеле далікатна паклалі Строка на насілкі і гэтак жа далікатна аднеслі яго ў машыну.

Потым Піліпчук улучыў момант і хацеў усунуць у кішэню Банкевіча дзесяць рублёў, але той адкінуў руку і грозна сказаў:

- Мець такога суседа па нарах не жадаю.

Ад такіх слоў на душы ў лейтэнанта Піліпчука зрабілася сумна і журботна, і ён, як нежывы, звесіў галаву ды паплёўся следам за дзяжурным.

Калі "Хуткая" ад'ехала некалькі соцень метраў ад міліцыі, Банкевіч папрасіў шафёра спыніцца, а сам адчыніў акенца між кабінай і салонам сказаў:

- Хворы! Свечку ў царкве не забудзь паставіць за маё здароўе.

Строк зразумеў, што бяда яго ў гэты раз мінавала, але дурасць пры тым не прайшла, і ён, як раней, павёў сябе нахабна - сеў на насілкі і катэгарычна заявіў:

- Вязі на Вашабіткі.

Доктару не хацелася ехаць на гэтую "вясёлую" ўскраіну гарадка і таму ён сціпла прапанаваў чалавеку:

- Калі жадаеш, то магу адвезці назад.

- Не! Не! Дзякуй, сам дайду, - паспешна адказаў Строк і хуценька выскачыў з машыны.

Рыгор Банкевіч вярнуўся на службу са спакойным сэрцам: сённяшні двубой з міліцыяй яму ўдалося звесці ўнічыю.

## IV

Антон Пятровіч Крыніца - першы сакратар райкама партыі - вяртаўся дамоў, як заўжды, позна. Ён добра памятаў народную прымаўку, што веснавы дзень год корміць, старанна сеяў і садзіў, не выходзячы з кабінета. Толькі што Крыніца тэлефанаваў у Мінск і папрасіў

выдзеліць яму аўтамабіліль "Мэрсэдэс", а калі сабраўся ісці і выпадкова глянуў у вакно, то пабачыў, што нейкія бэйбусы з міліцыі перад вялікім натоўпам людзей дражняць яго любімага Тусіка. Не раздумваючы ні хвіліны, ён патэлефанаваў на кватэру начальніка райаддзела ўнутраных спраў. Той доўга не мог зразумець матывы гэтага тэлефоннага званка, бо яшчэ ўчора на нейкай канферэнцыі першы хваліў яго добрую працу і ставіў усім у прыклад. А цяпер, калі ўбачыў, што яго Тусік саступіў у спрэчцы з міліцыянерам - падціснуў хвост і пабег прэч - Крыніца сказаў, што яго лейтэнанты ўмеюць толькі дражніць шчанюкоў. Начальнік райаддзела тут жа паабяцаў даведацца прозвішча таго лейтэнанта і "спілаваць яму рогі", каб ведаў да якіх сабак трэба прыставаць, а да якіх - не.

Крыніца быў галодны, як воўк у снежную зіму. Дома ён толькі паспеў выпіць вячэрні кілішак каньяку і падсунуў да сябе смажанага сома - падарунак дырэктара мясцовага рыбгаса, - як тут неспадзявана і патрабавальна зазваніў тэлефон. Турбавала міжгародка. Верны сябра з вобласці папярэдзіў, што да яго, Крыніцы, заўтра прыязджае камісія - аж з самога ЦК.

Затахкала сэрца, і душу ахапіла роспач. Апетыт быў сапсаваны, але Крыніца ўсё ж з'еў пяцікілаграмовага сома. У час яды ў галаву палезлі розныя думкі: патрэбныя і непатрэбныя. Спачатку яго магутны "аналітычны розум" перабраў "усе казырныя карты" (любімы выраз), магчымыя варыянты наступу на камісію - удалае наступленне заўжды стопрацэнтая гарантыя таго, што цябе пакінуць на пасадзе. Аднак, змяніўся час: цяпер камісію не задаволіш бочкаю мёду, камісія не паедзе ў лазню з дзяўчатамі… Баяцца за сваю шкуру.

Старанна пераходжваючы мяса старога сома, ён пачаў прыдзірліва перабіраць магчымыя варыянты абароны. Тут таксама поўны правал. Новае абласное кіраўніцтва не мае да яго ласкі.

Ад такога аналізу ён засумаваў і не заўважыў, што пачаў кусаць вус сома. Калі заўважыў, што з'еў палову вуса, то зрабілася блага. Затрасліся, як у ліхаманцы, рукі і калені, разбалелася галава. І тут Крыніца ўспомніў, што нават у гэтым бязвыхадным стане ёсць выйсце - хвароба.

Геніяльная думка - на перыяд працы камісіі захварэць.

Звычайна Крыніца лячыўся ў вобласці. Мясцовым свяцілам ад медыцыны ён не давяраў і абыходзіў іх за вярсту, але абставіны склаліся так, што рабіць нейкі выбар было проста немагчыма. Трэба было дзейнічаць рашуча і тэмінова.

Антон Пятровіч паклікаў жонку і аб'явіў аб сваім рашэнні. Паліна ўпала на яго шырокія і валасатыя грудзі ды абрасіла іх чыстаю слязою.

- А-анто-она-ачка! Ро-оне-енькі! На каго-о ты-ы мяне-е сіраці-

нушку-у-у па-кіда-аеш.

Тусік, адчуваючы нядобрае, жаласліва завыў.

Дзяжурныя слёзы жанчыны скончыліся хутка, рэшкі іх Паліна расцерла па шчоках і пайшла збіраць мужа ў бальніцу. Акрамя імпартнай бялізны, спартовага касцюма, кітайскага ручніка, дэфіцытнага мыла звышдэфіцытнай зубной пасты і шчоткі, у вялізную спатрыўную сумку яна ўпакавала смажаную качку, каўбасу з ласяціны, вэнджаны кумпяк дзічыны, вэнджны палтус, ікру чырвоную, ікру чорную, сыр галандскі, дзве пляшкі чэшскага піва і пляшку армянскага каньяку. За трыццаць пяць гадоў сумеснага жыцця яна добра вывучыла апетыт мужа і пры гэтым заўжды лічыла, што пры такой цяжкай і напружанай працы яму проста неабходна каларыйнае і разнастайнае харчаванне.

Крыніца яшчэ раз успомніў сваю легендарную ў мясцовым народзе шматгадовую кіпучую дзейнасць ды прыйшоў да сумнага заключэння: выратаваць яго ад камісіі можа толькі хвароба.

Паліна скончыла падрыхтоўку і набрала нумар "Хуткай дапамогі".

Тэлефонныя званкі на "Станцыі хуткай дапамогі" заўжды не пажаданыя, тым болей ноччу. Большая частка тых, хто тэлефануе ў гэты час - старыя людзі. Іх турбуюць: бяссоніцца, колікі, а то і проста душыць адзінота. Яны ці пытаюць нейкаю недарэчнасць, ці кажуць звычайнае глупства. Напрыклад: мне так баліць галава, так баліць, што я ўжо выпіла пяць таблетак "фталазолу", а яна ўсяроўна баліць. Да такіх званкоў дактары ставяцца адпаведна. Слава Калодка, які сядзеў бліжэй за ўсіх да тэлефоннага апарата, падняў трубку і весела адказаў:

-Ал-лёў!

Усё цудоўна! Правы засталія цэлымі - чаму ж не радавацца!

У слухаўцы пачуўся тонкі пісклявы голас, падобны на дзіцячы, да якога прымешваўся характэрны свіст. (Учора ў Паліны Крыніцы, як на здзек выкрышылася палова пярэдняга зуба, і яна ў час размовы пачынала свістаць.)

- С-с-кажыце, это с-скорая?

- Швыдка, цітка, швыдка, - адказаў Слава адзіным словам, што ведаў з братэрскай украінскай мовы, і то пачутае ў анекдоце, пераклад якога на беларускую азначае вольнасць.

Паліна Крыніца была адукаваным чалавекам. У яе былі два дыпломы, якія сведчылі аб заканчэнні ёю дзвюх вышэйшых навучальных устаноў. Адзін з дыпломаў наўпрост сцвярджаў пра яе выдатныя веды ў галіне філалогіі, але пры ўсім гэтым братэрскай украінскай мовы яна не ведала. Не ведала Паліна і сваёй роднай беларускай мовы, таму

палічыла, што ёй адказваюць па-татарску і спешна перапытала:

- Это с-скорая?

Слава Калодка таксама быў адукаваным чалавекам, акрамя ветэрынарнага тэхнікума, ён закончыў шафёрскія курсы і яшчэ лічыўся чалавекам з гумарам. Праўда, як сцвярджаюць людзі, гумар у Славы быў "плоскі" і прыносіў яму шмат непрыемнасцей, але Калодка ў гэтым ніколі не каяўся.

- Калі трэба, цітка, ш-в-ы-д-к-а.

Паліна Крыніца не стала ўдакладняць сэнс зусім незразумелага ёй слова, якое паўтарыў нябачны ёй суразмоўца, яна была зусім ужо ўпэўнена, што яно цюркскага паходжання, і працягвала гаварыць далей.

- С-сапіс-сыце вызов.

- Ага друкую.

- Уліс-са С-савес-ская сес-сдесят с-сесть, кварціра двенадцаць.

- Ты там жывеш?

- С-сдесь жівет Кринис-са Антон Петровис.

- Крыніца, кажаш. Гэта каторы генсек наш?

- Да. А вы кто будесе?

- Я доктар Банік.

- Вы, доктар Банік, гаварысе культурна. Вы на слус-сбе.

- Я зараз табе скажу, шчанючка. Так скажу, што вушы завянуць. Я дам табе крыніцу і калодзеж разам. Свістуха ты гэткая. Вучыць мяне надумала.

Слава Калодка са злосцю бразнуў трубку на аппарат.

- Ад зямлі не ўспела адрасці, а ўжо прыгоды шукае. Чакай ад яе дабра далей.

Не паспеў Калодка закончыць свой сказ, як тэлефон зазваніў зноў. На гэты раз тэлефонную трубку падняла дзяжурная, якая прымала выклікі. Яна спачатку абыякава буркнула: "Хуткая", - але чым далей слухала небачлівую суразмоўцу, тым болей круглелі яе вочы; твар, на якім напачатку была абыякавасць, стаў здзіўлены, затым пацямнеў ад страху, ніжняя губа затраслася, а рот несупынна шаптаў: "Прашу прабачэння… Непаразуменне гэта… Прашу прабачэння… Выпадковы чалавек… Хворы на галаву… Даруйце яму… У дзяцінстве ўпаў з дрэва - пашкодзіў сабе чэрап, адбіў мазгі… У нас няма доктара Баніка…

Праз дзесяць хвілін, калі тэлефонная размова дзвюх жанчын была закончана, твар у дзяжурнай быў белы, як прасцірадла.

- Калодка! Дурань Гэта ж жонка першага сакратара райкама партыі. Ну і дурыла ты! Навошта на цябе бацькі ноч марнавалі!

І з гэтымі словамі тэлефонны апарат паляцеў у шафёра.

Банкевіч, які некалькі хвілін назад пацяшаўся з кемлівасці свайго таварыша, раптам аціх. Ён адразу паверыў у фатальную непазбежнасць свайго звальнення і прыпомнілася Банкевічу ўраз, што гэты самы Калодка быў вінаваты ў ягонай мінулай няўдачы.

- Ты мне не толькі свае правы з абкладкамі з'ясі, але і мой халат у прыдачу, калі з-за цябе, мяне вытураць адсюль. Паехалі лётчык-гумарыст.

Банкевіч нясмела пераступіў парог кватэры грознага на ўсю ваколіцу самадура, дрыготкімі пальцамі паслухаў пульс, спытаў тое-сёе пра стан здароўя і пабег па насілкі. "Хворы", змардаваны цяжкаю хваробаю, якая так неспадзявана навалілася на яго, не мог самастойнаісці. Банкевіч на дапамогу прыхапіў збянтэжанага Калодку.

- Пайшлі, дзеяч. Пазнаёмлю са свістухаю, - пажартаваў ён, хоць самога бязлітасна душыла самота.

Хворы, ад прыроды, быў чалавекам мажным, меў добры жывоцік і важыў не менш, як паўтары сотні кілаграмаў. Вось так узяць і перакласці яго з канапы на насілкі было справай нялёгкай. Банкевіч і Калодка доўга напаўголасу радзіліся, як ім выкруціцца ў гэтай сітуацыі, затым паставілі насілкі побач з канапаю і ўзяліся за справу. Начальніцкая пыха Крыніцы, які ляжаў на канапе, быццам бы паралізаваны, вельмі турбавала мужчын, рабіла іх рухі няўпэўненымі і скаванымі. Худы і маленькі Слава Калодка, які падымаў Крыніцу за плечы, не змог утрымаць вялікі цяжар. І Антон Пятровіч грымнуўся на насілкі. Калодка ўпаў на яго. Усё адбылося так хутка, што Банкевіч не паспеў нічога зразумець, і трымаючы ногі на ўзроўні грудзей пацыента, здзіўлена глядзеў на свайго напарніка, чаго ён палез цалавацца да такога важнага чалавека.

Паліна Крыніца толькі жахліва войкнула і выпусціла з рук сумку. Гучна ляснулі пляшкі. Сэрца жанчыны зайшлося ад жалю: няўжо пабіліся? Яна хуценька засунула руку ў сумку ды абмацала іх - цэлыя, і… адлягло на сэрцы. Калі яна закончыла сваю справу і падняла галаву, то пабачыла, што людзі ў белых халатах (нарэшце, з трэцяй спробы) адарвалі насілкі ад падлогі і панеслі Крыніцу…нагамі ўперад.

- Как вы, гады, несеце, он жа жывой!

Балазе кватэра мела шмат пакояў, і развярнуцца тут было проста.

Тусік моўчкі назіраў за тым, што адбывалася тут. Яму было нецікава, хацелася спаць.

Калі ступілі на лесвіцу, то Крыніца ўспомніў залатое мужчынскае правіла: паслухай жанчыну і зрабі ўсё наадварот. Галава так званага хворага выйшла ніжэй за ногі і… смажаны ў смятане сом паволі паплыў са страўніка ў гарляк. У канцы першага лесвічнага марша на тым

паверсе, дзе жыў Антон Антонавіч, дыпламаваны ветэрынар з правамі шафёра і чалавечы заморыш Слава Калодка не змог астояцца на нагах і ўпаў на калені. Хвілін дзве ён з вялікімі патугамі спрабаваў устаць. У гэтую змену Славу дужа не шанцавала, і гэта быў яго не апошні канфуз. Лесвічная пляцоўка, як і сама лесвіца, была вузкай, і развярнуцца на ёй было практычна немагчыма. Слава прапанаваў нахіліць насілкі крыху набок і… перастараўся - залішне перахіліў. Крыніца проста выпаў з насілак і ў прыдачу стукнуўся галавою аб жалезны бачок, які, дарэчы, распарадзіўся выставіць у кожным пад'ездзе, каб збіраць харчовыя адходы ў насельніцтва і тым самым хутчэй выканаць харчовую праграму.

Крыніца ўмомант забыўся пра сваю страшную хваробу, пра сваю начальніцкую пыху, а хуценька падхапіўся на ногі і вылаяўся самымі брыдкімі словамі. Паліна, якая ўпершыню за трыццаць пяць гадоў сумеснага жыцця, пачула ад мужа такія непрыстойнасці, так расхвалявалася, што ўдругі раз выпусціла сумку з рук. У гэты момант Слава Калодка пашкадаваў, што пакінуў пасаду загадчыка фермы ў калгасе, а перабраўся ў горад ды стаў шафёрам: зараз каровы сталі яму радней за ўсіх на свеце. Банкевіч захацеў выпіць. Крыніца шпарка (як кажуць - з гарачкі) прайшоў лесвічны марш між чацвёртым і трэцім паверхамі. Паміж трэцім і другім ён пачаў чамусьці кульгаць. Паміж другім і першым ішоў, трымаючыся за сценку, а да машыны "Хуткай дапамогі" яго давялі Калодка з Банкевічам.

Непатрэбнай мітуснёй сустрэў прыёмны пакой Антона Пятровіча Крыніцу. Бясшумнае мільгаценне белых халатаў крыху супакоіла яго, і ён нават перастаў звяртаць увагу на гузак, які моцна балеў. Радавала душу і ўся бальнічная бюракратыя: на што скардзіцеся?..даўно ў вас гэта?.. ці часта ходзіце на двор?.. У кніжачку… Усё ў кніжачку… Запісана… Як цудоўна!

Тым часам у палаце, дзе павінна было размясціцца вялікае начальства, адбывалася нешта падобнае да маленькай трагедыі. Слава Калодка, які быў пасланы на дапамогу нянечцы Валі, каб выкінуць вон з палаты гэтага п'яніцу, нечакана для сябе самога і для ўсіх іншых паставіў страшны дыягназ: пацыент мёртвы. А прыйшоў Калодка да такой высновы наступным чынам. Калі ён заскочыў у палату і ўключыў святло, то спачатку агледзяўся - Ванька Бубянцоў, як важны пан, ляжаў у запэцканых чаравіках на чыстым ложку. Слава схапіў гэтага анцыхрыста за каўнер і пасадзіў на ложак, але Ванькава цела тут жа ўпала назад. Тады Калодка схапіў Бубянцова за руку і адразу з жахам адпусціў яе. Рука падалася яму халоднай, што лёд. Другі б на яго месцы разгубіўся, Слава

Калодка - не! Наадварот, ён стаў спакойным і разважлівым. З гэтага моманту ён уявіў сябе сапраўдным доктарам. Прыслухаўся - не дыхае. Яшчэ раз узяў за руку - халодная, і…не б'еццa пульс. Прытуліў з правага боку да заляпанай граззю кашулі вуха - таксама цішыня.

Скліканыя санітаркай Валяй людзі з жалем глядзелі на Ваню Бубянцова, як на чарговую ахвяру антыалкагольнай кампаніі. Сонная медсястра з хірургічнага аддзялення правяла медыцынскі агляд чалавека так, як правёў шафёр, і пасля чаго сумна заківала галавою - памёр.

Чалавека, які так неспадзявана памёр, паклалі на насілкі, пакрылі прасцірадлам, якое ён сам жа намачыў, і аднеслі ў перадапошняе прыстанішча, якое мела нягучную назву - трупэрня.

У тую палату, на тое самае месца дзе недаўна сканаў недарэка, беспрабудны п'яніца і хуліган, шаноўна быў дастаўлены Антон Пятровіч Крыніца, увесь поўны спадзяванняў на светлую начальніцкую будучыню.

V

Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч - галоўны ўрач раённай бальніцы быў разбуджаны неспадзяваным тэлефонным званком. Трубку, як заўжды, першай падняла яго жонка, натура не ардынарная, дужа раўнівая (і не без падстаў) ды такая ж лянівая ў выкананні сямейных ложкавых адносінаў, за што Сцяпан Сцяпанавіч раскахаў яе ў другую шлюбную ноч пасля вяселля, калі на ўсе пяшчоты мужа яна адказала абыякава: "Адстань, хачу спаць!" - і адвярнулася.

Урач "Станцыі хуткай дапамогі" Рыгор Банкевіч доўга тлумачыў жанчыне аб сутнасці здарэння, якое адбылося ў час яго дзяжурства і прычыну, якая прымусіла пазваніць у гэты позні час галоўнаму ўрачу райбальніцы. Галіна Фёдараўна, слухаючы сіплы прапіты голас, пакутліва вызначала, каму ён належыць, а калі дакладна ўпэўнілася, што гэты некалі цудоўны барытон меў сябар яе мужа, гарлапан і весялун, душа ўсіх кампаній і застолляў, адзін са шматлікіх яе кавалераў, цяперашні п'яніца і недарэка Банік, абыякава перадала трубку мужу, а сама, як і тады, у другую пасля вяселля ноч, адвярнулася і праз хвіліну захрапла.

Сцяпан Сцяпанавіч доўга гаварыў па тэлефоне: "Так… Так-так… Усё зразумела…", а ўрэшце сумна закончыў: "Усё зразумела", - і пайшоў хуценька апранацца.

Не! На працу Улановіч не пайшоў, ды ніхто яго туды і не выклікаў. Рэштку ночы ён правёў у адной са сваіх шматлікіх каханак, муж якой быў у працяглай камандзіроўцы.

У падначаленую установу Сцяпан Сцяпанавіч з'явіўся ў сем гадзін раніцы і толькі таму, каб патэлефанаваць дахаты і своечасова пабудзіць жонку на працу, а дзяцей у школу. Галоўнага ўрача зусім не кранаў той "алік", які ноччу "даў дуба": тут справа ясная. Кожны дзень, надараецца: і здаровыя ў іх паміраюць, і то нічога. Болей здзіўляла і хвалявала з'яўленне ў яго "багадзельні" (так Улановіч назваў асабіста падначаленую яму ўстанову) першага сакратара райкама партыі Крыніцы Антона Пятровіча. Сцяпан Сцяпанавіч губляўся ў здагадках. Першы на працягу ўсёй сваёй кіпучай дзейнасці не лячыўся ў мясцовай лякарні. На звычайную праверку гэта было мала падобным. Для праверкі маглі падаслаць маладзенькага інструктара, якога тут не ведаюць. Улановіч перабраў у галаве мноства версій і спыніўся толькі на адным: першага маюцца здымаць.

Ён упэўніўся ў праўдзівасці сваёй версіі, як толькі пераступіў парог палаты і пабачыў твар хворага.

…Антон Пятровіч быў упэўнены, што ў гэты ранішні час, да яго ніхто не завітае і таму, карыстаючыся сваёй адзінотай, апетытна знішчаў смажаную качку, ды з асалодаю запіваў яе чэшскім півам "Пльзеньскі праздрой". Нечаканае з'яўленне галоўнага ўрача дужа збянтэжыла яго. Крыніца, нібы малое дзіце, якое засталі на месцы шкоды, пачаў паспешна хаваць сляды свайго дарослага свавольства: хуценька сунуў качку пад казённую коўдру, а пальцамі, каб расцерці тлушч, стаў рабіць нейкія выкрунтасы, ці то ўсходнюю гімнастыку для рук, ці то проста фігу хацеў скруціць. Практыкаваўся ён так некалькі хвлілін і толькі потым падаў руку Сцяпану Сцяпанавічу. Пасля сардэчнага поціску Улановіч засунуў руку ў кішэню скуранога паліто, якое насіў не толькі ўвосень і вясною, але і гарачым летам. У кішэні ён доўга камечыў насоўку, выціраючы пальцы ад тлушчу.

Па задумцы Крыніцы павінна была адбыцца сардэчная размова двух мужчын, якія добра ведаюць адзін аднаго, і ён пачаў яе з таго, што з добрым гумарам распавядаў Сцяпану Сцяпанавічу пра тое, як яго жонка, Паліна Крыніца, тэлефанавала на "Станцыю хуткай дапамогі". Там нейкі Банік прыняў яе за дзяўчыну, кпіў над ёю падчас размовы, гаварыў розныя непрыстойнасці на іншаземнай мове, а ўрэшце проста аблаяў, што ўвогуле не да твару чалавеку, які носіць ганаровае званне савецкага ўрача.

Хоць "Станцыя хуткай дапамогі" не была непасрэдна падначалена галоўнаму ўрачу райбальніцы (там быў свой галоўны ўрач), абставіны склаліся так, што ўсе пытанні, якія ўзнікалі па станцыі, прыходзілася

вырашаць непасрэдна самому Улановічу. Пачуўшы мянушку свайго былога сябра па інстытуце, ён цвёрда вырашыў: "Выганю! Каб нагі яго не было тут. Выганю! Хопіць з ім валэндацца. Не дазволю бэсціць савецкую медыцыну".

Першы сакратар райкама для большай упэўненасці, што яму будзе пастаўлены правільны дыягназ, вырашыў распавесці пра тое, як экіпаж машыны "Хуткай дапамогі" - там, дарэчы, быў гэты Банік - вёз яго ў лякарню. Каб лепей бачыць твар свайго суразмоўца, Крыніца павярнуўся на левы бок, і, нібы ў час выступу актора на сцэне, пачаў дапамагаць языку рукою. Частка недаедзенай качкі, якая ляжала пад бокам, пакацілiся на свабоднае месца.

Крынаца ў падцверджанне сваіх слоў паказаў на галаве гузак, а затым для большага ўражання, вырашыў артыстычна ўпасці на ложак, каб засведчыць, як гэта ўсё было на самай справе.

І ўпаў… Ды нема зароў і адразу ж падхапіўся. Недаедзеная качка ўперлася абрубкам нагі ў спіну. Каб не сканфузіцца дарэшты, Крыніца зрабіў выгляд, што яму моцна кальнула, і схапіўся рукою за бок, а сам употай адсунуў ад сябе качку і асцярожна лёг.

Само сабою, зразумела, размова перайшла на хваробу.

- Урэшце, на што скардзіцеся? - нясмела запытаў галоўны ўрач.

- Вось бачыце! Як схопіць, не ведаю, куды падзецца.

- Цудоўна! Мы вас тэрмінова адправім у вобласць і там пакажам першакласным спецыялістам.

- Вы ведаеце, мой доктар, які заўжды лячыў мяне, пайшоў на пенсію. Спецыяліст ад Бога, такіх пашукаць трэба. І душа-чалавек. Што ні папросіш, усё дастане, як машыну, як…

Крыніца зразумеў, што сказаў глупства, але на дапамогу яму прыйшоў галоўны ўроч.

- Якіх толькі назваў зараз лекам не даюць.

- Так-так, - пагадзіўся Антон Пятровіч. - Чорт нагу зломіць, а чалавек язык, пакуль прачытае.

Сцяпан Сцяпанавіч так і не зразумеў, пры чым тут чортава нага, але прамаўчаў.

- А галоўнае - паставіць такі дыягназ, які табе патрэбны, - рашуча закончыў першы.

- І мы гэта можам, - пахваліўся галоўны. - Вылечыць, як папала, а напісаць - напішам усё, што запатрабуе хворы.

- Іншым у вобласці я не давяраю…

- Тады мы накіруем вас у рэспубліку на абследаванне.

- Вы ведаеце, - і з кожным "вы ведаеце" ў Крыніцы голас стана-

віўся ўсё болей жаласлівы. - Я сябе дрэнна адчуваю. Мне здаецца, што я не змагу перанесці дарогу.

"О, Божа! - з жахам падумаў Улановіч. - Яго адсюль і трактарам не выцягнеш. Хутчэй - нагамі ўперад… Але гэтага бугая абухам не заб'еш".

Сцяпан Сцяпанавіч зразумеў, што пазбавіцца ад Крыніцы яму не ўдасца. Ён нават не зможа перавесці яго адсюль у іншую палату. Гэта была звычайная драма, якая праз паўгадзіны ператворыцца ў жыццёвую трагедыю.

Сёння ў гэтую палату павінна была легчы на так званае абследаванне чарговая каханка Улановіча. Калі быў маладзейшым, Сцяпан Сцяпанавіч у такіх выпадках выязджаў "на прыроду", а яго любімай песняй у тыя часы быў маленькі куплецік, які ён пачуў неведама дзе. Гэтую просценькую мелодыю ён часта мармытаў сабе пад нос, і яна была гімнам яго чарговай перамогі. "Яе кусалі мурашы, мяне кусалі камары".

Усе выезды ў лес адбываліся на казённай машыне. Пасля кожнай такой паездкі (аб ёй у адначассе ведала ўся бальніца) узнікала неабходнасць мяняць лабавое шкло. Балазе, у той час яно не было такім дэфіцытам. Шкло мянялі даволі часта. Пасля кожнага выезду Улановіча "на прыроду" прыбягала яго жонка і, як звычайна, не заставала ў кабінеце свайго суджанага - паспяваў схавацца. Таму са злосці яна пачынала біць шыбы яго машыны. З тых часоў за жонкаю Улановіча стала затрымалася мянушка - “Шклярыха”.

Каб пакончыць вечнае змаганне жонкі са службоваю машынаю, у галоўнага ўрача райбальніцы ўзнікла слушная думка. Для ўзнікнення такой думкі, была яшчэ адна прычына: балюча кусалі камары, ды з гадамі знік спартанскі дух, а яго гарэзлівая натура пачала патрабаваць пяшчоты кахання ў цішыні чатырох сцен і на мяккім ложку… Дзесьці ў гэты час у тутэйшай лякарні з'явілася палата для лячэння мясцовых начальнікаў, хоць сапраўднае яе прызначэнне ведаў толькі адзін чалавек - Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч. І даў ёй назоў: "Востраў кахання".

Ламаліся ўсе планы. Галоўны ўрач з болем у сэрцы канстатаваў: прычыну захворвання пацыенткі яму так і не ўдасца ўстанавіць, дык вырашыў даведвацца хоць прычыну захворвання першага сакратара райкама партыі.

- Даўно гэта ў вас?

- Млявасць адчуваю працяглы час, але прыступы пачаліся толькі ўчора.

"Відаць, будзе камісія і, пэўна, ён даведаўся пра яе толькі ўчо-

ра", - зазначыў для сябе Улановіч і запытаў далей:

- Колькі іх…ну, прыступаў, было?..

- Шэсць.

"Добрая каманда. Праўда, калі ўзяцца па-сур'ёзнаму, то дзесяці чалавек будзе мала", - надалей разважаў галоўны ўрач.

- Праца, Антон Пятровіч, праца нас губіць. Працуеце не шкадуючы сябе. Маю надзею, што ў нас вам будзе аказана кваліфікаваная дапамога, але тое, што адбылося ноччу, - проста непаразуменне. Віноўныя будуць пакараны, абяцаю.

- Я таксама спадзяюся на гэта… Хочацца крыху спакою. Ведаеце, перабудова, такі напружаны час...

"Значыць нас, дзякуй Богу, трэсці не будуць", - крыху павесялеў Сцяпан Сцяпанавіч.

- Але ж мне патрэбны правільны дыягназ. Гэта вельмі важна, а то ўсё - пенсіянер, пенсіянер. Я спадзяваюся, што вы мяне разумееце правільнана.

"Разумею, чаму не. Ды яшчэ як! Вытурыць цябе хочуць, не таму, што ты - пенсіянер, а таму што ты - злодзей".

- Арганізуем, арганізуем. Доктара вам прызначу, Сяргея Іванавіча Астапчыка. Малады, здольны…

- А на яго можна спадзявацца?

- Вядома.

- А як наконт давяральнай размовы?

- Характарызую станоўча. Не п'е, не курыць. Двое дзяцей, не мае кватэры…

- Не мае кватэры? Цудоўна! Тады я ўпэўнены, што ён зможа паставіць мне правільны дыягназ.

На развітанне старшыня райкама моцна пацiснуў галоўнаму ўрачу руку і зноў запэцкаў яе ў тлушч. Ужо за дзвярыма Улановіч доўга цёр далонь насоўкаю і напаўголасу лаяў яго.

Сцяпан Сцяпанавіч нервова тупаў з кута ў кут па кабінеце, крыху супакоіўся і вырашыў урэшце патэлефанаваць сваёй хворай пацыентцы.

У Веры Стрэльчанкі сёння з ранку быў цудоўны настрой. Яна ўстала на досвітку, старанна памылася пад душам, пакуль была яшчэ цёплая вада, зрабіла ўкладку, манікюр, педзікюр, падвяла вышчыпаныя бровы і павейкі, нанесла цені. Затым на пальцы былі надзеты залатыя пярсцёнкі, а на шыю - некалькі залатых ланцужкоў. Некалькі разоў Вера падыходзіла да люстэрка і з усіх бакоў падоўгу аглядвала сябе - не дай Бог, калі што-небудзь не так, і чакала тэлефоннага званка.

Ёй, трыццацігадовай жанчыне, стройнай ды трыгожай пры няўк-

людзе мужу, мець такога каханка, што лавіць рукамі падаючую зорку. Праўда, ужо да яе гэтую зорку шмат хто хапаў рукамі, але яна апякала толькі сэрцы і ляцела сваім блудным шляхам далей.

- Слухаю, - у голасе жанчыны адчувалася бязмежная пяшчота.

- Прывітанне, Вяруньчык!

- Дзень добры, любы! Я ўжо гатова. Я іду. Я лячу на крылах нашага кахання.

Сцяпан Сцяпанавіч сканфужана замармытаў:

- Ты ведаеш, сонейка, абставіны…

- Што здарылася, каханы? Ты едзеш у камандзіроўку?

- Не, ластаўка мая, - Сцяпан Сцяпанкавіч шмат ведаў мілагучных ласкавых слоў, і ў яго была багатая практыка іх ужывання.

Вера Стрэльчанка сваім чуйным жаночым сэрцам адразу здагадалася, што нешта здарылася, і ёй стала страшна.

- Сёння ноччу "Хуткая" прывезла генсека тутэйшага, Крыніцу. Яго размясцілі ў нашай палаце.

Жанчына прагнула кахання, і таму нават самыя праўдзівыя тлумачэнні ёй зараз былі непатрэбныя.

- Ну і што! Дай распараджэнне, каб яго перавялі ў іншую палату.

- Не магу, не магу! - Улановіч апраўдаваўся і прасіў літасці. - Гэтая палата спецыяльна ў нас адведзена для кіраўніцтва раёна. А ён усё ж… зразумей мяне… перавесці яго ў агульную палату на дзесяць чалавек - не магу. Мяне за гэта…

- Крыніцу сёння здымаць будуць. Разумееш. Зды-маць. Ён болей не будзе верхаводам.

- Яно можа ўсё і так, прыгажуня мая, але зразумей мяне правільна, пакуль ён першы сакратар - не ма-гу…

- Ах, так!

Шчасце, якое для Веры бліснула сонейкам, стала раптам знікаць. Наступіла зацменне, якое не мог бы прадбачыць ні адзін астраном, і жанчына запрэтаставала, як магла, як умела.

- Не магу! А ты пра мяне падумаў! На працы ўсе ведаюць, што я хварэю і кладуся ў бальніцу. Суседзі ведаюць, знаёмая ведаюць, усе ведаюць. Я ўсё разлічыла…

Жанчына, якой адмовіў мужчына, нават пры самых недарэчных абставінах, падобна на скінутую бомбу - выбух непазбежны. Вера Стрэльчанка яшчэ з паўгадзіны то істэрычна смеялася, то несупынна плакала ў галасавую трубку. У канцы размовы яна пачала пагражаць Улановічу і казаць самыя брыдкія мацюкі, якімі карыстаўся ў гутарцы яе муж-шафёр.

Кожны чалавек мае права быць вясёлым. Кожны чалавек мае поўнае права быць злым. Гэта яго асабістая справа, але бываюць выпадкі, калі яны датычаць іншых людзей. І яшчэ як!

Вось вам прыклад. Калі бывае злым начальнік, то ў калектыва стрэсавы стан. Не шукайце пацверджання гэтай ісціне ў падручніках, верце мне на словы. Адказ тут просты і лагічны. Начальнік таксама чалавек. А калі ён чалавек, гэтак сама, як ўсе мы, як кожны з нас, можа крычаць, лямантаваць, скандаліць, паграseveraжаць, а то і проста дурэць ці шалець. Улановічу было ад чаго шалець. Ён добра ведаў, што жанчына два разы такіх прапаноў не робіць. У гэты момант ён быў самым звычайным чалавекам: не начальнікам, не камуністам, не адукаваным спецыялістам. Зараз Сцяпан Сцяпанавіч забыў пра лекцыі па псіхалогіі. Хаця тэорыю псіхааналізу Фрэйда, гэтага буржуазнага сэксуальнага апалагета, яму не выкладалі, але тут яна дзейнічала бездакорна - класічны прыклад.

Нарэшце Сцяпан Сцяпанавіч вырашыў паквітацца з тым, каго ён лічыў найбольш вінаватым.

Рыгор Банкевіч, які так і не самкнуў вока гэтай ноччу, сядзеў у пакоі для адпачынку "Станцыі хуткай дапамогі" і рабіў выгляд, што слухае свайго калегу Марыю Сяргееўну, а сам з адкрытымі вачыма драмаў. Раптам дзверы расчыніліся так рэзка, што са сцен і са столі пасыпалася вапна. Не паспеў Банкевіч належным чынам прачухацца, як нечыя дужыя рукі схапілі яго і пачалі трэсці. У гэтай райбальніцы практыкаваў трасун-тэрапію толькі адзін чалавк - галоўны ўрач Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч. Ён трос свайго былога сябра, веселуна і шчырую душу - Баніка, як некалі трос у дзяцінстве суседскія грушы, і дзікія голасам крычаў:

- П'яніца! П'яніца! Выганю.

На гэты лямант пазбягаліся ўсе, хто быў непадалёку. Людзей сабралася даволі шмат, але Улановіч ні на кога не звяртаў увагі, а старанна працягваў лячыць свайго падначаленага.

- Каб духу твайго не было тут. Каб не смярдзеў ты тут сваім перагарам. Не было з цябе людзей, не было і не будзе. Выганю!

І ўспомніў тут Улановіч, што гэты самы Банік у студэнцкія гады заляцаўся да яго жонкі, ды стаў трэсці яго яшчэ мацней. Увесь гэты час галава ў Банкевіча бездапаможна хісталася, як некалі хісталіся верхавіны тых грушын, што трос малалеткам Улановіч. Банкевіч з перапуду не мог сказаць ні слова. Няведама колькі часу працягвалася б гэта лячэбная гімнастыка, каб не Марыя Сяргееўна, якая рашуча ўступілася за калегу.

- Што вы сабе дазваляеце?.. Я вам пакажу, як здзеквацца з чэснага чалавека.

Жанчына схапіла са стала тоўстую кнігу, якую заўжды брала на дзяжурства, але ніколі не чытала, і рушыла наперад.

- Ты… Ты… Ты, п'яніца, як ён, - Улановіч хацеў яшчэ нешта сказаць, але разгубіўся і змоўк. Банкевіч адчуў паслабленне і вызваліўся з рук свайго масажыста.

Кніга паляцела проста ў твар галоўнага ўрач.

- Вы мне не тыкайце. Я - жанчына! Я магу за сябе пастаяць!

Спрачацца другі раз з жанчынаю Улановіч не стаў. Вынікі такіх спрэчак ён добра ведаў, і таму сардэчная размова між былымі сябрамі на гэтым была закончана.

- Выганю! Выганю! Усіх выганю! - закрычаў напаследак Улановіч і шпарка пакрочыў на выхад.

Банкевіч не мог вымавіць ні слова. Ён не памятаў, як нечыя дужыя рукі паклалі яго на канапу, а потым падалі шклянку халоднай вады. Вада наталіла смагу, але не супакоіла. Яму зноў захацелася напіцца. Толькі ў гарэлцы ён бачыў сваё выратаванне. "Напіцца толькі цяпер, зараз, у гэты момант, і неадкладна". Гэтаму жаданню чалавека, як пішуць у наш час газеты, альтэрнатывы не існавала.

Банкевіч тузануў ручку сейфа, за тоўстымі дзвярымі якога стаялі тыя самыя лекі - спірт. Зачынена. І раптам у такі крытычны момант здалося, што ў гэтай сітуацыі ёсць толькі адзіны лагічны выхад - самагубства.

…Праз дзесяць хвілін Марыя Сяргееўна знайшла яго ў жаночым туалеце. Ён сядзеў на тым месцы, куды сядаюць усе людзі і істэрычна плакаў. Пад столлю, прывязаны да жалезнай трубы, вісеў абрывак медыцынскага гумовага шланга, які ўсё яшчэ матляхаўся. Другі канец шланга быў завязаны на шыі Банкевіча.

## VI

Сяргей Астапчык таксама злаваўся. Учора паміж ім і жонкай Вольгай адбылася дыскусія наконт выхавання дзяцей. Дыскусія, як заўжды, была прынцыповай і праходзіла бурна. Спачатку яна мела чыста тэарытычны характар, бо яе ўдзельнікі - як і ўсе мы ў недалёкім мінулым - стараліся гаварыць разумныя і прыгожыя словы ды пры гэтым не слухалі свайго непрымірымага апанента. Хаця Сяргей і меў вышэйшую адукацыю, а яго жонка - яскравы прадстаўнік лепшай паловы чалавецтва - толькі сярэднюю спецыяльную, але ўсё ж ён не мог пераканаць Вольгу ў правільнасці сваіх поглядаў. У канцы, як заўжды, дыскусія стала яшчэ больш бурнай, але ўжо прадметнай: апаненты

прыводзілі адзін аднаму шмат заганных звычак з жыцця і паводзінаў сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў ды суседзяў, якія, на іх думку, выявіліся ў дзяцей.

Пасля такой дыскусіі Вольга заўжды хварэла. Хвароба яе была дзіўнай. Навукоўцы не далі яшчэ ёй назвы, але Сяргей Астапчык, як доктар, харатарызаваў тую хваробу так: "Учора зноў пагыркаўся з каханаю. Зноў у яе мову адняло". Ужо не як доктар, а як мужчына, які пражыў з жанчынаю восем гадоў і добра вывучыў яе зарактар, Астапчык мог з поўнай упэўненасцю сказаць, што такім чынам хварэць яго жонка будзе дні два-тры, пасля чаго наступіць прымірэнне і Вольга зноў будзе шчабятаць "мілы", гладзіць яго кудлы да наступнай спрэчкі.

З гадамі такія спрэчкі між імі адбываліся ўсё часцей і часцей, а маўчанне Вольгі станавілася ўсё больш працяглым. Сяргей добра разумеў, што прычына таму не "круты" характар жонкі, яна - добры і пяшчотны чалавек, а неўладкаванасць іх сямейнага быту. Яны ўжо дзесяць год сямейнага жыцця бадзяюцца па чужых кватэрах: змянілі ўжо пяць і невядома, колькі зменяць яшчэ, пакуль атрымаюць сваю.

Пасля кожнай такой спрэчкі Вольга лічыла, што яна ў жыцці памылілася толькі два разы. Па-першае: выйшла замуж па каханні. Гэтая памылка выявілася адразу. Пасля заканчэння інстытута Астапчыка размеркавалі ў далёкі глухі райцэнтр, дзе ў іх не было ні сваякоў, ні сяброў. Увесь яе здабытак ад таго, што яна выйшла замуж па каханні - дзве дачкі. Па-другое, яна лічыла сябе звычайнай дурнічкай, бо не паслухалася сваіх разумных сяброваў, якія настойліва цвердзілі, што ўласны муж павінен быць крыху прыгажэй за малпу. Дакладных звестак пра здраду мужа Вольга не мела. Сяргей не затрымліваўся да цямна на працы, не хадзіў чорт ведае куды піць піва, не ездзіў у камандзіроўкі, не бегаў на начныя дзяжурствы, не швэндаўся чорт ведае з кім у лазню, ад яго ніколі не пахла жаночай парфумай - але ўсё ж! Але ўсё ж яе палохала і нервавала тое, што перад яе мужам круцяцца там нейкія штучкі, з якімі ў кожную хвіліну пры жаданні можна завесці "раман". Не магла яна спакойна глядзець на закаханыя позіркі маладзіц у яго бок. Яны не звярталі ўвагі на тое, што пабач з ім жонка. "Каб ім павыпірала!" Нават маладухі і трыбухатыя - будучыя мамы (чаго б ўжо ім!) - неабыякава глядзелі на Астапчыка. Яна ўсё заўважала! Першыя, водзячы сваіх немаўлят, паглядалі на Астапчыка, нібы кот на сала. Другія, важна несучы свой жывот, з замілаваннем глядзелі на гэтага прыгажуна, нібы гэта была іх уласнасць, за карыстанне якой яны заплацілі паўтара рубля, і то з чужой кішэні. Прыгажосць мужа лішні раз раздражняла жонку і без патрэбы турбавала яе. І праўда, пасля кожнай такой спрэчкі, у час

зацятага маўчання Вольгі, Сяргей ўсё часцей і часцей заглядваўся на маладых жанчын і пераспелых дзяўчат. Пасля такой спрэчкі, на наступны дзень раніцай муж з жонкаю рабілі сваю справу моўчкі: маці апранала і прыбірала дзяўчатак (адну ў школу, другую ў дзіцячы садок), а бацька рыхтаваў сняданак. Крыўда - крыўдай, маўчанне - маўчаннем, але без гаворкі абысціся нельга. Размовы наўпрост паміж бацькамі не было, яна вялася непасрэдна цераз дзяцей і мела прыкладна такі змест.

- Марынка! Ідзі запляту табе коску, а то твой бацька і па сённяшні дзень не ўмее рабіць гэтага, - гаварыла Вольга старэйшай дачцы.

Сяргей у сваю чаргу адказваў:

- Вітка, сядай снедаць, інакш мамка са сваімі зборамі пакіне цябе галоднай!

І кожны з бацькоў імкнуўся як мага лепш дагадзіць дзецям, каб яны ў той нямой спрэчцы сталі на іх бок. Дзеці добра разумелі ўсё і імкнуліся са спрэчак бацькоў мець сваю выгаду.

Разводзіць і развозіць дзяцей у школу і дзетсадок уваходзіла ў абавязак бацькі. Сяргей Астапчык у суправаджэнні сваіх дзяўчат выйшаў на вуліцу і з палёгкай уздыхнуў. Старэйшая дачка, якая хадзіла ў першы клас, мела сёння цудоўны настрой, бо маці паабяцала купіць ёй ляльку. Праходзячы каля аднаго з будынкаў, дзе была размешчана нейкая кантора з незразумелай і доўгай назваю, яна прачытала ўслых цудоўны лозунг, які красаваўся на сцяне, чым вельмі ўразіла свайго бацьку: "Якое цудоўнае дзіцё. Здольнае. Усё ў мяне." На плакаце было напісана: "Каб лепш жыць, трэба лепш працаваць". Калісьці ўнізе стаяў яшчэ і подпіс: “К. У. Чарненка”.

Які безлітасна час! Так мала красавалася гэтае прозвішча пад такімі шчырымі і праўдзівымі словамі. Начальнік канторы, хаця і паспяваў за сямімільнымі крокамі палітыкі, усё ж быў скнарам і пашкадаваў здымаць шчыт, які яшчэ не выгараў на сонцы. Ён толькі загадаў замаляваць прозвішча, якое стала ўжо не модным. Белая паласа на чырвоным палатне была адзнакаю новага гістарычнага часу - эпохі перабудовы. Дзяўчына паўтарыла, што прачытала і, нібы дарослая, пачала разважаць:

- Лепей працаваць… Лепей працаваць… А дзеля чаго надрывацца. Навошта рваць пуп. Ад патугі ён можа развязацца. Кватэры няма і няведама, калі чорт лысы дасць яе… Лепей працаваць, а заработнай платы ўсяроўна ніхто не падвышае. Пашукайце дурня ў іншым месцы.

Сяргей Астапчык уваапрэў ад пачутых слоў. Вуснамі дачкі гаварыла жонка. Да гэтага часу ён лічыў, што старэйшая дачка, якая вельмі прыгожая ды падобная да яго, будзе мець яго характар.

Самае страшнае і балючае ў жыцці - крах ідэалаў.

Невясёлыя думкі Астапчыка развеяў пяшчотны жаночы голас.

- Добрай раніцы, Сярожа!

Дзеці доктара здіўлена зірнулі на незнаёмую цёцю, затым, як па загадзе, павярнулі галовы і паглядзелі на бацьку, потым паглядзелі адна на адну, а меншая нават выказала сваё незадавальненне: "Ню і ню!" На тварах дзяцей з'явілася ўсмешка.

- Добрай раніцы! - адказаў Сяргей і пачырванеў.

Наталля Галавач, якая выпадковы была пацыенткаю маладога доктара, канчаткова захварэла невылечнаю хваробаю, што пры сённяшніх дасягненнях медыцыны не паддаецца лячэнню. Штодня яна старалася, ідучы на працу, пабачыць Астапчыка, часта тэлефанавала яму, каб атрымаць параду ці кансультацыю па тым ці іншым пытанні, якое хаця і было звязана з медыцыный, але зусім не датычыла Наташы. Адзін знаёмы Астапчыка, які пабачыў, як жанчына вітаецца з ім, даволі сур'ёзна зазначыў: "У яе два сыны. Яна, напэўна, хоча мець дачку. Ты, як доктар, не павінен адмаўляць, тым болей жанчыне. Дзе твая міласэрнасць". Яно ўсё было б добра, але ж такія шчырыя адносіны да ўрача Астапчыка былі яшчэ ў адной пацыенткі, добрай Наташынай сяброўкі. Кацярына Макейчык таксама кожны дзень сустракала Сяргея і гэтак жа, як Наташа, шчыра віталася з ім. Той жа знаёмы Астапчыка ахарактарызаваў іх сустрэчы наступным чынам: "Гэта маладая кабета мае ўжо пяць дзяцей, і трэба проста быць дурнем, каб не зразумець, што яна хоча, каб ты быў бацькам шостага дзіцяці. Няўжо адмовіш? Будзь ўрэшце мужчынам". Кацярына не званіла Сяргею па тэлефоне, але, як жанчына, пільна сачыла за сяброўкай і радавалася благім вынікам яе дамаганняў. Сэрцам Сяргей быў усё ж бліжэй да Наташы, і сёння, пасля сустрэчы, ён сам вырашыў патэлефанаваць ёй і прызначыць спатканне. Такім чынам ён хацеў адпомсціць жонцы за яе зацятае маўчанне, неабгрунтаваныя прыдзіркі.

Сяргей Астапчык з прыўзнятым настроем ішоў на службу… Ад "Станцыі хуткай дапамогі", якая мела асобны ўваход з раённай бальніцай, шпарка крочыў галоўны ўрач Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч. Хірург Сяргей Астапчык прыпыніўся на хвіліну, каб павітацца са сваім начальнікам. Прывітанне было шчырым і сардэчным, асабліва з боку начальніка.

- Што зубы скаліш, свісток! - Улановіч для лепшага ўзаемаразумення пачаў гутарыць на маладзёвым жаргоне. - У цябе ў палаце чалавек дуба даў, а ты, піжон, зубы прадаеш.

Яшчэ ўчора ў тых палатах, у якіх ляжалі хворыя хірурга Астап-

чыка, ніхто не збіраўся пакідаць гэты свет, і ад такога нечаканага прывітання Сяргей сумеўся, адкінуў усе думкі пра вячэрні флірт.

Небараку хворага Астапчык не ведаў, а тая палата, дзе ён памёр, лічылася за доктарам фамальна, і практычна ён не меў да яе ніякага дачынення. Галоўны ўрач забараніў яму нават і блізка падыходзіць.

- П'яніца. Дурань адзін тут з "Хуткай дапамогі" падабраў яго на вуліцы. Які міласэрны алкаголік знайшоўся! У самую лепшую палату ўкінуў, як брата свайго. А той узяў і сканаў. Памёр. Зразумела табе.

Астапчык запрэтаставаў - лепей маўчаў бы! - і адразу пашкадаваў аб гэтым.

Мерапрыемства пад гучнай назвай "лятучка", якую кожны працоўны дзень праводзіў галоўны ўрач раённай бальніцы, звычайна працягвалася больш за гадзіну, але пачатак заўжды быў апалове дзявятай. Тыя, каму пашанцавала спазніцца, мелі вялікія непрыемнасці. Калі б цывілізаваны еўрапеец выпадкова патрапіў сюды, то падумаў бы, што прысутнічае на свяшчэнным абразе афрыканскага племені, якога яшчэ не ведае навука. Прысутнічалі тут шматлікія намеснікі галоўнага. Прысутнічалі таксама кіраўнікі дапаможных гаспадарчых службаў. Тут не было гутаркі пра тое, як лячыць. Уся размова была аб тым; каму, дзе і як дастаць, узяць, прынесці, прывезці, паднесці, забяспечыць. І так штодня.

Гэтая лятучка была самай кароткай з усіх, якія праводзіў Сцяпан Сцяпанавіч.

Людзі, якія сабраліся ў зале паседжанняў, ужо ведалі, што галоўны сёння не мае настрою, і рыхтаваліся да карыды мясцовага значэння: слабанярвовыя затыкалі вушы казённай ватай і клалі пад язык казённы валідол. Улановіч ніяк не мог супакоіцца пасля шчырай размовы з першым сакратаром райкама партыі, сардэчнай размовы з каханкай і выхаваўчай працы з былым сябрам і падначаленым. Ён проста ўляцеў у залу, але не паспеў сказаць сваё вечна-ветлівае: "Нарэшце сабраліся!", як зноў адчыніліся дзверы і на парозе з'явіліся двое: саракагадовая прыбіральшчыца Ганна і трыццігадовы сантэхнік Жорык. Каханне, як усім нам вядома, не глядзіць на ўзрост.

Ганна неахвотна адступала перад сантэхнікам і радасна шчабятала: "Ты што!.. Ты што!.." Жорык не глядзеў у бакі, а хуценька зачыніў нагою дзверы, схапіў сваю ахвяру рукамі, прыціснуў моцна да сябе… і пацалункам забыўся пра ўвесь белы свет.

Усім нам вядома, што над калекамі, хворымі, закаханамі смяяцца вялікі грэх. Сяргей Астапчык добра ведаў гэта, бо быў камсамольцам (праўда, апошні год) і да закаханых ставіўся сур'ёзна, але тым не менш

яго пацешыла тое, што прыбіральшчыца пад час такога святога дзеяння, як пацалунак, не выпусціла з рук анучу. Сяргей рассмяяўся. Яго дружна падтрымалі калегі. Людзі, якіх засталі знянацку за такой сур'ёзнай справай, вядома, уцяклі, а медыцынскія работнікі ніяк не маглі супакоіцца - смяяліся шчыра і доўга. Толькі енк урача "Станцыі хуткай медыцынскай дапамогі" Марыі Сяргееўны: "Банкевіч павесіўся", - спыніў гэты смех.

Марыя Сяргееўна закрычала так, каб нагнаць страх на галоўнага ўрача. Страху яна сапраўды нагнала. Улановіч збялеў і дрыготкім голасам прамовіў:

- Усе вольныя.

...Калі Улановіч прыбег на станцыю, там усё ўжо скончылася. Банкевіча ўжо паднялі з унітаза, знялі з шыі гумавы шланг, зрабілі нейкі ўкол. І… на казённай машыне адвезлі дахаты.

Пасля лятучкі Сяргей Астапчык вырашыў патэлефанаваць сваёй былой пацыентцы і даведацца пра стан здароўя, а ўрэшце і прызначыць спатканне. Астапчык, на яго думку рабіў смелы крок. Былая пацыентка звярталася да яго з такімі прапановамі даўно, але Сяргей прымаў іх за звычайны жарт. Са свайго кабінета патэлефанаваць доктар не мог. Там сядзела ўжо медыцынская сястра, і ніякай гутаркі пра спатканне не магло і быць. Падобная справа заўжды таямніца для іншых, тым болей для жонкі.

Сяргей Астапчык мудра палічыў, што тэлефон-аўтамат зможа надзейна паслужыць яму. У калідоры хірургу трапіўся міліцыянер, які гаротна плакаў. Яго суцяшалі некалькі хворых, але дарма, па шчаках ручаямі цяклі слёзы, а пад носам адна за адной выдуваліся булькі. Доктар на хвіліну прыпыніўся. Сёння, як учора, лейтэнанту Піліпчыку не шанцавала. Яшчэ зранку яго выклікаў да сябе начальнік аддзела ўнутраных спраў раёна і запатрабаваў тлумачальную. Затым яму была аб'яўлена строгая вымова за нядбайнае выкананне службовых сваіх абавязкаў. Начальнік, вядома, чалавек сур'ёзны! Заяву на водпуск, якую яму падаў Піліпчук, ён адразу ж разарваў і паабяцаў лейтэнанту, што ён пойдзе ў водпуск, калі паляцяць "белыя мухі". Хто і што можа суцешыць чалавека ў такім выпадку?

Доктар пагладзіў міліцыянера па галаве і пайшоў.

Прыемны галасок сказаў: "Ал-лё!". Для большай упэўненасці Сяргей хацеў запытаць: "Гэта Наташа?", але толькі сказаў: "Гэта Н…". За крок ад яго стаяў Наташын муж і глядзеў на Астапчыка сваімі блакітнымі вачыма. Мілы галасок паўтарыў у трубцы сваё: "Ал-лё". Але ўжо менш лагодна і больш патрабавальна. Сяргей разгубіўся, а тым часам блакіныя вочкі, не міргаючы працягвалі глядзець на яго. Голас у тэле-

фоннай трубцы рашуча запатрабаваў: "Чаго ты хочаш?". Сяргей адчуў, як ў яго ад страху пачынае дрыжаць рука, што трымала слухаўку і, каб не выдаць свайго хвалявання, ён падтрымаў яе другою рукою, напружана думаючы, што сказаць, як выйсці з гэтага становішча. Пад пранікнёны позірк блакітных вачэй у галаву нічога не прыходзіла. На тым канцы тэлефоннай лініі болей не сталі чакаць адказу і заміж пяшчоты пачулася звычайнае: "Дурань!" - і кароткія гудкі. Нягледзячы на тое, што яго аблаялі, Астапчык уздыхнуў з палёгкай. На сініявокага ўжо не звяртаў увагі, павесіў трубку на рычаг і пайшоў. Ззаду пачуўся ўзбуджаны шэпт:

- Звані хутчэй, пакуль гэты гарлапан не выжлукціў нашу долю. Ён такі, я яго ведаю!

Хірург Астапчык прабіраўся праз шчыльны натоўп хворых, якія тоўпіліся ля кабінетаў у калідорах, і нечакана быў спынены жанчынаю яго ўзросту, даволі такі тоўстаю і мажною. Яе тварык меў даволі прывабны выгляд: кроў з малаком, як кажуць людзі. Маладзіца была апранута ва ўсё джынсавае. Ад яе прыемна пахла парфумай, а на ўсіх пальцах блішчэлі залатыя пярсцёнкі. На шыі кабеты вісеў коштам у некалькі соцень рублёў залаты ланцужок. З-за шырокіх плячэй джынсавай маладзіцы выглядала старая і худая - скура ды косці - жанчына, апранутая ва ўсё чорнае.

- Доктар, - маладая жанчына гаварыла мякка, лагодна, пяшчотна і шчыра. - Нам параілі звярнуцца да вас.

- Слухаю вас, - як звычайна, не спыняючы крок, адказаў Астапчык і зрабіў выгляд, што ён вельмі заняты.

Джынсавая жанчына не адставала ні на крок. Не адставала і старэнькая бабуля, нягледзячы на тое, што ёй хуткая хадзьба давалася цяжка.

- Мы да вас наконт Ванькі Бубянцова…

- Не ведаю такога. Гэта ваш сын? Што з ім?

- Ой, даруйце доктар! Івана Бубянцова. Ён даводзіцца мне мужам… Даводзіўся.

На прыём ў доктара сёння было, як ніколі, шмат людзей. Ён прайшоў каля чаргі і нават не глядзеў на яе. Ён не глянуў на твары людзей, якія прыйшлі прасіць у яго дапамогі, і меў бы за шчасце сустрэцца з ім позіркам.

Услед за Астапчыкам у кабінет зайшла маладая кабета, а чарга загудзела:

- Сваіх водзіць.

Старую жанчыну не пусцілі зусім: адзін з хворых, даў ёй зразу-

мецъ, што ў гэты кабінет яна патрапіць толькі цераз яго труп. Паміраць ён зусім не збіраўся. Слёзы старэнькай бабкі не знайшлі ў хворых ні падтрымкі, ні спачування.

- Скажыце, доктар, мой муж памёр?

- Я вас не разумею, шаноўная. Хто памёр?

- Як хто? Ванька… Даруйце, доктар… Іван Бубянцоў памёр? - жанчына ўвесь час гаварыла лагодна.

- Хоць зарэжце мяне, але я не ведаю ніякага Ванькі… Даруйце, Івана Бубянцова…

- Як гэта вы не ведаеце? Яго ўчора на вуліцы падабрала "Хуткая дапамога", а сёння нам людзі сказалі, што ён ноччу памёр.

Нарэшце Астапчык зразумеў, пра каго вядзе гутарку жанчына.

- Ну, як жа так, доктар! Вы жартуеце, ці, можа, вы лічыце мяне за дурнічку, якую можна пасылаць з кабінета ў кабінет? - у адно імгненне жанчына раззлавалася.

- Я была ўжо ў гінеколага, тэрапеўта, акуліста, нарколага. Была ў старэйшай медыцынскай сятры. І ўсе мяне кудысці пасылаюць. Я была нават у галоўнага ўрача. Гэта ён накіраваў мяне да вас. А вы мне кажаце, што не маеце ніякага дачынення да Ванькі… Даруйце, да Івана Бубянцова.

Астапчыку стала млосна: ён цяжка ўздыхнуў і сеў на край стала.

- Скажыце, доктар! Мой муж сапраўды памёр? - цяпер ужо твар жанчыны быў падобны на колкі аскепак і меў непрымірымую рашучасць. Пытанне, з якім яна звярнулася, павінна было вырашыцца тут і, менавіта, зараз. Доктар не ўмеў пярэчыць жанчынам. Іх катэгарычныя пытанні прымушалі яго кожны раз нервавацца.

Ад розных непаразуменняў учарашняга і сённяшняга дня, ад непатрэбных хваляванняў і стрэсаў, неабходнасць якіх так настойліва імкнуцца даказаць вучоныя, у Астапчыка пачала трэсціся галава. Ён стараўся гаварыць спакойна, але тым часам пачаў губляць кантроль над тым, што гаварыў.

- Як гэта сталася, цыпанька мая?

Гэтае пытанне было адрасана медыцынскай сястры, што была тут.

Пяцідзесяцігадовая жанчына здзіўлена глянула на маладога доктара і разгублена паціснула плячыма. Джынсавая жанчына раптам упэўнілася у тым, што яе Ванька Бубянцоў недзе ў раі ды п'е на брудэршафт з апосталам Пятром, і не на жартачкі расхвалявалася. Перад ёй адкрыліся неабсяжныя далягляды жаночай вольнасці, і яе чыстае паветра зусім замуціла галаву Зіне Бубянцовай.

- Якое шчасце, доктар! Якое шчасце! Доктар, я ўпэўнена, што гэта так! Якое шчасце! Я цяпер вольна магу жыць з мужчынамі. З кім пажадаю! Які цуд! Ведаеце, доктар, у мяне столькі кавалераў, але я да гэтага часу ні з кім не была… Усё цярпела… А цяпер можна. Якое неспадзяванае шчасце!

Ад такой сардэчнай шчырасці джынсавай удавы ў доктара валасы пачалі падымацца ўгару, а ў медыцынскай сястры растапырыліся і падаліся ўперад вушы. Звычайныя чалавечыя мазгі такой шчырасці не прымаюць. Доктра у роспачы абхапіў галаву рукамі і ад бездапаможнасці гаркнуў жарт, якім ён пацяшаў сяброваk, калі яшчэ быў студэнтам.

- Скажыце, сястра, хворы перад смерцю пацеў?

- Доктар! Мой любы доктар! Пры чым тут гэта: пацеў ці не пацеў. Здох Ванька Бубянцоў, і… якое шчасце. Я цяпер - удава. У-да-ва. Цяпер я магу, калі захачу і з кім захачу. І ні адна б… (так было сказана!) не мае права пра мяне сказаць благое. З кім захачу! Вось што галоўнае. Разумееце мяне доктар, хоць з вамі. Вы ж такі прыгожы!

Жанчына рашуча падалася ўперад, а ў гэты момант верхні гузік на блюзцы, што прыкрывала тугія грудзі не вытрымаў такой колькасці пачуццяў і расшпіліўся: вялізныя бугры Венеры былі гатовы прыняць першага альпініста.

- Сястра, вады! - прашаптаў Астапчык і споўз са стала на падлогу.

Шумна глыкаючы ваду, ён з замілаваннем глядзеў на тоўстыя жаночыя ногі, якія яму былі бачны пад сталом. Шклянка вады вярнула Астапчыка да рэчаіснасці - сумнай і смешнай.

- Сястра! Збегайе па Скрыбнікава. Гэта яго спецыялізацыя. Жанчыну трэба неадкладна ў псіхіятрычку.

- Мяне ў псіхушку?! - джынсавая жанчына злосна хмыкнула. - Я разумнейшая за вас ўсіх. Здох Ванька Бубянцоў, і дзякуй Богу. Цяпер я проста вытуру сваю свякрушку і буду - баба з хатаю. Жаню на сабе таго, каго пажадаю. Ды што тут казаць. Хіба ты, казёл, гэта ўсё зразумееш.

Джынсавая ўдава нават не зашпілілася, а з горда ўзнятаю галавою пакрочыла па бальнічным калідоры. Хворыя хуценька разбягаліся ўбакі. Ззаду яе прысшяшала старэнькая жанчына, якая без перасціху плакала.

## VII

Антон Пятровіч Крыніца напружана чакаў. Яму, як ніщто на свеце, патрэбна была гісторыя яго няіснай хваробы, патрэбны быў

дыягназ, каб тая камісія, калі прачытае яго, заплакала наўзрыд.

Лепей было б, каб яго прачыталі ў абкаме, пачалі збіраць грошы на вянок. "Патрэбен такі дыягназ, - разважаў Крыніца, - каб кожны пазайздросціў нябожчыкам, а нябожчыкі палічылі пекла раем".

Пасля таго, як з палаты выйшаў галоўны ўрач, Крыніца адразу пачаў пільна глядзець на дзверы, бо быў упэўнены, што праз хвіліну-другую яны адчыняцца і на парозе, засопшыся і ўвапрэўшы, з'явіцца той, хто будзе лячыць яго, хто зможа напісаць такую страшную гісторыю яго хваробы і паставіць такі дыягназ, ад якога яму стане так лягчэй на сэрцы, адразу знікнуць усе хваробы, з зайздрасці памруць яго ворагі і… вышэйшае кіраўніцтва пакіне яго на гэтай пасадзе да таго часу, пакуль ён сам не аддасць Богу душу, а чорту цела.

У Крыніцы быў воўчы апетыт. Яму вельмі хацелася даесці смажаную качку і дапіць такое смачнае імпартнае піва, але страх, што сюды зойдзе незнаёмы чалавек, прымушаў яго цярпець.

Так прайшлі ў напружаным чаканні пятнаццаць хвілін, але ў палату ніхто не заходзіў. Гэтыя абставіны страшна здзівілі Крыніцу - яго ніхто не прымушаў так доўга чакаць. Упэўненасць паступова пераходзіла ў спадзяванне, а выпітае піва з кожнай адрыжкай узмацняла апетыт.

Першы сакратар райкама, гераічна змагаўся з голадам.

Прайшло яшчэ паўгадзіны, Антон Пятровіч са злосці пачаў адшчыпваць ад качкі па маленькаму кавалачку мяса, клаў яго ў рот і адразу глытаў.

Чаго толькі не было сказана ў думках за гэтыя паўгадзіны пра галоўнага ўрача: ён атрымліваў тысячу чарцей, і на яго галаве часалі кол, задавалі пад адно далікатнае месца жару і жадалі трасцы ў бок, а ліха ў прыдачу. Толькі, калі Антон Пятровіч адчуў, што ад смажанай качкі засталіся адны голыя рэбры, спахапіўся ды давай азірацца, ці хто не назірае за ім, прыслухоўвацца, ці хто не падслухоўвае яго. Пасля таго, як упэўніўся, што ён адзін у палаце, Крыніца схапіў пляшку і залпам заглыкнуў рэшту піва, затым навёў парадак: схаваў рэшткі сняданку (абшчыпанае тулава качкі і пустыя пляшкі з-пад піва) у сумку.

Закончыўшы другі сняданак, ён лёг у ложак і пачаў чакаць доктара…

У гэты момант першага сакратара напаткала невясёлая думка. Адсутнасць доктара мела пад сабой сумную падставу і магла азначаць толькі адно: справы яго дрэнь.

У дзесяць гадзін раніцы адна нянечка, якая ад няма чаго рабіць, швэндалася па бальнічных калідорах, ненаўмысна націснула на ручку

дзвярэй знакамітай на ўсю бальніцу палаты, і дзверы неспадзявана для яе прыадчыніліся. Вялікае прызначэнне таго пакоя жанчына таксама ведала, і таму яе ахапіла нястрыманае жаданне паглядзець на чарговую каханку галоўнага ўрача: ці маладая, ці прыгожая, а зрэшты - хто яна? Яна прыадчыніла дзверы палаты настолькі, каб змагла пралезці галава, і… зазірнула туды. Мужчына?! Які рэдкі выпадак!..

Здзіўленню яе не было мяжы. Нянечка хацела зачыніць дзверы, але ў гэты момант мужчына патрабавальным голасам сказаў:

- Хвілiначку! Хві-лі-нач-ку!

Пасля гэтых слоў галава ў дзвярах застыла ў чаканні.

Крыніца быў упэўнены, што калі гэта кудлатая галава знікне за дзвярыма, то да яго ўжо ніхто не прыйдзе, і таму ён вырашыў неадкладна дзейнічаць.

- Калі ласка, зайдзіце сюды! - загадаў ён.

Жанчына нясмела зайшла.

- Я першы сакратар райкама партыі Крыніца Антон Пятровіч.

Грознаю асобу, чыім імем яе страшылі ўсё жыццё, нянечка ўбачыла ўпершыню. Жанчыну ахапіў страх перад такім вялікім начальствам.

- Хто вы?

- Нянечка Тоня, - спалохана адказала жанчына.

- Як вы сказалі? - строга, зусім як на прыёме беспартыйных наведвальнікаў у сваім кабінеце, перапытаў Крыніца. - Прабачце, не зразумеў.

- Антаніна Якімчык.

- Добра, таварыш Якімчык. Вы клікніце да мяне галоўнага ўрача. Ён, я бачу, чалавек несур'ёзны ў нас. Умее толькі даваць абяцанні, а забывае іх выконваць. Напомніце яму.

- Зараз, бягу.

Жанчына, калоцячыся з перапуду, выйшла з палаты.

Яна ішла да галоўнага ўрача і кляла сябе на ўвесь белы свет за тое, што нячысцік спакусіў яе заглянуць у гэтую палату. Кляла сябе і за тое, што не прайшла міма, не пайшла другім паверхам, а ўрэшце, што не зламала сабе нагу на лесвіцы.

Звычайны шырокі бальнічны калідор здаўся нянечцы вузенькім-вузенькім, а белыя сцены казённай установы зрабіліся чорнымі.

Сёння была серада, і ў галоўнага ўрача быў прыёмны дзень. І па шматгадовай традыцыі ў гэты дзень да Улановіча ішлі толькі здаровыя людзі, каб вырашыць пытанні, якія не датычылі хваробы.

Абысці чаргу нянечка Тоня не змагла. Яе спынілі добрыя ма-

лойцы, якія ў асноўным мелі мэту, каб выкарыстаць сваё асабістае знаёмстава з галоўным урачом і выклянчыць у яго звычайныя лекі, якія сталі ў апошні час дыфіцытам, ці выбіць месца ў абласной бальніцы для хворага сваяка, альбо заручыцца падтрымкай Улановіча, каб атрымаць неабходны подпіс і заключэнне аб няісных сваіх хваробах, і, як вынік, мець дарэмную пуцёўку на Чорнае мора.

Урэшце пасля невялікага шуму нянечка Тоня вымушана была запісацца на прыём і стаць у агульную чаргу. Сакратарка Улановіча - бюракратычная душа! - акуратна перапісала ў кнігу рэгістрацыі наведвальнікаў усе звесткі пра яе. Потым спытала, з якім пытаннем старая сунецца да Сцяпан Сцяпанавіч. Нянечка адказала горда: "Крыніца паслаў".

Сказанае чарга сустрэла гулам незадавальнення.

- Бач, якая яна хітрая!

- Думае, што мы дурні!

- Добрага дзядзю знайшла!

У тым злым і непрымірымім натоўпе знайшоўся адзін жартаўнік, які саркастычна заўважыў:

- Мусіць, напэўна, наш першы сакратар райкама партыі?

Антаніне Якімчык здалося, што гэта адзіны сур'ёзны тут чалавек. Пры яе чатырохкласнай адукацыі яна не магла ведаць усіх аратарскіх прыёмаў, якімі ўмеюць карыстацца людзі з вышэйшай адукацыяй. На несур'ёзную заўвагу здавалася б сур'ёзнага чалавека (у акулярах усё ж!) яна адказала сціпла:

- Ну, Антон Пятровіч паслаў.

Потым жанчына доўга не магла зразумець чаму натоўп ахапіў істэрычны смех. З першага разу паведаміць галоўнаму ўрачу пра тое, што яго патрабуе да сябе першы сакратар райкама, нянечка Тоня не змагла. У прыёмную зазірнуў загадчык аддзялення, дзе працавала Антаніна Якімчык.

- Што вы тут робіце? - грозна запытаў яе начальнік.

- Крыніца паслаў, - уціснуўшы галаву ў плечы адказала жанчына.

Загадчыку аддзялення гэта грознае імя для тутэйшага люду нічога не гаварыла. Увогуле ён аўтарытэтаў не прызнаваў, для яго што Крыніца, што Гарбачоў - усе аднолькавыя.

- Вечна вас які-небудзь чорт лысы куды-небудзь пасылае. Вечна вы недзе ходзіце, каб толькі не быць на сваім рабочым месцы. Хуценька ў аддзяленне. Ох, і людзі! Усё выдумаюць, каб толькі не працаць.

Нянечка Тоня вымушана была падпарадкавацца загаду непасрэднага начальніка.

## VIII

Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч пад час размовы з чарговым наведвальнікам, калі той між іншым заўважыў, што "нашаму Крыніцы сёння, напэўна, будуць кранты", раптам прыпомніў, што гэты самы Крыніца знаходзіцца ў палаце для адказных працаўнікоў кіраўнічых устаноў і кабінетаў і, напэўна, ужо мацюкае яго, Улановіча, апошнімі словамі. "Здымуць - яшчэ не значыць, што знялі, - так разважаў галоўны ўрач. - А калі не здымуць? Калі яго не здымуць, то ён абавязкова здыме мяне. Ураз здыме! Трэба..." З такімі думкамі ён пакінуў свайго разгубленага наведвальніка і шпарка пакрочыў да хірурга Астапчыка. Гэта быў адзін з выпадкаў, калі Гара ідзе да Магамета і пры гэтым абавязкова кажа: "Ты бач! Я не горды. Я сам прыйшоў да цябе. Акажы і мне паслугу". Я не Астап Бэндар, але пакажыце мне таго чалавека, хто адмаўляе начальніку, і я першы кіну ў яго камень, магу і цагліну. У двух словах Улановіч растлумачыў Астапчыку, што яму належыць рабіць, і зноў паспяшаўся на прыём сваіх здаровых наведвальнікаў. Сяргей Астапчык схапіў чыстую амбулаторную картку, на хаду сказаў медсястры, што яго тэрмінова выклікаюць у палату да безнадзейна хворага, і пайшоў. Але перад тым, як паказацца на вочы вялікаму начальству, доктар вырашыў здзейсніць свае зямныя (хоць і грэшныя) справы: захацеў усё ж пазваніць Наташы і прызначыць ёй спатканне. Ён не знайшоў у кішэнях двухкапеечнай манеты, таму па дапамогу звярнуўся да хворых, якія таўкліся ў калідоры. Магчыма, ад таго, што хворыя ішлі да лякарні, а не ў краму ці проста былі скнары, але ў адказ яны паціскалі плячыма і адмоўна трэслі галавою. Нечакана да Астапчыка падышоў мужчына і прапанаваў яму дзесяцікапеечную манету.

- Звані, сябра!

Такі зварот вельмі спадабаўся Сяргею - просты, шчыры, ад самага сэрца, - але калі ён глянуў у твар сардэчнаму чалавеку, то яму расхацелася браць манетку, бо перад ім стаяў муж Кацярыны Макейчык. Ён, як і муж Наташы Галавач, сёння праходзіў медагляд, а таму зараз без усялякай патрэбы бадзяўся па бальнічных калідорах: "Бяры, тэлефануй! Для нашай медыцыны нічога не шкада". Побач з Макейчыкам стаяў муж Наташы Галавач - усё тыя ж блакітныя вочкі - і таскама шчыра ўсміхаўся. Такую шчырасць страшна было прыняць.

- Бяры! Не ламайся!

- Бяры! Мы ж свае людзі!

Сяргей узяў манетку, у знак падзякі кіўнуў галавою і пайшоў.

- Ал-лёў! - мілы галасок чамусьці крыху змяніўся, але ўсё ж

прыемна ўскалыхнуў яго душу.

- Добры дзень вам яшчэ раз.

- Добры-ы… Сярожа?.. Гэта вы?..

- Я! Хацеў бы пабачыцца з вамі. Можна-а?

- Са мной? Вядома, можна! Зараз іду…

- Крыху пазней. Апалове сёмай ля стадыёна. Згодны?

- Згодна! Згодна!

- Да пабачэння!

- Да пабачэння!

Астапчык на хвіліну адчуў сябе злодзеем. Шчаслівым злодзеем, бо тое, што ён хацеў украсці, даўным-даўно ўжо само прасілася, аж пішчэла, яму ў рукі. Радасць! Як мала для гэтага трэба: адзін позірк, адно слова і - чалавек забывае пра ўсё на свеце.

Радасць! Сэрца пульсуе, сэрца рвецца з грудзей.

Радасць - радасцю, але тым не менш у палату пад нумарам 25 хірург Астапчык заходзіў са страхам. Страх быў чыста прафесійны, бо доктар не ведаў, як можна лячыць зусім здаровага чалавека. За сваю кароткую медыцынскую практыку яму яшчэ ні разу не даводзілася займацца такою справаю.

## IX

Антон Пятровіч Крыніца быў канчаткова ўпэўнены, што да яго ніхто не прыдзе, а значыць, і хвароба яго невылечная. Абыякавасць дактароў да яго асобы ўразіла Крыніцу, і ён упаў у глыбокую дэпрэсію: пачаў гаварыць сам з сабою. Ён гаварыў заклікамі, лозунгамі, цэлымі цытатамі і абзацамі са сваіх колішніх дакладаў і прамоў. Гаварыў натхнёна і ўвесь час шчыпаў пальцамі кумпяк дзіка ў сумцы пад ложкам. Кумпяк быў перасолены і таму Антону Пятровічу хацелася піць. Піва было даўно выпіта, а пайсці па ваду не дазваляў начальніцкі гонар. Неяк ён пачаў гаварыць доўгі ўрывак прамовы, у якой ішла гутарка пра дасягненні раёна ў сельскай гаспадарцы, а ў час гаворкі пальцы ўшчарэпіліся ў добры кавалак мяса і са словамі: "Слава працаўнікам палёў і ферм", - Крыніца рашуча адарваў гэты кавалак ад кумпяка і пачаў засоўваць яго ў рот. Кавалак быў вялікі і таму ў рот не памяшчаўся. Прамова на паўслове абарвалася. У гэты момант дзверы палаты адчыніліся, і на парозе з'явіўся малады чалавек у белым халаце. Ад здзіўлення Крыніца перастаў жаваць. Яму захацелася загадаць, каб доктар выйшаў і пачакаў крыху на калідоры, але рот быў забіты мясам, і заміж слоў пачулася мармытанне. Доктар нічога не зразумеў, нікуды не пайшоў і нават не

адвярнуўся.. Тады Крыніца стаў хутчэй пераціраць сваімі магутнымі пашчэмкамі мяса, а затым зноў зрабіў пальцамі нешта накшталт усходняй гімнастыкі і падаў Астапчыку руку.

- З-здла-а-вств-ву-це, док-тал!

Астапчык збянтэжана працягнуў руку, за якую ўшчарэпіўся першы сакратар сваімі ручышчамі і што было сілы пацiснуў яе (а сілы ў Крыніцы было, каб адужаць двух Астапчыкаў). Крыніца, як і галоўнаму ўрачу запэцкаў Сяргею руку ў тлушч, і той пасля шчырага прывітання пачаў выціраць яе аб белы халат.

- Ну, прынёс? - як заўжды, грозна запытаў Крыніца.

- Што прынёс? - у сваю чаргу здзіўлена перапытаў Астапчык.

Крыніцы здалося, што малады чалавек жартуе з ім.

- Дыягназ.

- Які? - ад здзіўлення вочы ў Астапчыка палезлі на лоб, бо ў размове з ім галоўны ўрач прасіў паглядзець "аднаго дурня, які прыкідваецца хворым". Пра нейкі там дыягназ - ні слова.

Пасля гэтых слоў Крыніца адразу памяняў сваю думку, бо ў гэты раз яму падалося, што доктар не жартуе з ім, а здзекуецца.

- Дыягназ хваробы.

- Вашай? - надалей атрымалася ўсё не так, як жадаў Астапчык. - Дык вы ж здаровы! - і хацеў яшчэ дадаць, "як бык", але ў апошні момант устрымаўся. Занадта вялікай была рызыка сябе так паводзіць.

- Вы сядайце! Сядайце, калі ласка! - Крыніца раптам загаварыў мякка і лагодна. Загаварыў так, што з ім нельга было не пагадзіцца, яму нельга было не верыць. Доктар, спалоханы і збянтэжаны такім паваротам размовы, сеў нясмела на край крэсла.

- Я вам растлумачу сітуацыю. Вы ведаеце. Доктар, прыходзіць момант, і ў мяне пачынае балець вось тут, - і Крыніца паказаў сіняк на спіне. - Урэшце страшна баліць галава, асабліва раніцай. Смага душыць, таксама раніцай. Да абеда я таксама ўзбуджаны. Калі не вып'ю…

- Ведаеце, - нясмела перабіў яго Астапчык. - Я просты хірург, а хвароба, прыкметы, якой вы назвалі, на маю думку, патрабуе іншага спецыяліста. Вы звярнуліся не па адрасе.

Дылетанцтва доктара казала першаму сакратару, што ён зойме яго бок толькі ў адным выпадку. Зойме і будзе з ім да апошняга. І тады пляваў Крыніца на камісіі. "Цьфу!" - вось так на іх усіх.

- Мне сказаў галоўны ўрач, што вы не маеце ўласнай кватэры.

- Ну та-ак, - замармытаў у адказ Астапчык.

Крыніца ўзрадаваўся, разгубленасць доктара сведчыла, што ён на правільным шляху.

- А дзе вы жывеце зараз? - з дзіцячай наіўнасцю запытаў Антон Пятровіч, нібы да гэтага часу ён ведаў доктара сто гадоў і толькі апошні не бачыліся.

- На Пясочнай вуліцы ў бабкі Антолі.

- Гэта тая вуліца, што выходзіць да майго дэндрапарку.

Мы жывем на другім канцы, ля самай-самай гарадской звалкі.

- Ах-ха! А колькі ў вас пакояў?

- Адзін… Жонка з дзецьмі спіць на ложку, а я на падлозе.

- На агульнай чарзе?

- Ужо восьмы год…

- Вы ж малады спецыяліст!

- Калі тое было. Гэты тэрмін даўным-даўно скончыўся ўжо. Ды хто цяпер глядзіць на гэта, што ты малады спецыяліст….

- У нас закон адзін для ўсіх пісаны, - зароў Крыніца. - І тое, што ў вас няма кватэры - гэта вялікая сацыяльная несправядлівасць. Калі выйду адсюль, то я разбяруся са старшынёй гарвыканкама. Я яму толькі загадаю і ўсё… Дарэчы, колькі ў вас дзяцей?

- Дзве дачкі. А што?

- Значыць так. У новым доме, які здаецца праз два месяцы па вуліцы Інтэрнацыянальнай, вас чакае трохпакаёвая кватэра.

- Але ж…

- Ніякіх "але ж". Як я сказаў, так і будзе! - у голасе першага сакратара зноў адчувалася цвёрдасць і рашучасць. - Лічыце, што ваша пытанне вырашана станоўча і канчаткова.

Астапчык адразу паверыў першаму сакратару. Бо восем гадоў таму назад, калі прыехаў сюды па размеркаванні, ён згодна з правамі маладога спецыяліста вырашыў атрымаць хоць нейкі прытулак. Доўга хадзіў па шматлікіх раённых установах. Нават быў на прыёме ў самога Крыніцы. Апошні без усялякіх там дыпламатычных выкрунтасаў даў яму адразу зразумець, што з'яўляецца паўнаўладным гаспадаром у васальным княстве другой паловы дваццатага стагоддзя і таму як гаспадар, вядома, чхаць хацеў на розныя там законы. Каб выгнаць блудныя думкі з галавы маладога чалавека, Крыніца яшчэ зазначыў: "Дарэмныя твае, хлопец, клопаты. Нічога ў цябе не выйдзе".

Сказаў - як у ваду глядзеў.

Тады малады спецыяліст Сяргей Астапчык, выхаваны, як большасць з нас, чэсным і праўдзівым, сутыкнуўся з суровай рэчаіснасцю і катэгарычна адмовіўся ад сваіх ранейшых поглядаў на жыццё-быццё.

- Дарэчы, як вас зваць?

- Сяргей.

- А па бацьку?

- Іванавіч.

- Сяргей Іванавіч! Мне патрэбны такі дыягназ, каб ён быў, як мага болей падобны на праўдзівы. У нас будзе працаваць камісія…

- Як доўга? Даруйце, але мне гэта неабходна ведаць для правільнага дыягназу.

- Не болей месяца.

- Толькі ракавае захворванне можа выратаваць вас, - доктар Астапчык ведаў, аб чым гаварыў, таму што ў райбальніцы даўно адсутнічаў анколаг, і ён дадаткова вёў гэтую групу хворых. - Я зараз афармлю гісторыю вашай хваробы і выпішу неабходныя аналізы. Не хвалюйцеся, вам не давядзецца хадзіць па кабінетах. Я ўсё арганізую.

Крыніцы вельмі спадабалася слова "арганізую", бо апарат, які ён узначальваў, заўжды нешта арганізоўваў. Усё, чым апошнія дзесяць гадоў жыў раён і горад, было арганізавана ім. Антон Пятровіч, як толькі пачуў ад Астапчыка гэтае слова, яшчэ раз упэўніў сябе, што ўсё павінна скончыцца добра.

- Дзякуй! Шчыра вам дзякуй! - Крыніца зноў схапіў сваімі ручышчамі маленькую руку доктара і доўга трос яе. - Значыць кватэру атрымаеце ў першую чаргу. Сяргей выйшаў з палаты і ўжо, не тоячыся, доўга выціраў руку ад тлушчу аб свой халат, які цяпер стаў падобны на халат кухара. Неспадзяваная радасць ад таго, што так хутка і проста вырашылася яго жыллёвая праблема, ускалыхнула доктара. Ён раптам забыўся пра ўсё на свеце: пра сваіх хворых, пра вячэрняе спатканне, нават пра ўчарашнюю лаянку з жонкаю. Радасць прымушала біцца яго сэрца ўдвая хутчэй, біцца і нястрымана гнаць пунсовую кроў, насычаную кіслародам неспадзяванкі, да кожнай клетачкі цела.

Радасцю, вядома, належыць дзяліцца, і Астапчык, нягледзячы на зацятае маўчанне жонкі, вырашыў патэлефанаваць і ўзрадаваць яе.

На лесвічнай пляцоўцы ён сустрэўся з Макейчыкам і Галавачом. Мужчына нешта паспешна пачалі хаваць у газету і засяроджана жавалі.

У гэты раз Астапчык ужо сам рашуча падышоў да Макейчыка і патрабавальна сказаў:

- Пазыч двушку.

Мужчына доўга корпаўся ў кішэнях, пакуль урэшце не знайшоў манету ў дзесяць капеек.

- Звані, сябар!

- Для нашай медыцыны нічога не шкада.

Доктар узяў манетку і пашыбаваў да тэлефона-аўтамата і нават не падзякаваў. Вольга доўга слухала блытанае тлумачэнне свайго "каха-

нага і роднага", пакуль урэшце не зразумела, што ён хоча сказаць, а калі зразумела - катэгарычна зазначыла:

- Дурань ты! Гэтага бугая хутка здымуць з пасады. Турнуць яго проста каленкам пад азадак, а на яго месца пасадзяць новага злодзея.

Астапчык, як заўжды, не пагадзіўся з жонкаю і запярэчыў:

- А вось я зраблю так, што яго не здымуць.

Вольга, калі пачула такое, зычна рассмяялася, яшчэ раз аблаяла Сяргея дурнем і паклала трубку.

## X

Зранку райкам партыі нагадваў вулей. Яго трутні (двухмятровыя дзядзькі і дзесяціпудовыя цёткі) як звычайна хадзілі шнуркам, з кабінета ў кабінет і разносілі апошнія мясцовыя плёткі, дзяліліся ўражаннямі пра свае інспектарскія рэйды ў падшэфныя арганізацыі і калгасы, распавядалі ўпотай, хто, адкуль і які прывёз хабар, ганілі тых, хто піў і піў без меры, зайздросцілі тым, хто гуляў і гуляў несупынна, узнёсла гаварылі пра тых, хто безбожна краў і нікога не баяўся. Усё гэта не мела ніякіх адносінаў да выканання іхніх службовых абавязкаў. То быў біялагічна рэдкі тып гультаёў, якія не толькі нічога не робяць, але ганарацца тым і прымушаюць іншых браць з іх прыклад. Адсутнасць Крыніцы ніхто не заўважыў. Не заўважыў не таму, што ўсе былі занятыя руплівай працаю, а таму, што нікому не было ніякай патрэбы да Крыніцы. У кожнага партыйнага фунцыянера быў свой творчы план, і ён здзяйсняў яго, як хацеў.

На адсутнасць першага не звярнуў увагі ні другі сакратар, ні трэці. Як сярод прасталюдзінаў, так і партзнакамітых асоб, трэці сакратар звалася сакратаркай, паколькі на гэтую пасаду заўжды прызначалі жанчыну.

Дзікі страх ахапіў працоўны люд райкама, калі яны даведаліся, што ў такі ранішні час неспадзявана з'явіўся тут былы першы сакратар абкама партыі, некалі грозны таварыш Салавейчык. Ад яго адзінага позірку калаціліся мужчыны і гублялі прытомнасць жанчыны, хоць за вочы ўсе называлі яго проста і ласкава - Толік. Па старой звычцы ён і цяпер яшчэ адчыняў дзверы ўсіх кабінетаў нагою і спалоханаму суразмоўцу, нібы то быў даўнішні яго сябар, зусім не па-сяброўску роў сваё вечнае: "Прывітанне", - быццам бы іншага слова для гэтага не існавала.

Таварыш Салавейчык, як толькі даведаўся пра тое, што над яго найлепшым і надзейным сябрам навіслі чорныя хмары, вырашыў дапамагчы таварышу Крыніцы. Нягледзячы на тое, што таварыш Салавейчык быў на пенсіі, але ўсё ж меў уплыў на вышэйшае кіраўніцтва, бо нават

і па-сённяшні дзень лічыўся сябрам таварыша Саколіка, які так удала запраўляў перабудоваю, і дапамагаў таварышу Саколіку душыць адраджэнцаў, каб яны ніколі не адрадзіліся. Ноч у Салавейчыка была бяссоннай і прайшла ў вялікім клопаце, і клопат быў недарэмны. Былы сакратар абкама партыі дасягнуў вялікіх поспехаў. Пра тое, як таварышу Салавейчыку ўдалося "дасягнуць вялікіх поспехаў", гісторыя сарамліва маўчыць. Але, як бы там не было, ён прывёз з сабою дакумент, згодна з якім першы сакратар райкама партыі таварыш Крыніца Антон Пятровіч з сягонняшняга дня лічыўся на заслужаным адпачынку і прытым быў пенсіянерам рэспубліканскага значэння. Акрамя гэтага, таварыш Салавейчык прыёз з сабою яшчэ адзін дакумент (асабісты падарунак свайму партсябру), які красамоўна сведчыў, што таварыш Крыніца А.П. "за шмагадовую плённую працу, самаадданае служэнне народу" ўзнагароджваецца ордэнам "Знак Пашаны". Шмат спраў зрабіў за гэтую кароткую травенскую ноч таварыш Салавейчык, але асноўная праца, на яго думку, наперадзе. Трэба было раскухтарыць мясцовых дармаедаў, каб да прыезду камісіі яны паспелі правесці паседжанне бюро, затым тэрмінова сабралі пленум раённага камітэта партыі, а ўрэшце, калі атрымаецца, арганізаваць святочныя провады такога шаноўнага чалавека на заслужаны адпачынак.

У гэтым ён меў рацыю. Ні другі сакратар райкама, ні наменклатурная сакратарка не ведалі і нават не здагадваліся, аб чым з імі будзе весці гутарку грозны Толік, і па старой звычцы пабойваліся яго. Салавейчык паводзіў сябе па-начальніцку і, як у былыя часы, выпрабоўваў на моц сваіх суразмоцаў зацятым маўчаннем, якое звычайна цягнулася некалькі хвілін. Яго суразмоўцы таксама звычайна маўчалі, а ў душы рыхтаваліся да няроўнага двубою, бо са свайго шматгадовага досведу ведалі, зараз на іх пачнуць крычаць і тупаць нагамі - інакш размаўляць гэты чалавек не ўмеў. Пенсіянер Салавейчык не стаў крыкам мацаваць сваю нярвовую сістэму, бо прыйшоў да высновы, што сваю справу зрабіў на "выдатна", а ўсё астатняе - дробязі. Псаваць сваю дабротную пунсовую кроў на дробязі ён не збіраўся.

- Ну што, арлы мае! - суразмоцы вінавата апусцілі галовы, чакаючы, што зараз іх пачнуць абзываць мокрымі курыцамі, але Салавейчык абняў іх за плечы і заспяваў зусім іншую песню. - Час не чакае, як сказаў нейкі паэт, але я хачу яго істотна дапоўніць. Я хачу сказаць, што ён бязлітасны да нас, старых. Дакладней кажучы, ён робіць нас старымі, і таму бязлітасны. У-ду-май-це-ся! Ён не шкадуе свайго здароўя, увесь аддае сябе працы… Працы ў імя простага чалавека!.. Ён змагаецца са злом ва ўсіх яго праявах на карысць нашай вялікай дзяржавы… Яму

заўжды здавалася, што ён шмат чаго не здзейсніў, не паспеў да канца раскрыць свае здольнасці, а прыйшоў час, і яму кажуць: "Вам пара адпачываць". Вы мяне прабачце, але я, па-першае, не рыхтаваўся да выступу, бо гавару без паперкі і таму, магчыма, крыху блытана… Я маю надзею, што вы ведаеце, пра каго ідзе гаворка…

Другі сакратар райкама партыі таварышВаўчыцкі не ведаў, пра каго вядзе гутарку іх былы шэф, бо лічыў, што яго так рана на пенсію не адправяць - праўда, ён гэтаму быў бы вельмі рады. І ўвогуле, Ваўчыцкі не слухаў, пра каго гаварыў Салавейчык, а, сцяўшы зубы, цярпеў боль у сваім страўніку. Акрамя страўніка яго даймала яшчэ і грыжа (кіла). Гэтыя зусім не кабінетныя хваробы Ваўчыцкі прыдбаў яшчэ ў маладосці, калі ўдарна працаваў трактарыстам у калгасе. Працаваў і вучыўся завочна ў ВНУ адначасова.

… Былы старшыня перадавога калгаса Ваўчыцкі і па сённяшні дзень лічыў, што тады, калі ён паддаўся ўгаворам Крыніцы і даў згоду перайсці на райвыканкамаўскую пасаду, учыніў вялікае глупства.

…Выбралі яго аднагалосна…

Непаразуменні пачаліся адразу. Шырокая сялянская натура Ваўчыцкага ніяк не магла ўціснуцца ў вузкія кабінетныя рамкі.

Ваўчыцкі, калі яго сям'я пераехала ў горад, адразу пачаў весці "культурны лад жыцця". Такі тэрмін ён прыдумаў сам і лічыў, што ўсе гарадскія - выключна культурныя людзі. Ён наведваўся ў кіно, вечарамі шпацыраваў па вуліцы, хадзіў глядзець мясцовы футбол. Усюды яны з жонкаю былі ўдваіх і абавязкова пад ручку. Праз месяц да яго ў кабінет завітала салідная мужчынская дэлегацыя, у складзе якой былі прадстаўнікі ўсіх аддзелаў райкама, усе інструктары, а таксама райвыканкамаўскія службы. За прагулкі пад руку з жонкаю, яны прад'явілі Ваўчыцкаму ўльтыматум, каб болей так не рабіў, бо такімі паводзінамі ён ганьбіць усіх мужчын службовых устаноў, а ўзамен параілі завесці каханку і прапанавалі некалькі кандыдатур на выбар. Ваўчыцкі ад каханкі адмовіўся, але хадзіць з жонкаю пад ручку перастаў, а ўрэшце, плюнуў на свой "культурны лад жыцця".

Тым не менш жаданне кіпучай дзейнасці не пакідала новага партфункцыянера, і тады Ваўчыцкаму захацелася даведацца, як і чым жыве просты чалавек гэтага маленькага раённага гарадка. Аднойчы ён далучыўся да мужчынскай кампаніі, якая ў двары іх шматпавярховага дома гуляла кожны вечар у карты. Адзін з жартаўнікоў заўважыў сярод гледачоў вялікае начальства, вырашыў пацешыцца ды прапанаваў сваё месца. З прысутных хтосьці ціха здзівіўся, хтосьці кісла ўсміхнуўся, хтосьці агокнуў, але калі другі сакратар райкама партыі пачаў раздаваць

налева і направа "дурняў", здзівіліся яшчэ болей і перасталі агокаць. Прыйшоў Ваўчыцкі сюды і на другі дзень. На трэці дзень прыціхлы жартаўнік у канцы гульні нясмела запытаў у Ваўчыцкага:

- Хлопцы тут па рублю скінуліся… Пляшку купілі… Будзеце?..

Не адмовіўся, яшчэ адставіў сваю.

У той вечар Ваўчыцкі стаў сваім чалавекам у працоўнага люду, што жыў у доме нумар дзевяць па вуліцы Савецкай. На чацвёрты дзень першы сакратар райкама партыі таварыш Крыніца зранку да паўдня тлумачыў паплечніку па партыі таварышыу Ваўчыцкаму, дзе яму можна гуляць у карты і з кім, а ў што - не мае ніякага значэння. Тлумачыў ён неслуху і тое, з кім яму належыць піць і дзе. Норма - колькі можна выпіць - не абмяркоўвалася. Крыніца нават напісаў спіс асоб горада і раёна, з якімі Ваўчыцкаму можна праводзіць падобныя мерапрыемствы. Вядома, што ніхто з жыхароў дома нумар дзевяць па вуліцы Савецкай у той спіс не трапіў. Не стаў болей Ваўчыцкі гуляць са сваімі суседзямі ў карты, не стаў болей "душыць з імі чарвяка", але ўсяроўна аўтарытэт яго сярод гэтых людзей застаўся вялікім і свабодныя дэмакратычныя выбары гарантавалі б яму перамогу. Затым другому сакратару райкама партыі ў вольны час захацелася заняцца выхаваннем моладзі. Ён пазнаёміўся з мясцовымі рокерамі, доўга і блытана распавядаў ім пра свае калгасныя справы, хваліўся веданнем тэхнікі, але ўсё ж, калі ён не выкруціў на "Яве" "васьмёрку", то хлопцы проста надавалі яму па шыі і наказалі, каб болей з такім глупствам да іх не прыставаў. Звяртацца ў міліцыю Ваўчыцкі не стаў: было брыдка. Праўда, пра тое здарэнне назаўтра ведала не толькі міліцыя, але і ўвесь горад. Бацькі матацыклістаў са страху пахавалі пад замок дарагія цацкі сваіх дзетак. Ваўчыцкі быў чалавек працавіты, у дачыненнях да людзей - шчыры, без усякіх там хітрыкаў. Тут, у райкаме партыі, у пашане былі іншыя чалавечыя якасці. Потым, праз некалькі гадоў, ён зразумеў, што ўзялі яго толькі з-за зоркі Героя Сацыялістычнай Працы і ордэна Леніна. І таму ў іншы час роспачы ён называў сябе: "Ардэнаносны шчыт адной гультайскай установы".

Ваўчыцкі ніяк не мог прывыкнуць да таго, што яму ўвесь час трэба было сядзець: ці то на нарадзе, ці то проста ў кабінеце. За першыя паўгады ён так насядзеў адно месца, што дома ўвесь час стаяў, чым вельмі нерваваў жонку. З цягам часу ён усё ж разабраўся, што кіраўнікі шматлікіх раённых устаноў звычайныя гультаі, хабарнікі і п'яніцы, але навесці сярод гэтай хеўры хоць нейкі парадак не дазваляў Крыніца, які кожны раз павучальна гаварыў: "Людзей трэба выхоўваць, а не мяняць, як пальчаткі". Усе райвыканкамаўскія апаратчыкі за вочы смяяліся над

ім, а дырэктар райспажыўсаюза пасля сутычкі перастаў вітацца і загадаў, каб у райкамаўскі буфет не завозілі мінеральную ваду, якую купляў Ваўчыцкі. (Мінеральная вада спрыяла яго страўніку і прытупляла боль.) Потым дырэктару падалося мала, і ён зрабіў так, што ў адзін дзень тая мінералка знікла ва ўсіх магазінах горада і болей у раён яе не завозілі. Праўда, сёння гэты самы дырэктар патэлефанаваў Ваўчыцкаму на хатні тэлефон, чамусьці ў сем гадзін раніцы, ветліва прывітаўся, можа дзесяць разоў папрасіў прабачэння за тое, што патурбаваў у такі ранні час, распытаў пра здароўе і зноў папрасіў прабачэння - на гэты раз за тое, што зранку ў райкамаўскім буфеце не будзе неабходнай Ваўчыцкаму мінеральнай вады, і сказаў, што паслаў машыну ў вобласць, якая на дзесяць гадзін раніцы вернецца назад і абавязкова прывязе спецыяльна для яго, Ваўчыцкага, дзесяць скрынак мінералкі.

Ваўчыцкі не паверыў у шчырасць дырэктара, а калі паклаў тэлефонную трубку на апарат, то падумаў, што гэта чарговы жарт "мясцовага князька" пасля ўчарашняга перапою.

...Не ведала і наменкулатурная сакратарка, пра каго вядзе гаворку таварыш Салавейчык. Яна пільна, выстаўляючы то адну, то другую нагу ўбок, раглядала сваю абнову - чорныя калготкі з малюнкам, які нельга пераказаць, а абавязкова трэба пабачыць - і старалася ўявіць, як мужчыны будуць глядзець на яе ногі ў гэтых калготках, калі яна выйдзе - вось так! - з мармуровага будынка райкама, не спяшаючыся, пройдзе плошчу і сядзе ў казённую белую "Волгу". На яе прынцыповую думку, такі кантраст павінен дзейнічаць выключна на яе карысць.

- Так-так, сябры мае! Я гавару пра Антона Пятровіча Крыніцу. Як не шкада, але гады бяруць сваё, і вам, маладым, працягваць яго светлы шлях.

- Як так, - загаманіла сакратарка і па-жаночаму войкнула, нібы яе напаткала асабістае гора. Для яе сапраўды была неспадзяваная навіна, бо яна спадзявалася працаваць пад кіраўніцтвам паважанага ёю Антона Пятровіча Крыніцы да таго часу, пакуль яе будуць кахаць мужчыны. - Ой! Што вы такое гаворыце? І што вы гаворыце! Ён такі малады! У яго столькі сілы! Я ж ведаю... Скажыце, а хіба ёсць указанні?

- Ёсць! Вядома ёсць! - радасна адказаў Салавейчык, задаволены там, што яго зразумелі. - І таму неабходна зараз жа да абеду правесці паседжанне партыйнага бюро і абавязкова пленум райкама. Вельмі хацелася б, каб сёння адбыліся святочныя правады нашага шаноўнага Антона Пятровіча на заслужаны адпачынак. Вы, Ніна Адамаўна, вельмі здольны арганізатар; вы, як ніхто іншы, умелі арганізоўваць выезды на прыроду, і таму ў мяне да вас вялікая просьба: вазьміце ўсё пад ўласны

кантроль.

- Дзякуй! Шчыра вам дзякуй за давер.

- А?.. - не паспеў Ваўчыцкі прамовіць слова, як дзверы кабінета адчынілася і ў пакой зайшоў дырэктар райспажыўсаюза, а за ім шафёр, які нёс поўную скрынку бутэлек мінеральнай вады.

Шафёр, які меў сваё ўяўленне пра этыкет і думаў, што сваім учынкам вельмі дагодзіць вялікаму начальству, паставіў скрынку прама на стол, затым паспешна сцягнуў з галавы скураную шафёрскую шапку і, спалохана адступаючы назад, выйшаў.

Салавейчык з прыкрай усмешкай паглядзеў на дырэктара і са злосцю прамовіў:

- Ну і ну! Гэты прахіндзей ужо пранюхаў.

Дырэктар не адказаў Салавейчыку.

- Генадзь Андрэевіч! Вось, як і абяцаў, мінеральная вада… Даставілі датэмінова, раней абяцанага на дзесяць хвілін… Пастараліся, праўда?.. Піце і не хварэйце! З сённяшняга дня гэтая мінеральная вада будзе ў кожным магазіне нашага горад заўжды і абавязкова на стале ў вашым кабінеце. Я…

Салавейчык, які за сваю доўгую партыйную дзейнасць браў розны хабар і бачыў усякіх прахвостаў, не змог вытрымаць такога падхалімажу і абурыўся:

- А што тут гэты злодзей робіць?

- Яшчэ невядома, хто з нас большы злодзей, - спакойна адказаў дырэктар. - З нас дваіх я - самы чэсны чалавек на свеце.

- За такія словы я табе, гандляр, морду наб'ю! - закрычаў Салавейчык і рушыў да дырэктара.

- Да пабачэння, Генадзь Андрэевіч! Да пабачэння, Ніна Адамаўна!

Дырэктар хуценька выйшаў з кабінета і не стаў уступаць у прамы кантакт з пенсіянерам, бо ў іх былі розныя вагавыя катэгорыі.

Ваўчыцкаму стала брыдка, і таму ён паспешна вярнуўся да былой гутаркі.

- А навошта такая спешка?

- Ёсць прычыны! Я пакуль што, Генадзь Андрэевіч, не буду перад вамі раскрываць усе карты.

- Дык можа давайце пойдзем да самаго Антона Пятровіча і там усё абмяркуем…

- Нельга! Антон Пятровіч зараз у бальніцы…Час не чакае! За справу, арлы мае!

# XI

Антаніна Якімчык прагла выканаць загад першага сакратара райкама партыі.

Праз паўгадзіны яна вярнулася ў прыёмную галоўнага ўрача. Перад нянечкай у кабінет зайшла жанчына, ад якой несла густым настоем парфумы. Якімчык ведала, што загадчык аддзялення прынцыпова прыдзіраецца да яе, бо хоча выжыць адсюль і прызначыць на яе пасаду сваю цётку. Ведала, што ён абавязкова заўважыць яе адсутнасць і стане шукаць па ўсёй лякарні, але яна, памылкова палічыўшы, што тая жанчына хутка закончыць сваю справу і выйдзе, вырашыла пачакаць. Жанчына, адна са шматлікіх каханак Улановіча, пад уплывам усё тых жа абставін - працяглай камандзіроўкі свайго мужа - вырашыла аднавіць сустрэчы з былым каханым. Улановіч па характары быў чалавек мяккі. Не мог рэзка адмовіць жанчыне, але пры гэтым усім ён быў чалавекам прынцыповым і не мог сабе дазваляць кахаць двойчы.

Размова паміх былымі каханымі была прыемнай і цягнулася доўга, але тым не менш, кожны заставаўся пры сваіх інтарэсах. Пры такім раскладзе, пачуццяў пустая размова няведама калі б закончылася, каб за дзвярыма кабінета не пачуўся строгі голас загадчыка хірургічнага аддзялення:

- І зноў вы, Якімчык, тут. Марш на сваё рабочае месца. Перш, чым куды-небудзь пайсці, запытайце ў мяне дазволу ці ў дзяжурнага доктара. Вам усё зразумела?

Праз імгненне Якімчык і след прастыў.

Жанчына, якая была на прыёме ў галоўнага ўрача, урэшце зразумела - каханне не вяртаецца: паднялася і, не равітваючыся, паспешна выйшла.

Усе, хто ведаў Антаніну Якімчык, адносілі яе да людзей упартых, для якіх вялікая кітайская сцяна не перашкода. Яна заўжды дабівалася свайго, нягледзячы ні на якія цяжкасці. Вось і сёння, як заўжды, яна прайшлася па сваім родным аддзяленні і зноў вярнулася ў прыёмны пакой да галоўнага ўрача. З парога шэптам запытала ў сакратаркі:

- Мой чорт там ці пайшоў?

Дзяўчына пацiснула плячыма і адказала:

- Не ведаю. Я выходзіла. Напэўна, пайшоў.

Чаргі ўжо не было, і нянечка рашуча пашыбавала ў кабінет да галоўнага ўрача, каб, урэшце, выканаць ускладзены на яе пачэсны абавязак. Яна адчыніла дзверы насцеж - пусты пакой, толькі ў куце за шафай чулася шарканне папераў і чаўканне. Антаніна Якімчык нясмела

запытала:

- Ёсць хто-небудзь?

З-за шафы высуналася галава галоўнага ўрача, які выціраў хустачкай губы і паспешна нешта глыкаў.

- Мы-ы-ы… - пачулася ў адказ.

У гэты момант адтуль паказалася і галава загадчыка хурургічнага аддзялення.

- Калі ўжо ты будзеш на сваім рабочым месцы? - закрычаў загадчык, бо лічыў, што жанчына прыйшла скардзіцца на яго да галоўнага.

Улановіч піхнуў локцем свайго падначаленага, і той хуценька схаваўся за шафай, каб дажаваць тое, чым быў напіханы рот.

- Слухаю вас? - стрымліваючы злосць, спытаў Сцяпан Улановіч.

- Мяне да вас паслаў Крыніца.

Улановіч з жахам успомніў, аб чым прасіў яго першы сакратар.

- Так.

- Ён прасіў вас, каб вы тэрмінова зайшлі да яго.

Зайсці да Крыніцы, калі ты не выканаў яго пажадання - самагубства. Аб гэтым ведалі кіраўнікі ўсіх раённых устаноў. Улановіч, як галоўны ўрач райбальніцы, вельмі часта выступаў у мясцовым друку, дзе кожны раз яскрава даказваў ўсім, што алкаголь запавольвае рэакцыю чалавека, але сваімі паводзінамі ён абвяргаў сам сябе. Так было і на гэты раз.

Ён не на жарт раззлаваўся: расчырванеўся і затросся, як асіна пры лёгкім подыху ветра.

- Шкоднік! Астапчык - шкоднік! Выганю, каб яго нагі тут не было. Выганю! - з гэтымі словамі Улановіч выбег з кабінета.

З-за шафы, з свайго схованішча выйшаў загадчык хірургічнага аддзялення. Ён ужо ўсё перажаваў, а за адно паслухаў размову ды зразумеў, чаго яго падначаленая так імкнулася ў гэты кабінет і дыпламатычна, нібы падводзячы вынікі вялікай, вострай і прынцыповай дыскусіі, згладжваючы вострыя вуглы супярэчнасцей, збліжаючы супрацьлеглыя пункты гледжання, даволі строга і павучальна сказаў:

- Па такіх пытаннях, таварыш Якімчык, няма патрэбы пільнавацца чаргі. Зразумела вам?

Нянячка Тоня зразумела ўсё на свой лад: павярнулася і, не спяшаючыся, пайшла туды, куды яе так доўга і настойліва пасылала начальства.

- Каб дагадзіць вам, трэба прафесарам быць.

## XII

Сяргей Астапчык палічыў катэгарычную непрымірымасць сваёй жонкі за звычайную жаночую дурноту і, поўны самых вялікіх надзей ды неабсяжных спадзяванняў, вярнуўся ў кабінет, дастаў з шуфляды неабходныя паперы, паклаў іх на стол і сказаў медсястры, каб яна выклікала наступнага хворага.

Адразу ў дзвярах адбылася сумятня, пачуўся шум і гам, які характэрны для ўсіх нашых лякарняў.

- Не трымай! Не трымай, - малады чалавек з атлетычнай фігурай стрымліваў натоўп хворых і сам ірваўся ў пакой да хірурга. - Гад адстань! Ну, што лапы цягнеш, калека? Зараз, як дам, дык ногі выцягнеш, чорт гарбаты.

Маладосць - сіла і спрыт - у гэтым двубоі атрымала ўпэўненую перамогу над шматвопытным хворым інвалідам. Спартсмен некалькі разоў рэзка тузануў плячом. Хворыя разляцеліся ва ўсе бакі, як мухі. Пасля ён спакойна зачыніў за сабою дзверы і бадзёра пакрочыў да стала, трымаючы ў руках вялізны стос амбулаторных картак.

- Слухаю, - доктар узяў ручку і падрыхтаваўся пісаць.

Асноўны абавязак дактароў - апісаць прыкметы хваробы наведвальніка. (Лячыць, як Бог дасць!) На той занятак доктару адводзілася мала часу (для лячэння яшчэ менш), але больш практычныя калегі паспявалі даведацца ад пацыента, што можна з яго ўзяць. Астапчык не меў такога прызвання, за што яго вельмі ганьбіла жонка.

- Доктар, падпішы.

- Што я павінен падпісаць?

- Амбулаторны карткі падпішы нам.

- Для чаго падпісаць і каму гэта - нам?

- Разумееце, доктар! Мы сёння праходзім медагляд. Уся наша "фірма" тут…

- Нічога не разумею. Якая такая "фірма" і хто гэта "мы"? Я бачу вас аднаго.

- Ой, доктар, які вы нездагадлівы!.. Усё ж так проста. У перасоўнай механізаванай калоне нумар сто адзін сягодня па графіку медагляд. Вось усе мы прыйшлі да вас, каб вы падпісалі нам гэтыя паперкі. Усё тут вельмі проста: тут пішаце: "Здароў", - а тут чырыкаеце свой подпіс.

- Я не верабей, каб чырыкаць. Я чалавек і…

- І гэта гучыць горда…, - спартсмен быў хлопцам з гумарам.

- І як доктар, вядома, я ведаю, што мне рабіць. Давайце мне сваю амбулаторную картку і распранайцеся.

- Доктар! Я здаровы, як бык. За той час, што вы будзеце валэндацца са мною, пагладзілі бы па грудзях, якую-небудзь маладую дзяўчыну. Вы з мордачкі нічога сабе. Яны, пэўна, да вас ліпнуць.

- Вы думеце, што гаворыце?

Тут у іх гутарку ўмяшалася медыцынская сястра, якая ў гутарцы заўжды любіла спалучаць прастанародныя выразы з навуковай медыцынскай тэрміналогіяй.

- Што яго глядзець?! Гэтага буйвала хоць зараз у плуг запрагай. З пункту гледжання хірургіі ён здаровы, але калі ён - гэты малады чалавек - скруціць сабе галаву, то яго абавязкова прывязуць да нас, каб вы паставілі яе на месца.

Доктар моўчкі паглядзеў на медсястру і напісаў у амбулаторнай картцы: "Здароў", - і "чырыкнуў" свой подпіс.

- Астатнія падпішы таксама.

- Наступны.

- Ды паглядзі, доктар, што там робіцца!

Спартсмен прачыніў дзверы, і ва ўтварыўшыся праём шуганулі хворыя, але ён распасцёр рукі і стрымаў людзей. Пад час напружанай барацьбы ён крыкнуў у людскі натоўп.

- Коля!

На покліч, распіхваючы ва ўсе бакі хворых, прабраўся малады чалавек, які таксама меў магутныя плечы.

Яны ўдвух з вялікімі патугамі змаглі зачыніць дзверы.

- Ну што я вам гаварыў, доктар! Упэніўся?

- Ой! - застагнала медсястра. - Сягоння, як ніколі, многа хворых.

- Бачыш, доктар! Хлопец здаровы. Не калека. Падпісвай усе.

- Не хлопцы! Так нельга.

- Можна. Усё можна, калі асцярожна.

- Асцярожна… Калі сярод вас знойдзецца бязрукі ці бязногі, а я падпішу, што ён здаровы - тады як?

- Доктар, не будзь бюракратам. Мы, напэўна, год пяты праходзім такія камісіі. Загляні ў амбулаторныя карткі, і ты ўпэўнішся ў гэтым. Падпішы.

Астапчык цяжка ўздыхнуў, моўчкі падсунуў кіпу амбулаторных картак да сябе і, з недаверам пераглядаючы запісы апошніх гадоў, пачаў іх падпісваць.

Коля і спартсмен аб чымсьці перашэптваліся.

- Доктар! Ты добры чалавек… - лагодна усміхнуся спартсмен, калі апошняя амбулаторная картка была падпісана, і прамовіў. - Там неўрапатолаг - жанчына. Разумееш, яна пасля начнога дзяжурства сон-

ная, як муха… Не хоча нас сёння прымаць…

- Ну і што?

- Чыркні за яе…

- Ой, не! Не! Сястра выклікайце наступнага.

Тут дзверы рэзка разчыніліся і ў пакой уварваўся Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч.

Нават самыя жвавыя хворыя і цяпер не змаглі трапіць на прыём.

Доктар, відаць, адразу зразумеў сваю віну і спрабаваў сказаць штосьці ў апраўданне, але Улановіч трос яго настолькі моцна, што не было ніякай магчымасці нармальна раскрыць рот. Прыгожая чупрына Астапчыка, якую жадалі гладзіць так многа дзяўчат і маладзіц, матлялася з боку на бок. Спартсмен спачатку здзіўлена назіраў сардэчную размову начальніка і падначаленага, але калі ўпэўніўся, што яна зацягваецца і няведама, калі скончыцца, вырашыў умяшацца. І ўмяшаўся даволі арыгінальна.

Удар быў трапны. У самае пераноссе. Улановічу сцямнела ў вачах, быццам бы каханка выключыла святло, перад тым, як прапанаваць салодкія ўцехі кахання.

Ад нечаканасці ён адпусціў доктара, а сам не ўтрымаўся на нагах і грымнуўся галавою аб падлогу так, што на паліцах шафы падскочылі і перавярнуліся шматлікія бутэлечкі і шклянкі. Медсястра, якая да гэтага часу моўчкі назірала за развіццём аднаго з канфліктаў мясцовага значэння, пляснула ў далоні.

- Хлопцы, асцярожней! Бутэлечкі паб'юцца, лекі выльюцца…

Яна хуценька падбегла да шафы і засланіла сабою шкляныя дзверы, упэўненая, што на гэтым справа не скончыцца. Жанчына памылілася. Сардэчная размова паміж галоўным урачом Улановічам і хурургам Астапчыкам не мела далейшага працягу. Сцяпан Сцяпанавіч хуценька ўскочыў на ногі і паглядзеў на ўсіх, хто прысутнічаў тут, не вельмі ўдзячным позіркам. Вочы яго ад удару сталі чырвонага колеру. Аб гэтым крыху пазней, яму паведаміла вельмі ўзбуджана, амаль радасна сакратарка. А зараз ён паспешна, так як зайшоў, выйшаў. Толькі доктар Астапчык спалохана пракрычаў яму ўслед.

- Я ўжо пішу… Я пішу… Пішу…

Калі галоўны ўрач з ганьбаю ўцёк, доктар сеў на казённае крэсла, куды звычайна запрашаў сядаць хворых, дрыготкімі рукамі выліў у шклянку бутэлечку валяр'янкі і выпіў… Праз хвіліну супакоіўся і пад ласкавыя позіркі хлопцаў падсунуў да сябе кіпу амбулаторных картак.

Цяпер ён мог напісаць: "Здаровы", - любому чалавеку, нават і хвораму і за любога іншага доктара.

Спартсмен з хваляваннем пачаў гаварыць.

- Правільна. Напішыце нашым дурням, што яны здаровыя… Правільна. Якога чорта яны будуць шляцца па пакоях і не даваць людзям нармальна працаваць. Так, гэта нашыя. У асноўным усе, толькі там яшчэ два наркоты пайшлі пахмяляцца.

Астапчык адпусціў хлопцаў, а сам пачаў хуценька пісаць гісторыю дзіўнай хваробы першага сакрата райкама партыі Антона Пятровіча Крыніцы.

## XIII

Нічыпар Кузянкоў у аддзеле кадраў райбальніцы лічыўся вартаўніком (у нашым, вядома, класічным уяўленні ён павінен быць у кажушку і са стрэльбаю), але кола яго абавязкаў было значна шырэйшым. Такіх каштоўнасцей, якія ён павінен быў ахоўваць, за Нічыпарам не значылася. Праўда, у яго распараджэнні быў конь, і ён даглядаў каня. Іншы раз запрагаў яго Кузянкоў у стары воз-развалюху і рабіў выезд у горад, аднак вазіць нічога не вазіў. Конь быў замацаваны за бальнічнай сталоўкай, але ежу для хворых у каструлях і тэрмасах разносілі па аддзяленнях самі кухаркі, санітаркі, нянячкі і іншы медперасанал.

"Жывёлу трэба берагчы!" - заўжды павучальна заўважаў Нічыпар, калі да яго звярталіся з просьбаю што-небудзь падвезці, і ішоў у сталярку. Ён добрасумленна і старанна дапамагаў свайму сябру сталяру Прэйсу рабіць нейкую халтуру за "калым". У гэтым выпадку Кузянкоў не адыходзіў ад сталяркі ні на крок.

Іншы раз Кузянкову даводзілася сёе-тое рабіць на карысць лякарні, але гэта былі выключныя выпадкі, і толькі тады, калі гэта сёе-тое прасіў асабіста зрабіць галоўны ўрач. У гэтых выпадках ён працаваў з вялікай радасцю і нават выхваляўся: "Без мяне ніхто не можа абысціся".

Працаваў Нічыпар да таго часу, пакуль за ім назіраў галоўны ўрач. Гэта быў той тып гультаёў, якія мала таго што нічога не робяць, але хочуць яшчэ, каб ім за гэта плацілі болей грошай.

Шафёр "Станцыі хуткай медыцынскай дапамогі" Міша Гумбар, прафесійна круцячы звязку ключоў ад машыны на пальцы знайшоў Нічыпара Кузянкова на бальнічнай кухні, дзе ён распавядаў кухаркам тэхналогію прыгатання свіных каўбас у мусульман і настойліва дабіваўся, каб паласавацца звычайнымі катлетамі з хлеба.

- Казюня, пайшлі! Справа ёсць.

- Няма часу. Бачыш, я заняты!

- Давай хуценька! Гэта я не маю часу.

- Ты малады. Не спяшай, інакш хутка старым станеш, - павучальна заўважыў вартаўнік-конюх Нічыпар Кузянкоў.

- Пайшлі. Дапаможаш паднесці.

- Ты здурэў ці што? Я хворы чалавек. Мне нельга нават падымаць не толькі пераносіць. Магу даведку паказаць, - і з гэтымі словамі палез у кішэню.

- Як хочаш. Знайду другога памочніка. Але твой лепшы сябар Колька Зотаў сказаў мне: "Вазьмі ў памочнікі Кузянкова".

- Мікалай Андрэевіч прасіў, значыць? Што ж ты, баран, адразу мне не сказаў. Пайшлі хуценька.

Сяброўства Зотава Мікалая Андрэевіча і так званага вартаўніка-конюха пачалося даўно. Яно мела пад сабой трывалы фундамент - казённы спірт. Чым займаўся доктар Зотаў? Каб не палохаць людзей навуковай тэрміналогіяй, не забіваць ім галовы ўсякай дурнотай ды яшчэ на нікому непатрэбнай лацінскай мове, скажам проста і зразумела - рэзаў трупы нябожчыкаў. У гэтым горадзе пра нябожчыкаў не гаварылі: "Даў дуба", "сыграў у скрынку", "склаў рукі" ці "заскварыў зямлю", - казалі проста: "Пайшоў на стол да Зотава". Усіх іх - нябожчыкаў - маладых і старых, людзей сярэдняга веку, мужчын і жанчын, падлеткаў і немаўлят, забітых, вісельнікаў, утопленых, задушаных і проста памерлых, ён крамсаў скальпелем. Нягледзячы на сваю паганую працу, гэта быў культурны чалавек, з усімі размаўляў на паўголаса, спакойна і заўжды на Вы, нават з самым апошнім прайдзісветам. Ён шмат чытаў, шмат ведаў, але для людзей заўжды здаваўся дзіваком, таму што не піў, хоць быў зусім здаровым чалавекам. Да Нічыпара Кузянкова ў Зотава былі асабістыя адносіны. Яны нагадвалі адносіны ўдзячнага сына да аблуднага бацькі.

Прынцыпова па-інтэлегенцку, каб не турбаваць санітарак-пенсіянерак, якія самі хістаюцца ад ветру, Зотаў кожны раз пасылаў па нябожчыка ў трупярню якога-небудзь шафёра са "Станцыі хуткай дапамогі" і заўжды прасіў, каб той узяў у дапамогу Нічыпара Кузянкова. За гэтую паслугу Зотаў, які прынцыпова ніколі не піў, наліваў мужчынам па сто грамаў казённага спірту, але шафёр звычайна спасылаўся, што ён "за рулём" і заўжды адмаўляўся, а Кузянкоў заўжды быў бязмерна рады і адразу выпіваў спірт на месцы, нават не разбаўляў вадою і пры гэтым казаў адну і тую ж прымаўку: "Даронаму каню ў зубы не глядзяць". Зотаў кожны раз з замілаваннем назіраў душэўную радасць Кузянкова, з якой ён знішчаў казённую атруту і прамаўляў: "Могуць жа людзі". Шмат выпіў казённага спірту Нічыпар Кузянкоў за гады свайго супрацоўніцтва з Міністэрствам аховы здароўя, але яму здавалася, што вельмі

мала.

… У такіх выпадках Кузянкоў ніколі не марудзіў. Ён выхапіў з рук Мішы Гумбара ключы і шпарка пашыбаваў да трупярні. Гэтую ўстанову акрамя ўнутранага замка зачынялі на вялізны навясны: баяліся, каб хто-небудзь з нябожчыкаў не ўцёк. Праўда, не было яшчэ такіх выпадкаў. Не было нават і спробы.

… Але чаго толькі не бывае на гэтым свеце. Задаволены нечаканым падарункам лёсу, Нічыпар рэзка адчыніў дзверы насцеж. На насілках, сагнуўшыся і абхапіўны ногі рукамі сядзеў мужчына і дрыжэў ад холаду. Бубянцоў ўжо страціў усялякую надзею на вылратаванне, а тут раптам… святло, людзі ў дзвярах. Чалавека апанавала радасць нечападзяванага паратунку. Ён усхапіўся на ногі, але цела за час нязвыклага зняволення задубянела так, што яго нельга было выпраставаць. Рукі, нібы вяроўкі, матляхаліся ля калень. Сваім цяперашнім абліччам Ванька Бубянцоў быў падобны да гарылы.

Ванька, калі праспаўся, палічыў, што гэта жонка пасадзіла яго на згубу ў нейкую лядоўню. Цяпер яму што сілы хацелася крыкнуць на яе. Але ён аглядзеўся - жонкі перад ім не было. У праёме дзвярэй толькі стаялі нейкія незнаёмыя мужчыны. У галаве мільганула здагадка: хахалі яе дабіваць прыйшлі. Узнікла жаданне паклікаць дапамогу. Замест крыку атрымалася: “І-і-і-э-э-э”. Тонкае і віскліваe.

Нічыпар, які першы раз прысутнічаў на вяртанні з таго свету чалавека, паставіў вочы пад лоб і, нібы салдат, пад час атакі скошаны куляй, упаў на зямлю. Міша Гумбар - чалавек непалахлівага дзесятка - ад нечаканасці аж пабялеў і дрыготкім голасам запытаў у нябожчыка.

- Ты што, ажыў?

Ванька Бубянцоў, які не мог яшчэ разагнуцца, зрабіў крок наперад, пасля чаго ў яго зноў, як вяроўкі, заматляхаліся рукі і доўга ніяк не маглі супакоіцца. У сваю чаргу ён таксама запытаў:

- А я што, памёр? - пра гэтым увесь час працягваў дрыжаць.

Нягледзячы на незвычайнуюю і складаную сітуацыю, Міша Гумбар усё зразумеў, супакоіўся і далей працягваў размову жартамі, якія неапахмеленая галава Ванькі Бубянцова з прапітымі і замёрзлымі мазгамі ніяк не магла зразумець.

- Жывых людзей у трупярню не кладуць.

Бубянцоў ірваўся да цяпла і сонца, таму сабраў апошнія сілы і зрабіў крок наперад. (Цяжка ўсё даецца ў першы раз на гэтым свеце.) Спыніўся і аглядзеў будынак, у якім давялося правесці нямала часу. Затым утаропіўся на насілкі, на якіх яго прынеслі сюды. Назіранні выклікалі душэўны непакой, і ён нявесела пагадзіўся з Гумбарам:

- Праўда.

- А калі праўда, дык пайшлі.

- Куды?

- На стол да Зотава.

- Чаго?

- Ён рэзаць будзе цябе.

- Навошта? Я ж жывы.

- Гэта як сказаць, брат. Па паперках - ты памёр. Атруціўся ад гарэлкі. Паперы сведчаць, што цябе няма на гэтым свеце. Аджыў сваё. Адгуляў. Засталося толькі Колі Зотаву разрэзаць цябе і паглядзець, што там у сярэдзіне.

Разагрэтыя сонцам суставы Ванькі Бубянцова пачалі гнуцца. І ён раптам неспадзявана ўпаў на калені, а каб над ім зжаліўся незнаёмец, хацеў скласці на грудзях рукі, але не здолеў і, як злачынца перад гілляцінаю, пакорліва апусціў галаву, заплакаў і сказаў словы, якія з вялікім задавальненнем і гонарам кожны з нас запісаў бы на свой рахунак.

- Не губі душу чыстую.

- Якая яна ў цябе чыстая? Ты даўно яе брагаю запэцкаў і наўрад ці адмыеш.

- Не хачу да Зотава. Жыць хачу-у.

- Што жыць захацелася?! Раней трэба было думаць. На цябе ўжо выпісана пасведчанне аб смерці. Усё. Хана табе. Сушы дошкі.

- Я болей не бу-ду-у піць. Ніколі-і ў рот не вазьму.

Міша Гумбар, каб не марнаваць час, схапіў пад руку Ваньку Бубянцова і павёў за сабою. Нічыпар Кузянкоў застаўся ляжаць на зялёнай траўцы.

## XIV

Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч узяў у сакратаркі маленькае люстэрка і доўга вывучаў сваю фізіяномію. Ён урэшце, як доктар, зрабіў сумнае для сябе заключэнне: у гэтым выпадку медыцына нічым не можа дапамагчы. Адзіным выратавальным сродкам тут могуць быць толькі цёмныя акуляры. Галоўны ўрач павесіў чорныя акуляры на нос і прыступіў да працы - пачаў вывучаць паперы, якія магутная бюракратычная машыны пад назваю "Міністэрства аховы здароўя" штодня шпурляла яму на стол. Чорныя акуляры былі зусім не разлічаны, каб чытаць праз іх розныя паперкі ды яшчэ ў пакоі з шэрымі сценамі. Літары расплываліся, былі ледзь бачныя.

Тут у кабінет Улановіча завітала ўласная жонка. Перад тым, як

зазірнуць да свайго "даражэнькага" мужа, яна наведалася на будаўніцтва новай паліклінікі, якая павінна была размясціцца побач са старой, і там паклала ў гаспадарчую сумку спачатку дзве цагліны, але потым адну выкінула. Палічыла, што будзе занадта балюча.

Ёсць на свеце Бог - так сцвярджаюць людзі, і таму кожны злачынца павінен панесці кару. Тое, дзе і як правёў рэштку ночы яе муж, Галіна Уладзіміраўна ведала дакладна ў дэталях. Нечая няведамая ёй шчырая душа ўжо каторы год запар перадавала гэтыя дакладныя звесткі і нічога не патрабавала ўзамен. Спачатку Галіна не ўспрымала гэтай інфармацыі ўсур'ёз - шчыра верыла свайму мужу. Аднойчы пераправерыла - звесткі падцвердзіліся, і з таго дня не было выпадку, каб тэлефонны ананім схлусіў. Праўду і толькі праўду казала ёй былая мужава каханка, якую ён пакінуў даўным даўно.

Цёмныя акуляры не дазвалялі Сцяпану Сцяпанавічу разглядзець выраз твару жонкі, разглядзець і разгадаць яе намер ды своечасова заняць абарону. Расплата не прымусіла сябе чакаць. Глуха ляпнула аб плечы гаспадарчая сумка, а разам з гэтым жонка пачала тлумачыць свайму "дарагому і адзінаму" прычыну свайго ўчынку:

- Ах ты, блудзень. На працу пайшоў. Ты да гэтай к… пабег, - размова мужа і жонкі, у час якой сакратарка хуценька выйшла з прыёмнай, з перасцярогі, каб і ёй не перапала, ды шчыльна зачыніла за сабою дзверы.

Галка Улановіч кахала свайго мужа, нягледзячы на яго шматлікія здрады, і таму яна пакрычала на яго толькі некалькі хвілін, затым вырашыла напаследак яшчэ раз ударыць сумкаю суджанага і на тым закончыць справу. Удар быў няўдалы. Улановіч ужо чакаў яго, і таму, як толькі жонка на яго нязграбна замахнулася, ён, як малады певень, саскочыў ўбок. Аднак ад рэзкага руху ў яго ўпалі акуляры. Тут Галіна ўбачыла сінякі пад вачыма свайго мужа і ўзрадавалася - гэта ж чалавек каханкі паквітаўся з ім. Злосць імгненна прайшла, а на душы стала весела, і яна рассмяялася.

Справа зроблена.

Жанчына выйшла з кабінета і пайшла дамоў, каб рыхтаваць абед свайму мужу, а па дарозе ў голас распавядала сама сабе, як гэта ўсё адбылося. Але яна не доўга весялілася, бо ёй здалося, што мужа маглі забіць. Ёй да слёз стала шкада Сцяпанку.

Чухаючы пабітае плячо, Улановіч пачаў збіраць раскіданыя на падлозе паперы.

Важна адчыніўшы нагою дзверы, у кабінет зайшоў адзін са шматлікіх інструктараў райкама партыі. Калі пaглядзець на яго збоку, то

можна было б падумаць, што ён сын сучаснага лейтэнанта Шмідта - горда ўзнятая галава, незалежны, быццам бы сталёвы, позірк. Не! Гэта быў звычайны партыйны Астап Бэндар, які марыў пра ўзыходжанне на Эверэст партулады.

Інструктар суровым позіркам паглядзеў на Улановіча і кісла ўсміхнуўся, затым прайшоўся па кабінеце, агледзеў увесь гэты беспарадак і пасля гэтага абыякава павітаўся з галоўным урачом. Міністэрскае прывітан-не звычайнага райкамаўскага служкі не спадабалася Улановічу, але ж ён прамаўчаў, бо прадчуваў нешта нядобрае.

Сённяшні дзень даваў інструктару надзею на светлае будучае, і ён спадзяваўся. Спадзяваўся, што ўлагодзіць сталічную камісію і дагодзіць новаму мясцоваму начальству і… Ён ужо рыхтаваўся да новай, невядомай яму пасады, у думках падбіраў сабе болей шырокі, цёплы кабінет. І калі пачнуць дзяліць - самае галоўнае! - пасады, то ён паставіць сябе, пакажа ўсім, на што ён здольны. Усім і асабліва сваёй жонцы: болей не будзе называць яго "партхалуём".

- Дзе тут Крыніца? - інструктар гаварыў так, нібы гаворка ішла не пра першага сакратара райкама партыі, а звычайнага шпанюка, які зноў нашкодзіў.

- Здымаюць?

- Няхай скажа дзякуй Салавейчыку. На пенсію турнулі.

- Ён там, у нашай палаце. Смажаную качку жарэ і півам запівае.

Доўгі, як жэрдка, худы і благі з твару інструктар меў на Улановіча зуб, а, пакуль ён заставаўся інструктарам, "укусіць" належным чынам галоўнага ўрача было неспадручна. І толькі цяпер у яго з'явілася надзея, што ўрэшце ўдасца адпомсціць гэтаму блудадзею. Уся справа ў тым, што жонка інструктара два гады назад лячылася ў спецыяльнай палаце райбальніцы. Беспрабудны інструктар-п'яніца Кулікаў і па сённяшні дзень называе яго "раганосцам".

- Майце на ўвазе, калі вы гэтаму здаравеннаму бугаю выпішаце якую-небудзь хваробу, я першы заяўлю мінскай камісіі.

Інструктар гэтак жа горда выйшаў, як зайшоў.

Улановіч затросся ад злосці.

- Смаркач. Жэрдка. Вось скажу тваёй жонцы, Светцы, дык яна цябе раструшчыць, як гніду.

Галоўны ўрач шпурнуў паперы на стол і пайшоў услед за інструктарам з кабінета.

## XV

Нічыпар Кузянкоў ляжаў беспрытомным на зялёным лужку, дзе пасвіўся яго буланы і нічым не мог дапамагчы свайму гаспадару; нават не зрабіў спробы. На дапамогу вартаўніку-конюху паспяшаў яго сябар - сталяр райбальніцы Прэйс. Худы - скура ды косці - сталяр крыху папацеў, крыху пакрактаў і зразумеў, што падняць мажнога Кузянкова ён не зможа. Тады Прэйс, чалавек, які мае сваю галаву на плячых, знайшоў радыкальнае выйсце: узяў Нічыпара за ногі і павалок саматугам.

Такія сцэны на бальнічным двары адбываліся даволі часта, і таму на гэта ніхто - ні хворыя, ні медперсанал - не звяртаў ніякай увагі, і ніхто не прыйшоў Прэйсу на дапамогу. Толькі буланы на хвілінку адарваўся ад свайго занятку, але тут жа апусціў галаву і захрумсцеў травою далей.

Нічыпар Кузянкоў быў чалавекам далікатнай натуры. Але справа была тут не ў далікатнасці. Пры падзенні пад галаву вартаўніка-конюха патрапіў камень велічынёю з кулак і разбіў патыліцу.

Сталяр з вялікімі патугамі працягнуў некалькі крокаў грузнага сябра. Кузянкоў нават не зварухнуўся. Тады Прэйс падумаў, што яго сябра, як заўжды, прыдурняецца і вырашыў правесці курс лячэння, які ў навуковых колах мае назву “інтэнсіўная тэрапія”. Сталяр, хоць і не меў спецыяльнай медыцынскай адукацыі, але сучасную медыцыну і тутэйшых медыкаў асабіста ведаў добра, бо працаваў тут ужо трыццаць гадоў, а лячыўся толькі гарэлкаю. Лячэнне інтэнсіўнай тэрапіяй Прэйс праводзіў па сваёй арыгінальнай методыцы. Ён з усяго размаху кідаў ногі пацыента (як заўжды Кузянкова), падыходзіў бліжэй да яго і што сілы біў нагою пад адно месца. Звычайна так званы хворы хуценька ўскакваў на ногі, пачынаў лаяцца і лез біцца. Адным словам метад спрацоўваў. Зараз Кузянкоў нават не зварухнуўся. Незразумелы ўчынак сябра не на жарт раззлаваў сталяра, і ён яшчэ тры разы запар біў яго нагою пад тое месца, біў не шкадуючы, але вартаўнік-конюх працягваў ляжаць, як ляжаў, ды не думаў падымацца.

Тады Прэйс піхнуў яго нагою ў жывот, а сам паглядзеў яму ў вочы, ці не прыдурняецца. У гэты момант ён убачыў кроў на галаве Кузянкова і сумеўся, ды ад страху заенчыў сваім басістым голасам. Напалоханы буланы зноў адарваўся ад свайго занятку, але калі і зараз убачыў, што яго гаспадар ляжыць і не падымаецца, жаласліва заіржаў. Ад енку Прэйса, ад іржання жывёліны Нічыпар Кузянкоў схапіўся, але яшчэ добрыя дзесяць хвілін круціў галавою і ніяк не мог прыйсці да свядомасці, ніяк не мог зразумець, дзе ён і што з ім. Дзе дзеўся нябожчык, і чаго перад ім крыўляецца сталяр, чаго гладзіць яго, як малое

дзіцё, па галаве рукою, якая запэцкана ў чырвоную фарбу.

Урэшце худому і доўгаму Прэйсу з вялікімі намаганнямі ўдалося падняць на ногі свайго субутэльніка, і яны ўдвух, хістаючыся падаліся ў сталярку.

Адзін хворы, якому ў гэты сонечны травенскі дзень удалося ад медперсаналу збегчы на двор, каб падыхаць свежым паветрам, доўга з замілаваннем назіраў за імі і ўрэшце зазначыў:

- Ну, малайцы! Яшчэ няма дванаццаці гадзін, а яны не могуць на нагах стаяць.

Прэйс пасадзіў Кузянкова на адзінае ў сталярцы крэсла, у якога была зламана адна нага, і даў паперы выцерці кроў.

Каб падтрымаць сілы свайго сябра, сталяр дастаў з шафы пляшку віна, якую яму перадалі за адну паслугу. Ён выцягнуў адтуль яшчэ шклянку, дзьмухнуў у яе, і яму ў твар паляцела смецце. Рэшткі смецця Прэйс дастаў пальцамі і пачаў наліваць віно.

- Колькі? - запытаў ён у Нічыпара, нібы наліваў яму ўпершыню.

- Краёў не бачыш? - запытаў ў сваю чаргу Кузянкоў і смачна аблізнуўся.

У імгненне вока вартаўнік-конюх апаражніў шклянку і стаў глядзець у вочы сябру з надзеяю, што той нал'е яшчэ, але сталяр зрабіў выгляд, што нічога не разумее і паставіў бутэльку на стол. Кузянкоў з болем у сэрцы зразумеў; наліваць яму болей не будуць і пачаў гаворку пра падзеі, у выніку якіх ён стаў ахвяраю.

- І ён пайшоў?

- Хто?

- Нябожчык.

- Вядома, пайшоў.

- Якія цуды на свеце не здараюцца! Памёр чалавек, а затым ажыў.

- Якія цуды… Што ты плявузгаеш? Проста яго п'янага ў сцельку падабралі на вуліцы і сунулі ў нашу міністэрскую палату, а затым ноччу прывезлі раённага верхаводу - Крыніцу. Ткнуліся туды, а там чалавек. Спяшаліся дагадзіць начальніку і не разабраліся. Ведаеш нашых канавалаў! Трапіш у іх рукі - жывым не выйдзеш. Спаў чалавек моцна пасля добрай гулянкі, а яны - памёр…памёр - і шась яго ў трупярню.

- Ай-яй-яй!

- Вось табе і ай-яй-яй. Я так думаю.

Выказаць сваю думку да канца сталяру не давялося, Нічыпар Кузянкоў з маланкавай хуткасць схапіў са стала бутэльку з віном і, ні хвіліны не раздумваючы, перакуліў яе ў рот. Прэйс рашуча пайшоў на абарону кроўнай уласнасці, але калі ён вырваў з рук конюха-вартаўніка

бутэльку, то там заставалася не болей паўшклянкі віна. Тады ён дапіў рэшткі - што ж рабіць, не пакідаць ворагу! - і ўжо пустою бутэлькаю замахнуўся на таго, хто так бязбожна пакрыўдзіў яго і каго зусім нядаўна ратаваў ад смерці.

- Хворых не б'юць! Хворых не б'юць! - у крыку Кузянкова былі страх і адчай адначасова.

Прэйс не стаў біць Нічыпара, але ўсё ж ад лютай злосці згроб у жменю са стала стружкі і шпурнуў яму ў твар.

- Усе міжнародныя канвенцыі, якія дарэчы, прызнае і Савецкі Саюз, забараняюць здзекавацца над раненымі і хворымі. Запомні гэта і не рабі так болей! - Кузянкоў зразумеў, што яго біць не будуць, і таму, страсаючы з сябе смецце, гаварыў спакойна ды памяркоўна.

Сталяр канчаткова не супакоіўся і на розныя паказкі чалавека, які сядзеў перад ім - напляваць хацеў. Ён увогуле не прызнаваў ніякіх аўтарытэтаў, ніякіх законаў. Нават сам не верыў у свае ўласныя абяцанні - яму таксама даўным-даўно перасталі верыць, і калі ён кляўся ды абяцаў, што абавязкова сёння зробіць - ніколі не рабіў. Гэта быў яго прынцып.

Яшчэ не раз на Кузянкова ляцелі стружкі, апілкі і чулася звычайная лаянка.

- У-у… гніда… апівошына. Ты заміж таго, каб піць чужое пайшоў бы да гэтага Крыніцы і спытаў бы яго, чаму твайму сыну ўжо дзесяць гадоў не даюць кватэры, хоць ён першы на чарзе.

- І пайду… і спытаю…

- Ты спачатку морду абмый, пытала. А потым ідзі.

- А як ты думаў. Змыю кроў і пайду.

- Ідзі, ідзі, гарляк бяздонны! - абурана закончыў Прэйс, нібы сам ніколі не браў гарэлкі ў рот.

## XVI

Пасля таго, як з палаты выйшаў маладзенькі доктар, у Крыніцы адлягло ад сэрца. Будучыня перад Антонам Пятровічам зноў стала светлай і чыстай, з утульным кабінетам і чорнай “Волгай”, першы рад у прызідыумах шматлікіх паседжанняў, шчодрыя апладысменты на кожнае сказанае ім глупства, пакорлівасць жанчын і шчырая ўсмешка задалізаў: "Антон Пятровіч! Антон Пятровіч!". Усё гэта бясконца мроілася перад вачыма першага сакратара райкама.

Падыходзіў час, калі ў палату павінен быў завітаць той самы доктар з выратавальным дыягназам. І сапраўды, дзверы палаты адчы-

ніліся, але на парозе з'явіўся не доктар, а… інструктар райкама партыі Стручкоў - падхалім і баязлівец. На гэты раз інструктар паводзіў сябе незвычайна, не так, як заўжды - смела, незалежна і нават нахабна. Упэўненым і рашучым крокам ён зайшоў у палату, не прывітаўся, а зычным голасам дыктара рэспубліканскага радыё, які распавядаў поспехі жывелаводаў у сацыялістычным спаборніцтве, сказаў:

- Рыхтуйся! Хутка да цябе завітае дэлегацыя.

Крыніца ўсё зразумеў, але тым не менш паводзіны былога падначаленага яму былі не да спадобы. І ў наш светлы час перабудовы ён не прывык да такіх зваротаў, дык таму ўзнікла старое пякучае жаданне - трэба прыструніць.

- Ой! Неяк ты, птушачка-раганосец, па-асабліваму заспяваў?

- Маю поўнае права. Галоснасць у нас, - пачуў Крыніца рашучы і злы адказ.

- І хто ж даў табе такое права?

- Перабудова дала.

- І даўно яна пачалася?

- У нас, можна сказаць, сягодня.

- Напэўна, з самага ранку?

- Не трэба так! Не трэба! Пакамандаваў і хопіць. Дай іншым праявіць сваю ініцыятыву…

- Да карыта свінні захацелася дабрацца, каб пасёрбаць уволю. Маўчы, халуй! Я з табою яшчэ разбяруся…

Інструктар Стручкоў не стаў болей спрачацца са сваім ужо былым начальнікам, а павярнуўся і выйшаў.

- Усё! Гэта канец.

Ад пачутага Крыніцы зрабілася млосна і горача. Перад вачыма паплылі чорныя кругі.

"Ён ужо служыць новаму гаспадару. Шчанюк! Я ж яго невука падабраў, лічы, пад плотам. Абуў, адзеў ва ўсё імпартнае. Без усялякай чаргі даў яму кватэру.

- Ну і людзі… Ну і людзі… Колькі ім не рабі дабра - падзякі ніякай… Ах, Божа!..Божа, ты мой Божа!.. - Крыніца, актыўны прапаведнік атэізму ў мінулым, стаў у апошні час шчырым верніка. - Няўжа мне не будзе ніякага паратунку. Уся надзея на Цябе.

У партыйнай веры Крыніца быў цвёрды, як камень ды непахісны, як дуб і лічыў сябе ідалам гэтай веры, і прымушаў, каб з яго слоў, а не з кніжак верылі астатнія. Гэтых неслухаў, хто верыў кніжкам ці верыў проста болей, чым ён, называў ерэтыкамі. І дадзенаю яму ўладаю паліў іх: выключаў з партыі, здымаў з працы, даводзіў да турмы і торбы, а

ўслед той нечысці, як попел з вогнішча, які раздзьмухвае вецер, ляцелі яго праклёны: маральна няўстойлівы, выпівоха, бабнік, дысідэнт.

Антон Пятровіч Крыніца не быў набожным чалавекам і да гэтага часу ніколі не сумняваўся ў адсутнасці Бога, Для яго было ўсё адзіна што Бог, што супастат - усяроўна, але прыпёрты, як кажуць людзі, абставінамі, ён вырашыў адступіць ад сваіх цвёрдых прынцыпаў ваяўнічага атэізму і звярнуўся да гэтага "яснавяльможнага пана" з просьбаю… Не! Не! З малітваю. Усе вернікі звяртаюцца да Бога з малітваю. І яму здалося, што ў гэты момант Бог забыўся пра голых і босых, пра жабракоў, галодных, халодных, калек, хворых, нават не звяртае ўвагі на Папу Рымскага і патрыярха Усея Русі, а слухае толькі яго аднаго: самага няшчаснага, самага гаротнага, бедалагу з бедалаг - Антона Пятровіча Крыніцу. Яму яшчэ здавалася, што яго голас гучыць у вушах Бога значна мацней, чым галасы іншых людзей, якія звяртаюцца да Усявышняга па дапамогу, абарону, у пошуках справядлівасці, падтрымкі, аб літасці.

Першы сакратар ураз забыўся пра свае антырэлігійныя ўчынкі (знішчэнне ў раёне па яго загадзе цэркваў, касцёлаў, капліцаў, спілаваныя на прыдарожных магілах крыжы) і стаў рэлігійным фанатыкам, які пад час малення губляе розум, уваходзіць у экстаз і ўсё зямное для яго перастае існаваць. Маліўся ён зацята, ад шчырага сэрца, як святар у дзень сваёй першай службы ў новым прыходзе.

Тут Крыніца заўважыў, што ў палаце ёсць яшчэ нехта. Ён расплюшчыў адно вока і ўважліва паглядзеў. Так і ёсць - чалавек, і даволі дзіўнага выгляду: сівая барада, сівая галава і нешта доўгае накінута на плечы - ці то плашч вайсковы, ці то балахон. Хіба ўсё добра разгледзіш адным вокам?! Хто гэты незнаёмец - Бог? Бог! У Крыніцы не было ніякага сумнення.

"Гэта маё выратаванне", - узрадаваўся ён і тут жа разгубіўся, бо не ведаў, як трэба звяртацца да самога Бога. Як зваць яго? Для Антона Пятровіча ўсе людзі былі таварышы. Назваць незнаёмца такім чынам ён палічыў вялікай рызыкай: можа пакрыўдзіцца. Сказаць Богу "грамадзянін" у Крыніцы не паварочваўся язык. Несур'ёзна. Які ж ён грамадзянін? Ужыць слова "пан" было ніжэй яго партыйнай годнасці. Калі ён сам зрабіўся партыйным панам, то з усіх трыбун і на ўсіх нарадах гарлапаніў, што ў нас усе роўныя. Першае імя, акое ўспомніў Крыніца - Бахус. Добры бог, але не той, які яму патрэбны зараз. Потым успомніў імя Зеўс, але неразлучнае з ім словаспалучэнне "ў старажытнагрэцкай міфалогіі" патушыла агеньчык надзеі.

Першы сакратар райкама валодаў вялікімі гістарычнымі ведамі і таму прыпомніў яшчэ Пяруна. Але ўсходнеславянскі паганскі бог

адразу страціў яго давер.

У час роздуму Крыніца на некалькі хвілін заплюшчыў вока, але калі расплюшчыў зноў, то пабачыў, што гэты незямны прывід наблізіўся да яго… спыніўся ля самага ложка… стаіць і шморгае, як малое дзіцё, носам.

З грудзей першага нечакана вырваўся ўздых.

- О, Божа!

… І цуд! Адбыўся цуд! Бог загаварыў з ім… Нетаропка, разважна, павучальна.

Усё, як належыць Усявышняму.

- Ах, цяпер табе Бога падавай, грэшная твая душа!

- Вінаваты! Вінаваты! Злітуйся!

- Літасці просіш? А шкадаваў ты тых, каго без віны караў…

- Вінаваты… Але будзь справядлівым, Усявышні, выслухай…

- А ты сам усіх слухаў, да ўсіх быў справядлівы.

- Вінаваты, каюся!

- Ты ўсё жыццё карыстаўся чужою працаю. Абіраў, каго толькі мог.

- Пакінь на былой пасадзе. Усё буду рабіць па справядлівасці. Абяцаю. Прысцябаяў выганю. Усё дабро людзям раздам…

І ў знак таго, што сказанае ім будзе здзейснена, Крыніца перавярнуў сумку і ўсё, што знаходзілася ў ёй выпала на падлогу. Бутэлька з армянскім каньяком пакацілася прама да ног Нічыпара Кузянкова. Ён, як толькі пабачыў бутэльку, адразу забыўся пра патрэбу, з якой прыйшоў да першага сакратара. Вартаўнік-конюх хуценька схапіў яе, і ўжо ніякая сіла не магла прымусіць яго вярнуць падарунак грознага ўладара.

Крыніца працягваў гаварыць. У яго голасе - поўная безнадзейнасць. Але калі ён пабачыў, што невядомая істота падняла з падлогі грэхаводнае і крахаборнае зелле, то сам не ўстаючы з ложка дацягнуўся да дзікавага кумпяка, які ляжаў побач, падняў яго і падаў.

- Вазьмі… Вазьмі ды раздай галодным і жабракам…Скажы…Усім скажы, што Антон Крыніца нічога для людзей не шкадуе… Ён апошняе аддасць ім…

Незнаёмы прывід узяў кумпяк, але стаў паводзіць сябе, як самы звычайны чалавек: знік і не прамовіў ні слова.

Надалей партсакратар маліўся, як умеў. Як навучыў яго наш айчынны кінематограф, бо ён, Крыніца, нідзе болей, акрамя кіно, не бачыў, як сапраўды моляцца людзі і ніколі не чуў сапраўдных малітваў, калі не браць да ўвагі яго партыйныя пропаведзі.

- Божа! Злітуйся! Божа! Ты ўсё можаш! Усё ва ўладзе Тваёй, як у

свой час маёй. Ты ўсё ведаеш. Калі ўжо нашы людзі будуць задаволены ўсім, калі іх вантроба пад завязку будзе набіта ежаю, калі яны ўдосталь нацешаць сваю прыхамаць, калі яны перастануць пісаць скаргі, даносы, узводзіць на мяне паклёпы? Божа, адкажы! Я табе за гэта… бутэльку "Напалеона" пастаўлю. Божа-а!..

На тым малітва Крыніцы скончылася. Ён змоўк і прыслухаўся. Цішыня. Не чуваць малінавага звону. Не трубяць анёлы свае пераможныя песні… І Бог маўчыць. Ні гу-гу!

Тады Антон Пятровіч вырашыў паўтарыць сваю малітву і паўтарыў, а ў канцы паабяцаў падарыць Богу сваю чорную "Волгу".

"Хіба шкада! Усяроўна не новая. Калі застануся першым сакратаром, дык сабе пяць машын здабуду". Скончыў. Прыслухаўся. Цішыня. Толькі ледзь чутны шоргат і ўсхліп крануў яго слых. І зноў усё аціхла.

"Беражонага, Бог беражэ!" - падумаў пра сябе першы, злажыў, як нябожчык, рукі на грудзях, заплюшчыў вочы, моцна застагнаў і стаў маліцца далей.

Калі Крыніца скончыў гаворку і на хвіліну да яго вярнулася свядомасць, то ён пабачыў раскіданыя па палаце свае рэчы, абглыданую качку, дзве пустыя бутэлькі з-пад піва, каўбасу.

"Усе адвярнуліся ад мяне!"

Ад гэтай думкі яму зноў стала блага.

Няма на гэтай зямлі паратунку Крыніцы. Ніхто не заступіўся за яго, ніхто не працягну яму рукі дапамогі. Не быць яму болей першым сакратаром. Не быць - а так хочацца, і ён ураз адчуў, што яго жыццё згубіла ўсякі сэнс. Страчана такая пасада - і няма чаго жыць далей!

Ён сёння ўжо ў другі раз - цяпер канчаткова і беспаваротна - злажыў рукі на грудзях і без стогнаў, без войкання, без цяжкіх фізічных мук адышоў у іншы свет з вялікаю надзеяю на светлае начальніцкае жыццё там, у раі, і на пасмяротную рэабілітацыю з абавязковай пастаноўкай помніка тут, на гэтай грэшнай зямлі, якая расцвіла на яго садовым участку, і то дзякуючы вялікім намаганням хаўруснікаў.

## XVII

Доктар Астапчык закончыў пісаць гісторыю хваробы зусім здаровага чалавека, паклаў на стол ручку і на хвіліну расслабіўся: справа зроблена. Зроблена чыста - ніхто не падкапаецца. Упершыню ў сваім жыцці Астапчык разважаў практычна: "Я прымушу яго стрымаць абяцанне. Усё ў маіх руках…" Каб адчуць, што гэта менавіта так, ён нават сціснуў пальцы ў кулакі. Атрымалася вельмі добра, і сам сабе Сяргей,

нібы вопытны капітан, дадаў: "Так трымаць". Засталася толькі адна дробязь - устаць і занесці амбулаторную картку ў аддзяленне, дзе ёй і належала быць.

Гэтаму маленькаму ўчынку не суджана было здзейсніцца. У кабінет зноў уварваўся галоўны ўрач. Ён меў раз'юшаны выгляд, але па яго паводзінах відаць было, што ён на хвіліну разгубіўся. Пакой, у якім урач Астапчык прымаў хворых, быў з паўночнага боку, і таму сюды ніколі не заглядвала сонца, а пры выключаным асвятленні тут заўжды было шэра. Чорны акуляры зусім засланялі Улановічу святло, і каб штонебудзі пабачыць, давялося зняць іх.

Спартсмен быў добрым мастаком. Партрэт Улановіча ён "размаляваў" удала: чырвоныя ад крыві вочкі-зоркі мелі вельмі страшны выгляд. Яго позірк напамінаў позірк людаеда, які назіраў за ахвяраю з пячоры.

Сяргей Астапчык адразу зразумеў, што яго зараз не проста будуць трэсці, а нават біць і, магчыма, яго галавою пробаваць на моц мураваныя сцены. Медыцынская сястра таксама мела такую думку і таму хуценька падбегла да шкляной шафы і ўшчарэпілася ў яе абедзвюма рукамі.

Доктар схапіў са стала картку і падаў свайму грознаму начальніку, каб хоць неяк зменшыць гнеў.

- Усё гатова. Усё напісана.

Галоўны ўрач чамусьці не ўзрадаваўся такой пунктуальнасці свайго падначаленага, а наадварот, яшчэ болей раззлаваўся. Ён выхапіў з рук амбулаторную картку, нават не зазірнуў у яе, а адразу разарваў на дробныя кавалачкі, шпурнуў іх на падлогу і стаў таптаць нагамі. Таптаў доўга, радасна, з істэрычным натхненнем, быццам тыя паперкі маглі прынесці яму вялікую бяду, гора ці страшнае няшчасце.

Гэта была асабістая помста галоўнага ўрача першаму сакратару райкама.

Рытуальны танец абарыгена з Малых Антыльскіх астравоў у выкананні Сцяпан Сцяпанавіча працягваўся не менш пяці хвілін. Ад шалёных скокаў ён прытаміўся, упрэў, а гнеў яго зменшыўся. Трэсці свайго падначаленага галоўны ўрач не стаў, але тым не менш выгаварыўся:

- Ты мне такім глупствам не займайся. Паглядзі, колькі да цябе хворых прыйшло. Ты ж клятву Гіпакрата даваў. Кляўся, што будзеш дапамагаць ім. А ты?.. Ты забыў гэтыя святыя словы і дзеля выратавання прахвоста і злодзея сядзіш тут, марнуеш час і псуеш паперу. У-у!.. Глядзі ў мяне! - і для большага выхаваўчага эфекту патрос яшчэ кулаком.

Улановіч павесіў на нос акуляры і выйшаў.

Хірург Астапчык урэшце распачаў прыём хворых.

Пацыентаў сапраўды было шмат, але пяць гадоў урачэбнай практыкі навучылі доктара з першага позірку вызначаць, трэба хвораму: бюлетэнь, лекі, парада ці проста доктар.

…Прыём пайшоў хутка. Хворыя са стосам рэцэптаў на руках выходзілі ад доктара, а наўздагон чулася патрабавальнае: “Наступны… наступны… наступны...”

У час прыёму з доктарам пачало тварыцца нешта неверагоднае і дзіўнае. Ён раптам пачаў спяваць: не тое, каб мармытаць сабе пад нос, як гэта робяць іншыя людзі, калі маюць цудоўны настрой. Настрой у доктара быў кепскі, ды спяваў ён гучна, амаль што крычаў… Праспяваў так "Калінку" ад пачатку і да канца. Затым старой бабцы пракурэкаў, як курыца на бяду, "Вочы чорныя!", і жанчына пачала падпяваць яму. Пасля зацягнуў пра Сценьку Разіна, які ўтапіў князёўну пасля таго, як пераспаў з ёю ноч: ці то не спадабалася яна яму, ці то век быў такі і норавы дзікія - паспрабуй разбярыся без пляшкі гарэлкі. Сумная вельмі песня і, магчыма, таму доктар спяваў яе да канца не стаў, а пачаў распавядаць анекдоты. Усе анекдоты былі на прафесійныя тэмы. Гледзячы на адну бабулю, ён вельмі сур'ёзна запытаў у медсястры: "Лячыць будзем, ці няхай жыве?".

Васьмідзесяцігадовая жанчына не зразумела гумару, а хуценька, схапіўшы амбулаторную карту, выйшла з кабінета. Другая бабка, наадварот хацела, каб гэты вясёлы доктар пацешыў яе яшчэ чым-небудзь, давялося сілай выпіхаць бабку за дзверы. Адну маладую дзяўчыну, якая парэзала нагу, ён пагладзіў па калене і крыху вышэй, затым ушчыпнуў за бок ды гарэзліва падміргнуў. Дзяўчыне вельмі спадабаўся вясёлы ды прыгожы доктар, і яна пашкадавала, што не параніла другую нагу, бо тады доктар, напэўна, пагладзіў бы яе за другое калена і вышэй, ушчыпнуў бы за другі бок ды падміргнуў бы яшчэ раз.

"Які цудоўны гэты доктар-сімпацяга!"

Другая дзяўчына, у якой была паранена рука, не зразумела жартаў Астапчыка і здароваю рукою, што было сілы, адвесіла яму аплявуху. Медсястра стала падазрона глядзець на доктара. Ён ніколі не быў такім: заўжды сур'ёзны, стрыманы, ветлівы.

Апошнім у доўгай чарзе хворых і сімулянтаў былі два пацыенты: муж Наташы Галавач і муж Кацярыны Макейчык. Яны ўвайшлі ўдвух і спыніліся, як толькі пераступілі парог, нібы сваты перад бацькавай хатай маладой.

- Слухаю вас, - сказаў доктар, бо пацыенты маўчалі.

Вясёласць у яго знікла, а на яе месца прыйшоў страх. Яму падалося, што намер сустрэцца з Наташаю сягодня выкрыўся і муж Натажы са сваім сябруком завіталі сюды дзеля таго, каб паквітацца з ім.

Людзі, якія увайшлі працягвалі маўчаць і сарамліва зыркалі, то адзін на аднаго,то на доктара, ад гэтага страх у Астапчыка толькі ўзмацняўся.

- Ну, слухаю вас. Слухаю.

- Мая жонка, Наташа, была ў вас на прыёме і…

Астапчыку здалося, што яго абдалі кіпнем і адразу кінулі ў палонку з ледзяною вадою. Муж Наташы Галавач на хвіліну змоўк, і ў пакоі ўсталявалася жудасная нямая цішыня, толькі доктар, нібы галодны воўк, клацаў зубамі.

- І мая жонка, Кацярына, была ў вас на прыёме…

Астапчык заклацаў зубамі яшчэ мацней

- …яны казалі, што вы добры чалавек.

- …казалі-казалі.

У доктара пачала трэсціся галава.

- Шаноўны доктар, - гаварыў муж Кацярыны Макейчык, які пазычаў Астапчыку капейкі. - Вы добры чалавек!.. У нас медагляд. Падпішыце нам амбулаторныя карткі.

- Па-дыдзі-це блі-жэй.

Мужчыны падышлі да стала і падалі доктару амбулаторныя карткі, упэўненыя, што той іх адразу падпіша. Церпкі пах, які ішоў ад іх, вярнуў Астапчыку свядомасць, і яму сапраўды захацелася, як мага хутчэй пазбавіцца ад надаядлівых пацыентаў.

Зазваніў тэлефон, па якім ён, Астапчык, у прысутнасці медсястры вёў толькі службовыя перамовы.

Званіла Наташа. Голас яе быў сур'ёзны і ўзбуджаны.

- Так, значыць, вы сягоння на спатканне сабраліся? - пачала яна размову без усякага ўступу.

- Што-небудзь здарылася? - Астапчык быў падобны на малое дзіцё, якое нават не здагадвалася пра сваю правіннасць перад дарослымі.

- Нічога не здарылася. Усё нармальна, - адчувалася, што яна вось-вось заплача.

- Ты не маеш магчымасці прыйсці?

- Вядома, маю. Але мяне ніхто не запрашаў… Я нікому не патрэбна, - у трубцы пачуўся ўсхліп.

- Я ж табе тэлефанаваў! Я ж цябе клікаў!

Далей Наташа гаварыла скрозь слёзы:

- Табе прыснілася. Ты Кацюньцы званіў. Гэтай дурніцы, а не

мне. Гэта ты ёй прызначыў спатканне…

Астапчык зразумеў сваю памылку, якую ўжо нічым нельга было выправіць.

-…а я, як самая апошняя, пільную яго кожны божы дзянёк, каб толькі пабачыць. Штодзённа званю, каб толькі пачуць яго голас, а ён гэтай… лярве прызначае спатканне. Каму? Яе ўвесь горад ведае.

Сяргей ўжо не звяртаў увагі на людзей, якія прысутнічалі тут, а памкнуўся растлумачыць Наташы, чаму здарылася так, але яна не захацела слухаць.

Астапчыку ўжо ў каторы раз зрабілася млосна.

Муж Наташы Галавач ўсміхнуўся і супакоіў яго.

- Доктар! Вы не хвалюйцеся. Усё будзе добра. Яна зноў пазвоніць вам. Я іх ведаю. Яны такія. Вось і мая Наташа кажа пра вас: "Я за ім хоць на край свету".

І зноў ў галаве доктара пачало дзынькаць, і зноў ён заспяваў. Заспяваў "Вячэрні звон". Калі скончыў першы куплет, то загадаў сваім пацыентам:

- Так, хлопцы! Здымайце парткі. Агаляйце адно месца. Я вам для прафілактыкі шпільну па ўкольчыку і тады толькі падпішу вашы амбулаторныя карткі, - Астапчык назваў медсястры ўколы, якія належыць даць "хлопцам для прафілактыкі".

У жанчыны падняліся ўгару валасы, і яна ад перапуду пачала заглядваць доктару ў вочы, каб упэўніцца; жартуе ён ці не.

- Няма чаго саромецца. Вы ж дарослыя людзі. Здымайце! Здымайце! Пасля ўколаў вы спакойна можаце хадзіць у жаночую лазню.

На жарт гэта было не падобна.

- Доктар! - узмаліўся муж Кацярыны. - Памятаеце, доктар! Мы вам капейкі пазваніць давалі.

- Капейкі, - паціху адклікнуўся яго напарнік. - Я ж табе казаў, што давай клікнем яго на сто грам. А ты - самім мала! Самім мала! А цяпер вось…

Доктар зацягнуў "Птушачку-канарэечку".

Медсястра ўзяла карткі пацыентаў і падпісала іх. Затым вярнула іх недарэчным пацыентам і позіркам паказала ім на дзверы, але хлопцы і самі былі за парогам.

Сяргей закончыў "Птушачку-канарэячку" і заспяваў "Вясельную".

У пакой зайшлі пацыенты без запісу: джынсавая Зіна, Ванька Бубянцоў і яго маці. Ванька Бубянцоў быў падобны на жаніха ў першы дзень вяселля: белая, як снег, кашуля, новенькі касцюм, модны гальштук,

"фірмовыя" чаравікі. З вялікай радасці, што яна нарэшце стала ўдавой, абнову мужу-нябожчыку прыдбала сягодня зранку за ўласныя грошы Зіна Бубянцова. І ва ўсё гэта быў апрануты жывы, але не памыты Ванька. Джынсавая ўдава несуцешна плакала ад скрухі, што муж жывы. Ванька Бубянцоў маўчаў, а гаварыла толькі маці:

- Людцы, добрыя! Дай вам Бог, людцы, за майго сыночка. Выратавалі Ваньку. З таго свету вярнулі. Мы ўжо былі ў галоўнага ўрача, старшай медыцынскай сястры; мы ўжо ўсе кабінеты абышлі. І вам дзякуй кажам.

Выказаўшы сваю шчырую падзяку, яны пайшлі: паперадзе маці, за ёю нявестка і побач - сын.

Зінка плакала, а Ванька суцяшаў яе, як мог:

- Ну што ты равеш, як карова. Заглухні. Галава балець будзе. Жывы я. Жывы. Не раві, кажу. Болей піць не буду. Ніколі гэтай атруты ў рот не вазьму. Пакіну сваю кантору і пайду ў кааператыў. Там людзі мяшкамі грошы носяць… Машыну купім… Ты толькі не раві.

Астапчык спяваў усё мацней і мацней. Затым перастаў, бо стаміўся і пачаў ірваць на шматкі ўсе паперы, якія трапляліся пад руку, а калі ў пакой зайшлі "добрыя малойцы" са "Станцыі хуткай дапамогі", то ён ляжаў ужо на стале і намагаўся даплюнуць да столі. На доктара калегі наваліліся знянацку, скруцілі яго і звязалі, далі нейкі ўкол і аднеслі ў палату пад нагляд іншых калег.

## XVIII

У той час, калі Саваоф і Люцыпар ваявалі за тое, каб не быць шчаслівым уладальнікам душы нябожчыка Антона Пятровіча Крыніцы, да раённай бальніцы пад'ехалі дзве чорныя "Волгі" і ў іх прадстаўнічая дэлегацыя, якую ўзначальваў былы першы сакратар абкама партыі некалі грозны Анатоль Салавейчык.

- Сцяпан Сцяпанавіч! - у кабінет галоўнага ўрача забегла перапалоханая сакратарка. - Прыехалі дзве чорныя машыны.

Страх скаваў волю і розум Улановіча.

- Ды, вунь… У двары…

- Як? Яны ўжо тут… Мяне няма… Я на паседжанні… А вы ідзіце абедайце.

"Не, на вочы камісіі я не пакажуся. К чорту іх усіх. Я ім непатрэбны. Няхай яны самі Крыніцай… Божа ты мой! Выйсці адсюль незаўважаным ужо немагчыма. Але куды схавацца? Куды?.. Ах, так!.. Ну, вядома, у туалет. Самае надзейнае месца".

Каб не было сумна праводзіць дабраахвотнае зняволенне, Улановіч схапіў, не выбіраючы, стос папераў, якія ляжалі на стале. Гэта была справаздача абласному кіраўніцтву на дванаццаці старонках.

Ён зайшоў у кабіну, зачыніў дзверы і праверыў, ці надзейна. Надзейна - і з палёгкай уздыхнуў.

Ніхто не шукаў Улановіча і не думаў шукаць. Ён нікому быў патрэбны. Дарогу шаноўным наведвальнікам паказваў інструктар Стручкоў. Перад дзвярыма дэлегацыя спынілася і правяла пастраенне па ранжыру, дзе кожны заняў месца згодна са сваёй партпасадай.

У такім парадку яны зайшлі ў палату.

Пакой меў сумны выгляд: раскіданае адзенне, рэчы, пустыя бутэлькі, косці, аб'едкі - нібы тут спраўляла баль тысяча чарцей.

Салавейчык не звярнуў ніякай увагі на гэты пагром, а падышоў да нябожчыка, закрыў яму вочы і сумна прамовіў:

- Інакш жыць ён не мог.

Інакш жыць ён не мог! І кожны зразумеў гэта па-свойму. Толькі партсакратарка ўсміхнулася, але тут жа аціхла: нельга - нябожчык усё ж. А ўрэшце глянула на Салавейчыка: якія будуць указанні - можа плакаць.

Інструктар Стручкоў агледзеў пакой і сурова загадаў:

- Нічога не чапаць, ва ўсім разбярэцца міліцыя.

На што Салавейчык слушна заўважыў:

- Я бачу, ты сябе начальнікам вялікім адчуваеш…

Пакуль Салавейчык аддаваў камісіі распараджэнні па арганізацыі запланаванага толькі самім Усявышнім мерапрыемства, у двор райбальніцы заехала яшчэ адна машына і стала побач з чорнымі. З яе выйшлі тры мужчыны. Да іх адразу падбег інструктар Стручкоў і пачаў тлумачыць усё тое, што ён тут пабачыў, тлумачыць на свой лад. Мужчыны не мелі часу выслухваць яго і таму здзекліва папрасілі халуя пра ўсё тое, што ён хацеў сказаць напісаць на паперы ды яшчэ правесці іх у бальнічную палату.

Таварышы з белай машыны стрымана прывіталіся з таварышамі з чорных машын і выказалі сваё спачуванне. А адзін з іх афіцыйна зазначыў:

- Таварышы! Нягледзячы на ўсё гэта мы пачынаем працаваць. У нас будзе да ўсіх вас адна вялікая просьба: займайцеся сваімі справамі і не памірайце.

Стаяць Улановічу было кепска і незвыкла. Чытаць - тым болей. І ён вырашыў сесці на тое самае месца, куды сядаюць усе людзі ў гэтым

месцы. Для таго, каб было лепей сядзець, ён нават зняў порткі, хоць у гэтым не было ніякай патрэбы. Улановіч нават зняў чорныя акуляры, каб лепш бачыць, і пачаў упершыню чытаць справаздачу, якую заўжды падпісваў ды ніколі не цікавіўся, што там "нахімічылі яго барбосы". Пачаў чытаць толькі таму, што сядзець вось так на тым месцы без усялякага занятку - справа, вядома, сумная.

Справаздача зацікавіла галоўнага ўрача з першай сваёй старонкі. Тут усё было ясна, проста і зразумела, як недарэку-вучню: пытанне-адказ. Вось напрыклад: колькасць захворванняў грыпам за год? У справаздачы стаяла лічба - 427. Вось так! Улановічу стала вельмі цікава. Адкуль? Адкуль узялі такую лічбу? Яму захацелася зазірнуцьу інструкцыю па запаўненні справаздачы і пачытаць, як павінен весціся падлік захворванняў, але зрабіць гэта зараз ён не мог - яго дабраахвотнага сарцірнага зняволення ніхто не адмяняў, і амністыі пакуль не прадбачылася. Далей Улановіч падумаў пра каштоўнасць справаздачы. Возьме, скажам, гадоў праз пяцьдзесят нейкі чалавек гэтыя паперкі і прачытае, што ў такім-та раёне і такім-та годзе на грып хварэла 427 чалавек. Вось так! Цяпер усё зразумела?! Усе гэтыя справаздачы - такі каштоўны матэрыял для напісання кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый… пра наш недарэчны час.

А мы ўсё чагосці стогнем ды войкаем: паперкі заелі, паперкі заелі. Думаць, таварышы, трэба, думаць!

Пераходзячы да другога пункта справаздачы Улановіч зірнуў на сценку прама перад сабою. Там, ля дзвярной рамы, на ўзроўні вачэй, калі сядзець на гэтым месцы, нехта вельмі прыгожа вывеў надпіс: "Улановіч б…н", - і без сораму ўжыў брыдкае слова. Галоўны ўрач на хвіліну задумаўся, які гэта мужчына ў іх такі бабнік, што меў гонар быць тут увекавечаны. Стала вельмі-вельмі цікава. "Вось бы даведацца, хто такі? Такі грозны… Ды і прозвішча вельмі знаёмае". Ён перабраў у памяці ўсіх сваіх супрацоўнікаў, але яны, на жаль, мелі іншыя прозвішчы. Галоўны ўрач паразважаў безвынікова некалькі хвілін і вярнуўся да свайго занятку. Другі пункт той справаздачы пытаў пра расход лекаў для лячэння колькасці хворых, якая была ўказана у першым пункце. Сцяпан Сцяпанавіч прачытаў і таксама адзначыў для сябе важнасць і гэтага пункта, бо тут можна зрабіць адно вельмі важнае заключэнне: расход лекаў павінен адпавядаць пэўнай колькасці хворых. Вытворчасць лекаў у нашай краіне, згодна з планам, расце з году ў год, а, значыць, з году ў год павінна расці колькасць хворых.

У гэты момант выпадкова ўпала на падлогу тытульная старонка справаздачы. Галоўны ўрач, не сыходзячы з наседжанага месца, з вялі-

кімі намаганнямі аж з трэцяй спробы ўсё ж падняў паперу і пачаў здзьмухваць з яе пыл і пясок. Тут ён пабачыў прозвішча на тытульнай старонцы пад словам: "Зацвярджаю". Прозвішча галоўнага ўрача райбальніцы супадае з прозвішчам, напісаным на сцяне. Ён яшчэ раз глянуў з дакорам на сценку, затым на справаздачу, і з усяго гэтага зрабіў лагічную выснову: "Галоўны ўрач раённай бальніцы Улановіч - б-н". Але тут ён сам сабе сказаў: "Пачакай-пачакай. Па-ча-кай!" - і пачаў далей рабіць вельмі важкія лагічныя адкрыцці: "Галоўны ўрач раённай бальніцы - ён. Та-ак! І прозвішча ў яго сапраўды Улановіч. Вядома, што та-ак. Значыць ён, Улановіч, - б-н." Ад гэтай святой прастаты ў яго засвярбелі рукі.

- Нягоднік! - слова само сарвалася з губ Улановіча.

У гэты момант па калідоры праходзіла жанчына - старшая медыцынская сястра. Аднекуль, як з-пад зямлі, да яе даляцела кепскае слова, і яна спалохана пачала азірацца па баках - хто і дзе лаецца? - але так нікога не пабачыла ды таму вырашыла, што нехта ні за што - ні пра што бэсціць яе, і моцна пакрыўдзілася.

Улановіч правёў пальцам па тым месцы, дзе быў напісаны бязглузды выраз. Правёў і ўпэўніўся, што зрабіў чалавек на дзіва сумленна, на доўгія гады, бо спачатку выдрапаў выраз цвіком - і пры гэтым вельмі прыгожа - затым, толькі, напэўна, дзеля таго, каб усё было бачна, абвёў алоўкам.

У роспачы Улановіч яшчэ раз правёў пальцам па сцяне.

- Нелюдзь! - на гэты раз прагучала яшчэ мацней.

Старэйшая медыцынская сястра вярталася назад. І на тым самым месцы, як і ў мінулы раз, невядомы голас грозна выказаў сваё незадавальненне. Не было ніякага сумнення - гэта адносна толькі яе. Яна спыніла сваю знаёмую, якая спяшалася на абед, і пачала шэптам тлумачыць сітуацыю. Тут зноў аднекуль прагучала кепскае слова.

Улановіч да болю сціснуў кулак і правёў ім па сцяне. Надпіс так і застаўся некранутым. Скруха. Са злосцю ён яшчэ раз зірнуў на сваё прозвішча на паперцы і на прозвішча, выдрапанае на сцяне, - выраз твару ва Улановіча стаў падобны на выраз твару першаадктрывальніка мегагалактыкі ў сузор'і Пярсея.

Прозвішчы, напісаныя там і там, супадалі ўсімі завітушкамі, злучнікамі і нахіламі. Нават літара "л" другая ў слове “б…н” была поўным адлюстраваннем гэтай літары. З такой радасці Улановіч зноў зароў кепскае слова, але шматкроць мацней. Ды паўтарыў некалькі разоў запар. Пры ўсёй відавочнасці таго, што гэтыя надпісы зроблены адным і тым жа чалавекам, Улановіч вырашыў усё ж, як след, правесці

індэтыфікацыю ўсіх літар. На другой старонцы справаздачы Сцяпан Сцяпанавіч знайшоў літару "я", якая цот у цот супадала з трэцяй літараю таго слова, што ўвекавечана на бетоннай сцяне. На гэтай жа старонцы ён адшукаў наступныя літары - "д" і "у". Яны таксама нічым не адрозніваліся ад тых, што былі напісаны на сцяне.

- Падла, - злосна вылаяўся галоўны.

Старшая медыцынская сястра і людзі, якія далучыліся да яе, каб дапамагчы разгадаць загадкавую з'яву, хутка вызначылі месца, адкуль вылятаў гэты страшэнны крык, і рашуча пайшлі на штурм мужчынскага туалета, але адчыніць кабіну яны не змаглі, бо яна была надзейна зачынена з сярэдзіны. Даводзілася чакаць і гадаць, з якой такой радасці крычыць чалавек, што зачыніўся ў гэтым кабінеце. Акрамя пакрыўджанай, тут сабралася чалавек дваццаць. Да натоўпу далучыліся следчы і міліцыянер, якія за кароткі час паспелі агледзяць палату, дзе памёр (магчыма быў замардаваны) першы сакратар райкама партыі таварыш Крыніца А. П., затым правялі бліскучую аперацыю па затрыманні падазроных асоб - вартаўніка Кузянкова і сталяра Прэйса, пад час якой здабылі вельмі важкія для следства звесткі: пустую пляшку з-пад армянскага каньяку і аб'едзены да косці кумпяк дзіка. Усе гэтыя факты былі занесены ў пратаколы.

Следчы бачыў тут змову і змоўшчыкаў, і… такое жаданае павышэнне па службе. Асабліва стараўся лейтэнант Піліпчук. Яму сёння ўрэшце пашанцавала. Яшчэ раніцой там, у лякарні, нейкая хворая жанчына змагла зразумець блытаную балбатню міліцыянера і паспачувала яму. Яна сказала, што гэта проста цуд, калі цябе проста пакусае сабака начальніка, а тым болей сабака першага сакратара райкама партыі. Пакусаны чалавек павінен ганарыцца гэтым. Піліпчук адразу супакоіўся і перастаў плакаць, бо пагадзіўся з бабкаю. А далей пачалося такое, чаго хлопец не мог пабачыць нават у самым казачным сне. Тут, у лякарні, яго знайшоў начальнік міліцыі, ад шчырага сэрца паспачуваў яго бядзе, затым на ўласнай машыне адвёз у райаддзел і запрасіў да сябе ў кабінет. Там ён пачаставаў яго каньяком ды ўрачыста паведаміў, што адмяняе ранішні загад, а за выдатную службу па ахове парадку аб'явіў падзяку і паабяцаў змясціць фатаздымак на Дошку донару. Урэшце начальнік міліцыі падпісаў рапарт лейтэнанту на водпуск. Піліпчук імкнуўся як мага хутчэй трапіць на Дошку гонару. Усё на яго думку складвалася так добра, але ў душы пасеяў зерня непакою інтэлегенцік Зотаў, які на яго думку, праз дзве гадзіны пачаў разбураць вясёлкава-вясельныя дalягляды, калі паставіў дыягназ, што Крыніца памёр ад інфаркту. Якое кароткае і страшнае слова. А як да гэтага адня-

сецца начальства?

А зараз… Зараз Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч схапіў апошнюю старонку справаздачы і ўрэшце прачытаў імя таго злачынцы, хто зрабіў гэты надпіс: загадчык хірургічнага аддзялення Смірноў К. Н.

Улановіч ужо не мог стрымаць сваіх пачуццяў.

- Падла! Я з ім яшчэ сёння піў спірт.

Ён што было сілы зноў сціснуў кулак і са злосцю зноў хацеў стукнуць па надпісе, але пахіснуўся і замiж сценкі патрапіў у дзверы. Кручок, на які зачыняўся шаноўны кабінет не вытрымаў удару і адарваўся.

Дзверы адчыніліся.

У нямой сцэне з п'есы вялікага Н. В. Гогаля толькі ў пастаноўцы мясцовых тэатралаў пачуўся голас следчага.

- Дакрычаўся, галубчык!

Міліцыянер Піліпчук хуценька схапіў "галубчыка" пад рукі, падняў з яго наседжанага месца і вывеў да людзей.

## X I X

Будаўніцтва новай паліклінікі ў раённым горадзе Н. (як звычайна паведамляе друк) ішло поўным ходам. Да абеду прывезлі толькі адну машыну раствору. Пасля абедзеннага перапынку сюды гэтыя машыны звычайна не заязджалі. Не заязджала і начальства. Рабочыя знаходзілі сабе занятак па магчымасцях, а некаторыя нават і па густу: хто забіваў "казла" ў даміно, хто рэзаўся ў карты, хто спаў, а хто проста загараў. Жанчыны таксама разышліся хто куды: хто ў краму, хто ў цырульню, а хто проста ў блуд. Адзін толькі Фунфырык, які яшчэ зранку заглыкнуў дзве пляшачкі цудоўнага напою з празаічнаю назваю "Клапамор", не мог знайсці сабе занятку. Ён прыставаў да сваіх таварышаў па кельме з адной толькі просьбаю: "Пастаў". Куды толькі не пасылалі яго людзі, што толькі не гаварылі - Фунфырык не крыўдаваў, аднак стаяў на сваім: "Пастаў". Урэшце ён падышоў да брыгадзіра, самага аўтарытэтнага тут чалавек, які валодаў вялікім запасам будаўніча-мацюкальных тэрмінаў, а яшчэ практыкаваўся ў іх ужыванні, выказваючы такім чынам сваю незадаволенасць пры гульні ў карты. Падышоў і рашуча прапанаваў:

- Давай пасправаемся!

Брыгадзір змоўк, бо сваім зваротам Фунфырык зблытаў яго думкі наконт таго, з чаго хадзіць: з туза "звонкі" ці шасцёркі "хрэсці".

Паглядзеў на сінюшнюю гулю, якая мела назву нос, затым на

спаленыя на сонцы растапыраныя вушы, паклаў на зямлю карты і працягнуў руку.

- Згодны!

Фунфырык схапіўся за працягнутую руку і імгненна выказаў сэнс спрэчкі і ўмову.

- На пляшку "чарвяка". Залезу вунь на той кран і пратрымаюся адной рукою дзесяць хвілін.

- Згода.

Праўда, пачуліся галасы сумнення, але Фунфырык іх не чуў. Ён быў на шляху да сваёй мэты. Яго не палохала вышыня, бо ўзнагародай за такую рызыку павінна была быць пляшка "чарвяка" - запаветная мара кожнага п'яніцы.

## XX

Бухгалтэрыя райбальніцы, якую размарыла амаль што летняя спякота, песцілася сітром мясцовай вытворчасці, у якім не было не толькі вуглякіслага газу, але і цукру. Намеснік галоўнага бухгалтара моршчылася, але ўсё ж дапівала гэты "цудоўны" напой з завода, дзе дырэктарстваў яе муж - не прападаць жа дабру! - і ў гэты момант абыякава кінула позірк на нерухомую стралу пад'ёмнага крана. На самай яго верхавіне вісеў чалавек, і яго кволае цела хістаў з боку ў бок цёплы ветрык.

- Бабанькі! Банік вунь павесіўся!

Жанчыны, як спалоханы натоўп дзікіх буйвалаў, з енкам рынуліся да акна, каб упэўніцца, што сказанае адпавядае існасці. Упэўніліся і за тым з гэткім енкам, крыкам, гвалтам кінуліся з пакоя і затупацелі па калідоры.

На шум з прыёмнай выбегла сакратарка і хацела ўжо разам з усімі бегчы ратаваць Банкевіча, але ў апошні момант перадумала і вырашыла паведаміць пра ўсё галоўнаму ўрачу. Абавязкі па пасадзе сталі вышэй за жыццё чалавека.

"Кіраўнік павінен ведаць усё!"

Улановіч упёрся локцямі ў стол, а далонямі абхапіў галаву і прыдуркавата глядзеў на свой залаты гадзіннік - падарунак цешчы "дарагому зяцю". Ён назіраў за тым, як марудна паўзе стрэлка гадзінніка. Колькасць секунд да канца гэтага працоўнага дня ён палічыў даўно, а цяпер толькі назіраў, калі гэты дзень скончыцца.

Увайшла ў кабінет сакратарка і ўраз усё пераблытала.

- Вунь, Банік на кране павесіўся.

Сказала тое яна не з далікатнасцю сакратаркі, а як жанчына - з лямантам.

З акна ў кабінеце галоўнага ўрача была бачна толькі частка крана, але затое ў правым куце былі відаць чалавечыя ногі, якія разам з тулавам хістаў вецер.

Падарунак цешчы "дарагому зяцю" раптам ператварыўся ў чорную пляму, сцены захісталіся, а потым пачалі падаць…

Калі сакратарка вярнулася назад і зайшла ў кабінет да галоўнага ўрача, каб распавесці пра ідыёцкія выбрыкі паўдурка Фунфырыка, які выйграў на спрэчку ў свайго брыгадзіра пляшку "чарвяка", то знайшла шэфа пад сталом у беспрытомным стане.

Рыгор Банкевіч, які перанёс нервовы стрэс, з усяго гэтага нічога не ведаў і не жадаў ведаць, а проста сціснуў у далоні руку сваёй былой жонкі, напэўна, каб не ўцякла, паклаў яе пад галаву і бестурботна спаў у сваім пакоі.

Шура Банкевіч, якая выпадкова даведалася пра няшчасце, што здарылася з былым мужам, збегла з працы, каторую гадзіну сядзела ля яго ложка і ўвесь час абдумвала тэкст скаргі ў Міністэрства аховы здароўя на прайдзісвета і бабніка - галоўнага ўрача раённай бальніцы.

А тым часам дачка Банкевічаў згодна з мамінымі парадамі рыхтавала вячэру на тры асобы.

Дуралесіца не скончылася!

ДУРАЛЕСІЦА ПРАЦЯГВАЕЦЦА!

1989 г.



Язэп Палубятка (Іосіф Іосіфавіч Палубятка) нарадзіўся 14.10.1955 г. на хутары Боркі ля вёскі Дашкаўцы Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці. У 1978 г. скончыў Белдзяржуніверсітэт па спецыяльнасці "Радыёфізіка і электроніка". Болей за дваццаць гадоў працаваў сувязістам у Мастах.

Першыя літаратурныя практыкаванні - раённая газета "Зара над Нёманам". У рэспубліканскім друку дэбютаваў у 1991 г. у "Маладосці" апавяданнем "Краб". У 1996 г. у гэтым жа часопісе выйшла аповесць "Вялікая жнівенская". У часопісе "Першацвет" (1993 - 1995 гг.) надрукаваны апавяданні "Белы конь", "Апошняя споведзь", "Маё дзіўнае вяселле". Творы друкаваліся і ў іншых выданнях ("Алеся" і г. д.). У часопісе "Крыніцца" № 6 за 1997 г. была змешчана аповесць "Вайсковае евангелле. Горкае дабравесце радавога Міхася Лабуты", якая была прызнана лепшым друкам года і ўганаравана прэміяй. У гэтым жа часопісе ў 2001 годзе свет пабачыла сатырычная аповесць "Прыгоды Мармулка". Аповесць "Дуралесіца", напісаная ў 1989 г., была надрукавана напачатку 2000-га года ў газеце "Наша слова". Язэп Палубятка доўгі час супрацоўнічаў з часопісам "Вожык" (болей за два дзесяткі гумарэсак). У 1995 годзе на конкурсе "У гэтым свеце рознае бывае…" прызнаны пераможцам. Ініцыятар стварэння літаратурнага дадатку "Літаратурная Беларусь" пры газеце "Новы час". Там жа друкаваўся.

Па розных выданнях змешчана болей за сорак трыялетаў.

У выдавецтве "ЛитВек" у электронным варыянце выйшлі дзве кнігі: "Прыгоды Мармулка" і "Вайсковае евангелле".

У 2023 годзе ў выдавецтве "Пружмень" выйшлі дзве гумарыстычна-сатырычныя кнігі Язэпа Палубяткі "Прыгоды Мармулка" і "Вандроўка ў Чыкага".

